# LATVIEŠU PADOMJU DZEJA

Divos sējumos 2

Redaktors
RIGORS BARADULINS

MINSKA
«MASTACKAJA
LITARATURA»
1984

# Латышская савецкая паэзія

Анталогія ў двух тамах 2

Рэдактар
РЫГОР БАРАДУЛІН

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1984

## Оярс Ваціецiс



* * *

Так, я пасвіў тады авечак.

Не толькі пастухоўства,
шмат чаго ўсе пачыналі мы
з «бэ» і «мэ».

Бацька, не злўйся.
Не папракай мяне больш ніколі,
што я пасвіў авечак.

«Фердынанды» — яны не атары.
«Юнкерсу» пуга не ў страх,
Одэр пераплысці...
А што змянілася б,
каб я тады пераплыў Одэр?

Я пасвіў тады авечак.
Ведаю сам, як гэта мала было.
Астатняе ўсё
ты за мяне зрабіў.
Дазволь мне сказаць,
як гэта многа было.

Не папракай, што я пасвіў авечак,—
я пасвіў
вашыя шынялі.

Дазволь мне сказаць,
як гэта шмат было.

Не папракай, што я пасвіў авечак,—
я пасвіў
вашыя шынялі.

* * *

Ясна, што багну трэба ў сабе асушыць,
Ясна,
Суперясна, каб жыць.
А праз мяне цяжкі, як стогн у бядзе, брыдзе
апошні зубр, што жыве ўва мне.
Учора ў траву ўпала і не ўстала зубрыха.
Ціха стала.
З ёю паў і не ўстане род,
якой бы травой сакаўной ні вабіў усход,
якой бы невераемна цёплаю ні была адліга.
Зуброў няма.
Той буры, што яшчэ клыгае аблогай,—
гэта толькі вырачаны абломак.
Фазаны.
Вядома, былі яны.
У маленстве быў перапоўнены я фазанамі.
Адзін яшчэ ўчора нявінна
мільгануў у траве ўспамінаў,
нават сеў мне на вейкі
і, дзіўны нейкі, спяваць захацеў.

Жахліва, як чалавечае сэрца малое надзіва!
Каб у яго прабіліся
гідрастанцыі
і атамныя станцыі,
мы ў сабе наіўна павінны
лясы некранутыя высякаць няшчадна,
чароўнасць прыроды знішчаць з размаху
і маліцца нейкаму супералаху
і супермячэці.
Зраблюся старамодным, урэшце,
як апошняя вера,
закіну сякеру
ў апошнюю, што ўва мне засталася, бабровую рэчку
за апошнімі маімі барамі ў верасе,
і, дарэчы, калі захочаце плакаць бабрамі —
плачце на сваім беразе.

## ДРАЎЛЯНЫЯ ЛЫЖКІ

*Дзеду Паўлу Ваціецісу*

Не ведаю, ці жонку сваю і сыноў
ён так мілаваў,
як палена,
з якога выходзілі лыжкі.

І чым меней палена сябе пазнавала,
і чым болей яно пачувалася лыжкай,
рукі рухаліся смялей...

Тады я не мог зразумець,
як яны рухаліся.
Цяпер я ведаю,

што прыкладна так размаўляюць
рукі Плісецкай.

Найдакладныя вагі
рашуча ён мог замяніць,
бо стружкі танюткай
з дакладнасцю
да сотніцы міліграма
вага такою была,
якую ўзважыла вока.

Рабіў ён таксама граблі.
Цэлымі днямі дрэва шукаў
на роўнае зуб'е.
Ён так і памёр, не пачуўшы
пра італьянца,
якога звалі Страдывары,
ды кожная рэч,
што зрабіў ён,
скрыпкай была
і не толькі для сэрца.

Лыжка была як нарцыс.
Ён ведаў —
часцяком будзе ў ёй крупеня нішчымная
і той не ўдосыць.

Хай жа хоць лыжка будзе
закрасай у голай поліўцы.

Грабелькі, як пер'інка, былі.
Ён ведаў,
як маладзіцы ўвярэджваюць рукі
ад цямна да цямна.

А ўночы яшчэ цыраваць шкарпэткі,
мужыкоў з абдымкаў не выпускаць.

Хай жа хоць граблі будуць
пушынкай-дзьмушынкай.

Ды лепей за ўсё, аднак,
рабіў ён лыжкі.

## МАСТЫ

Што за тэлепатыя
ў мастоў?
Чаму яны, нямыя
звычайна,
трывожным агнём
ахопяць сэрца зацята,
калі расстанне
нас разлучае?
Чаму ў раку манету
кідаем,
хоць на мосце гэтым
упершыню?
Бо ўсё ў жыцці
беззваротна.
Мы не вернемся ні
ў мінулую хвілю,
ні ў зніклую цішыню.
Выходзіць, мы манету
кідаем
у шапку невядомае
долі,
выходзіць, спыніць
кідаемся
тое, што нам не спыніць
ніколі.

Зноў гляджу на краты
моста нема,
быццам рыба на невад,
які яна не абміне,—
вецер, што берагі злучае, ў мяне
ў валасах,
плынь, што берагі разлучае, ў мяне
ў вачах.
Паяднаць, што не паядноўваецца,—
магія,
прыцягваць антыполюсы —
хітрасць,
мілосць,
настальгія,
астралогія.
Ноч.
І неба наўпрост.
І мост.

## ЗЯМЛЯ

Марыя, ты мне абяцала той ноччу, калі будуць
страляць у кожнага, хто ходзіць начамі,
разам са мной
ісці ўздоўж прыціхлага жыта, а калі
яно скончыцца,— да наступнага жыта
і зноў да наступнага, і датуль ісці,
пакуль я адчую, што ты — святая.

Цябе закапалі каля другога жыта, і доўга
з тваімі старымі мы лапацілі поле,
глыбокі жвірасты кар'ер перабралі, шукалі
цябе, ды потым другая ішла,

каб я падаўся за ёй, і засталіся старыя
капаць, пакуль не памерлі.

Марыя, зямля гэтая горкая, яна вяртае
толькі пот і працу і болей ні шэлега
ад тугі, ад болю, ад кахання, ад нянавісці,
гэтая горкая ад палыну, што нам назад
аддае пот і працу, аднойчы ўзяла да сябе
і згубіла ў сабе тую Марыю, якая
мне абяцала аднойчы святосць,
і слова стрымала.

Гэтая зямля святая.

## БАЛАДА ПРА ПАРТЫЗАНА МАТЫСАНА

Ці не сорамна
слухаць мяне, нямога,
ці страху не многа
змушаць сэрца змоўклае біцца...
Спакой,
дайце спакой мёртваму Матысану!
Спакой.
Над зямлёй.
Людзям.
Добра з розумам.
Добра.
Цяпер.
Нябожчыкі.
Не храпуць яны.
Розум спакойны.
Лепшыя выбірайце шпунты.

Добрую бочку.
Мацней.
Абручамі каханых рук.
Абручайце.
Ляпей.
Добры спакой.
Вар'яцтва неабходнае.
Тады згода.
Я зноў адыходжу.
Няўжо дагэтуль
вы яшчэ помніце твар мой...
Аблічча
Матысана адсутнага воблік.
Спакой.
Пад зямлёй.
Толькі там.
У іншым.
У іншых.
Памкненні іншыя.
Вабяць.
Пад зямлёй.
Тут мы.
Памкненні вашыя.
Спакой.
Усё вашае.
Мітусня.
Жарты.
Вабяць пад зямлёй.
А над зямлёй
Не вабяць.

## ПЕРАД АПЕРАЦЫЯЙ

Таварыш урач!
Незаконна, нахабна і, верыцца, апошні дзень,
як гаміндaнавец у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый,
у сценцы сэрца майго асколак сядзіць.

Мне ўжо гадоў дастаткова
і таму не сцвярджаю,
што яго рабіў фашыст.
Магчыма.
А тым болей — калі нямецкі рабочы
альбо, ў палон трапіўшы, аднапалчанін мой,
касавурачыся на рулю парабелума.

І я нашу яго
з тых неаддымелых яшчэ руін,
што называліся пасля бітвы —
Варшава.
І па сённяшні дзень
на два-тры грамы
манілі ўсе вагі,
на якіх я ўзважваўся.

Асаблівых скаргаў няма —
асколак увогуле меў сумленне —
толькі два разы так разануў,
аж дух заняло.

Першы раз —
калі вярнуўся дамоў з вайны
і, цалуючыся, забыўся, колькі маю гадоў...
Другі раз —
калі бервяно ляцела з машыны
і мне здалося, што я ўтрымаю яго.

Таварыш урач!
Пасля аперацыі прашу мне аддаць
асколак гэты —
ён быў суседам сэрца,
сценка была танчэйшая ад папяроснай паперы,
і ён мог столькі падслухаць...

Ды галоўнае самае —
нельга пускаць на волю асколкі,
што ўжо аднойчы былі ў чалавека ў грудзях
і ведаюць туды дарогу.

* * *

Казалі яму,
каб у лес не хадзіў,
бо ў лесе жывуць гадзюкі.

А ён пра тыя арэхі думаў,
што ў лесе растуць.

Казалі яму,
каб віроў баяўся.
Вір можа ўцягнуць у прадонне.

Ды сам ён ведаў,
што ў глыбокай вадзе
лягчэй плысці.

Казалі яму,
каб па лесвіцы
падымаўся паволі,
бо дыхання не хопіць.

Ды ён не ведаў
ні дыхавіцы, ні стомы.

Яго сотнямі смерцяў страшылі,
што пад кожнай страхою тояцца.

Ды ён ведаў,
што смерць таксама, як і жыццё,
толькі адна.

Калі б ён паслухмяным быў,
тады б мы да гэтых дзён
не ведалі б, як звалі яго.

Звалі яго —
Гастэла.

## ТОСТ

Рука руку на дружбу цісне,
і ўжо ў далонь срабрыста лёг
цяжкі, са спёкай кахецінскай,
жыццём з краямі поўны рог.

Як сэрца, што дала нам маці,
заўчасна не спыніць адно,
так нельга рог на час пакласці,
не разліваючы віно.

За край, што не зазнае згубы,
рог уздымаю, буду ліць
так, як жыццё льюць жыццялюбы,
як губы п'юць каханне, піць.

Рог пакручасты, як удача,
упартасць гордую збярог.
Рог нехта хоча простым бачыць —
самім сабой быць мусіць рог.

Хай будуць верныя прарочай
так нашы сэрцы праваце,
як нас сагнуць у рог захочуць
ці выпрастаць па прастаце.

За песню — з ветрам у прыполе,
за шлях — што цемру абміне,
я сябрава віно паволі
лью разам з зорамі на дне.

* * *

Ідзі, сляпы,
я перавяду цябе цераз вуліцу.

Машыны, пэўна, разбегаліся.
Дворнікі, пэўна, разленаваліся.
Асфальт да д'яблікаў слізкі.

Ах, як хлушу я!

Гэта ж мне неабходна
тая малая ўцеха —
сляпога перавёў цераз вуліцу.

Ах, як хлушу я!

Я ж і сам
за гэтым сляпым наважыўся,

я ж і сам і не цямлю,
куды падамся.

Мне павадыр патрэбен.
Найлепей за ўсё сляпы.
Сляпыя ніколі не выйдуць
швэндацца проста так.

## ШТО НАМ ЯНО — МАЛЕНСТВА

Салодкі, далёкі
чай яшчэ неастылы
з лімонам з краіны,
якую не наведаў ніколі.

Іншы раз —
жывы парашутыст, што ў жыццё
скочыў,
дзьмушынка дзьмухаўца
на ветры.

Ды цёмным вятрыстым вечарам,
калі на дрэвах гусіная скура
ад золі,
калі сціснута сэрца
абручом балючым,
маленства, яно нам —
тая лучына белая і далёкая,
пры якой мы садзіліся
вынайсці электрычнасць.

## АДЫХОД МЛЫНАРА

На млыне жыцця штодзённага
дабяла
запыліўся млынар.

Туман памолу ягонага
ў неба
ўзняўся да хмар.

І сталам яшчэ цёпла
ад гадоў тых, калі
караваі на іх былі.

І ў печы паліць млынар-бяссоннік
і ўглядаецца ціха
ў агонь.

Гэй ты, суцішся, коннік,
хай скача глушэй твой конь
паўз млынара,
што глядзіць у агонь.

Хадок, не прыпыняй свой крок,
як адвядзеш ад вачэй далонь,
сам пачнеш глядзець незнарок
у агонь.

Мае агонь свой час,
калі той якраз склікае сваіх
і кліча іх,
пабяліўшы прысакам скронь,
у агонь.

## ЛЯДОВЫ ВІТРАЖ

І рэчка мае вітраж,
і вецер
зашываецца ў шэрань кустоў,
і дзеці такія радасныя,
што часу не маюць
расці вялікімі.

І ў дарослых голыя рукі,
і ў іх — са снегу шары,
круглыя, зябкія,
і дарослыя
так заядла шпурляюць іх;
ажно трапляюць самі
ў маленства.

І ўсе ідуць па рацэ
снегавітай і вольнай,
і снегіры радасці
ў іх пад бровамі.
І яны адыходзяць,
нібы па вялікім і па белым жыццi,
як бы па следзе зайца,
забітага толькі што.

* * *

Водарасць,
Гэта добра, што я цябе бачу,
Хоць раздзяляе нас
Лёд перастылы.

А што з таго, што бачу?
Тое, што бачу цябе я,

Бачу, што ты жывая
І звіваешся ў прорве зялёнай,
Тое, што вачыма жывымі
Я цябе бачу жывую.

Тое, што паміж двума жывымі
Тоўшча ільду нежывога
Не мае сілы
Мне засланіць цябе
І табе засланіць мяне.

Нам, жывым,
Няма радасці большай —
Як іржаўчына нас не сточыць,
Як нас куля не скосіць,
Як смерць нас не зможа.

# Яніс Плотніекс



## БАЛАДА ПРА ДУБ

У гліне — карэнні, у жвіры — калені —
Стаў дубам я, моцны, як нашы каменні.
Цвіценнем сваім не здзівіўшы нікога,
Раняў жалуды аж да краю зямнога.
Свой ствол і галіны свае папялістыя
Насіў я праз зімы і восені ймглістыя.
А потым пачаў сумаваць я па песнях,
Па полымі зыркім, па квецені весняй.
І ў чэрвені раптам усё маё голле
Святлом загуло, залатым і вясёлым.
Як ружы я цвіў і як бэзу навала,
Вясёлых сяброў мяне многа вітала.
Дарыў я ім полымя й колераў цноту.
Атрымліваў песні ўзамен і пяшчоту.
І лотас — агонь на вяршыню ўсклаў я.
І ўслаўлены і абагоўлены стаў я.
Мяне друкавалі ў альбомах у сотнях,
Гайдалі ў абдымках між хмараў пяшчотна.
Забыў я, узняўшы карону ў нябёсы,
Пра лёс жалудоў, пра сыноў маіх лёсы.
Пакуль барабаны ў фанфарным прыбоі
Усіх жыл не парвалі між глебай і мною.

І вось без карэнняў маіх, без надзеі,
Сухі між жывых, сярод гурбаў калею.
І дзівяцца людзі на дрэва-павалу,
Што ўлетку па дурасці так жартавала.
Маўляў, не разлічвай на веснія шаты,
Не будзе буслянак, буслоў, буслянятаў.
І ў рогат хлапцы: — Смерць чакае, дзядуля!
Унь печка гудзе, як раз'юшаны вулей! —
...Цс-с! Дуб прамаўляе маўклівы да сына,
Адзінага дрэўца ў цэлай краіне,
Хай думае аб жалудах і карэннях,
Хай помніць зямлю і любоў і цярпенне.
Тады ў родным беразе па калені
Ён будзе стаяць. Хай адзін. Як сумленне!

## ПЫТАННЕ САБЕ

Я выяўляю сябе...
Ты выяўляеш сябе...
Ён выяўляе сябе...
Усе мы — толькі сябе, і сябе, і сябе...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Але хто ж тады выявіць прашчура нашага,
чэрап чый раскалола
сякера тэўтона
ў лютай бітве пры Саўле,
і каму меч Альберта
жывот успароў
там, на беразе Рудзене?
А і хто ж тады выкажацца за прамацерку,
што ў першую ноч
аніяк не барону, не Вольфу,

а каханаму мужу
аддала свой дзявочы вянок,
і па гэтай прычыне яе
карбачамі сцябалі,
і злосна хартамі цкавалі,
і ў скляпенні ў Кокнесе
ўрэшце замуравалі
ў мур жывую?
І хто скажа за барадатага бацьку, якога
шведскі шэры драгун,
пышны польскі гусар
і царом і папом блаславёная
«чорная сотня»
і мячом, і кінжалам, і дзідамі
прыбівала, як Езуса да Крыжа,
да дубовых ствалоў,
што на стромах Абавы і Сіняй гары,
што ў Айзпуцкай пушчы і Гулбенскім парку,
а не тое і проста ў куце двара?
Але хто ж тады крыкне за нашу матулю,
што была прабітая пікай казацкай,
калі ў лазенцы чорнай
нарадзіліся мы?
І хто выкажацца за сястрыцу малую, якую
расстралялі ў Рэзэкнэ на плошчы гандлёвай,
на калючых дратах Саласпілса распялі
або ў камеру газавую штурхалі
і прах рассявалі
на штутгарцкіх палёх...
замест штучнага ўгнаення?
А хто ж выкажацца за старэйшага брата,
што ў сёрбанцы бруднай Сіваша захлынуўся,
або шостага ліпеня паў
на Крамлёўскім падвор'і,
або ў сорак другім —

каля брамы Масквы
разам з «тыграм» сябе
у паветра ўзнёс?
І хто выкажа думкі сястрыцы малодшай —
той пяшчотнай дзяўчыны, якая
ўнукаў нашых уратавала
і вугалем стала,
у аўтобусе вугалем стала на Скрыверскім
шляху;
і хто выявіць кволую сцюардэсу,
што падстрэленай птушкаю стала
над блакітнаю гурбай аблокаў,
над Казбека вяршыняю белай?
А і хто тады скажа за малодшага брата —
хлопца ўсмешлівага таго, што разам
з караблём сваім срэбным распяўся
хлапякамі касмічнага попелу;
таго спрытнага хлопчыка,
голас чый абарваў
друг былы сваім стрэлам
на далёкім беразе Усуры.
І хто ж выкажа, ўрэшце, цябе —
лотаць сонечная мая,
мой рамонак някранута-белы,
з гордай шыяй, што скошана —
ў час цвіцення — бандыцкай касой?
. . . . . . . . . . . . . . .
Хто ж іх выявіць...
Хто іх выкажа,
Калі ўсе будуць толькі —
сябе, і сябе, і сябе...
Дык адказвай жа, сэрца,
ім —
сотням, тысячам і мільёнам,
што душу аддалі і голас
за мяне, за цябе, за яго...

і што сталі навек нямымі,
каб
навек гаварылі мы!
Дык адказвай жа ім,
Бо ў гэтым сумленне і гонар паэта,
Які ўсё гэта мусіць за іх зрабіць,
Які ўсё гэта мусіць за іх сказаць,
У якога на вуснах вечна мусіць гучаць
мой,
і твой,
і ягоны голас —
вечны голас сумлення свайго народа.

* * *

Балюча?
А бруку баліць ад падковаў.
І спакойны будзь
Менавіта таму —
Прадонне і глыб
Караблю вялікаму,
І вялікаму сэрцу —
Глыбокі боль.
Яны не для меляў,
А для глыбіняў.
На месцы прадонным
Ніколі не гіне
Народжаны болем
Для будучых дзён.

## НІКОЛІ

Так павялося,
Вядзецца вякамі,
І мы яго добрым,
Сумленным лічым,
Хоць вінаваты
Ў няшчырасці самі,
А непрыняты
Лагодны звычай.

Ціха народзімся,
Згаснем, як свечка,
Хілімся, горбімся
Перад славечкам.

Хоць не было ў нас
Ні ладу, ні згоды,
Стаяла глухая
Сцяна паміж намі,
Усё ж для прыстойнага
Абыходу
Ў час растані скажам:
«Будзем сябрамі...»

Воўкам завыць бы
Са злосці парою,
Рынуцца ў бойку,
А ты — за браму
І злыдню ківаеш
Услед галавою:
«Будзем сябрамі...»

След маладосці
Сатрэцца гадамі,

Вырай апошні
Мільгне над палямі,—
Каханне мне скажа
Сухімі губамі:
«Застанемся
Толькі
Сябрамі...»

Не трэба
Мне літасці
І спачування!
Мы — ворагі,
Ворагі з вамі.
Ніколі вернасці
І каханню
Са здрадай
Не быць сябрамі.

## НАШ СЫН

Калі ўсмешкай твар яго ружовы,
Нібы прамень вясновы, зацвіце,
Мне на ўспамін твае прыходзяць словы:
— З двух нашых сэрцаў новае расце.

Я помню дзень, калі рабіў у хаце
Ён першы крок свой і глядзеў на нас,
Як звонка вусны нашага дзіцяці
Тваё імя назвалі першы раз.

Яго чытаць вучыла ты парою,
Каб кніга моцна сябравала з ім,
Каб самых смелых ведаў ён герояў
І сам для шчасця вырастаў такім.

І шмат разоў у дождж або у замець
У школу мы праводзілі яго.
Цяпер глядзім і дзівімся часамі,
Што ўжо хлапцу пятнаццаць круглых год.

Нібы малы, ступіў ён асцярожна
І пазірае шчыра на цябе;
Гаворыць з нейкай радасцю трывожнай:
— Я камсамольцам, мама, стаў цяпер.

І грудзі поўніць радасць нам за сына,
У маці твар усмешкаю цвіце.
І зноў прыходзяць словы на ўспамін мне:
— З двух нашых сэрцаў трэцяе расце.

## ПРЫЗНАННЕ РОБАТА

А сталёвы я ўвесь,
Ды натуру рахманую маю.
Я гарэлкі не п'ю,
Не грашу.

Пад настрой
Сам паціху сабе наспяваю,
Ну а вершаў,
А вершаў, дальбог, не пішу.

Праўда, ёсць у мяне,
Ёсць надзейнае сэрца,—
Усё помніць яно —
Кожны знак,
Кожны факт.
Хоць чуллівае,
А не жахаецца смерці.

Што яму
Ваш нікчэмны інфаркт!

Я — сталёвы,
Па формулах,
Прызмах,
Спіралях
Лёгка,
Спрытна,
Дакладна
Умею чытаць.
Ды ні разу чамусьці
Не правяралі —
А ці ўмею,
Ці ўмею
Кахаць.

Вы дарэмна
Упэўнены,
Што такім застануся —
Без душы, без пачуццяў,
Без кахання навек.
Доўга так я не выцерплю —
Схамянуся,
Прачнуся
І за розум вазьмуся,
За цябе, чалавек.

## ШРАМЫ

Пад карою зараслі асколкі,
і рубцы на дрэвах не відны.
Не загойваюцца раны толькі,
тыя, што прынесены з вайны.

Цяжка стогнуць камяні пачамі
на братэрскіх курганах яшчэ.
І не спяць, не спяць аднапалчане —
Боль не ціхне, як агнём пячэ.

Іх даўно галовы пасівелі,
а маршчыны — кожная, як шрам.
Як яны калісь кахаць хацелі,
верылі сваім юнацкім снам!

Бо юнацтва іх было зарукай
і надзеяй будучага дня...
Хтосьці і цяпер шукае рукі,
каб сваю каханую абняць.

Мроіцца яшчэ аблічча любай,
той адзіны дарагі пагляд,
тыя косы, вочы, тыя губы,
што варожы спапяліў снарад.

По́дбежна з пагорка на пагорак,
перад вернай памяццю ў даўгу,
ў бой ідуць яны, аж покуль вораг
куляю не скосіць на бягу.

Зараслі ўсе пад карой асколкі,
і рубцы на дрэвах не відны.
Не загойваюцца раны толькі,
тыя, што прынесены з вайны.

# Скайдрытэ Калдупэ



## ДОБРАЕ СОНЦА

Якое сонца ля твайго парога ходзіць?
Ці тое цёплае, ці тое пяшчотнае,
Ці тое — сарванае ў пунцовым мар'янніку,
Ці тое строгае, асенняе, як горкая рабіна?
Якое сонца ля твайго парога ходзіць?
Калі гэта добрае сонца кахання,
Не абяцай аддаць яго ўсё.
Усё абяцаюць у маладыя дні, калі яшчэ сэрца —
як спеў цецерукові,
Слухае толькі само сябе,
Нават сябе не зусім разумее;
Калі любая гара яшчэ надта нізкая,
Усе белыя хмаркі пагойдваюцца на нашай
далоні,
Як белыя лугавыя краскі.
Калі гэта добрае сонца кахання,
Не абяцай мне яго і палову,
Палову абяцаюць у поўдзень, які да таго часу
нічога не даў,
У палове — не ззяе каханне,
У палове — ціхае спачуванне.
Калі гэта добрае сонца кахання,
Дай мне маленькую палоску святла,

Якую ніхто не разгледзеў, якую ніхто ўзяць
не змог,
Ніхто сваім сонцам не называў,
Толькі жыццё ў ёй у адзінае зnітавала
І тое святло — сарванае ў мар'янніку,
І тое асенняе — рабінава-горкае.
Але, калі здарыцца мне напаткаць —
Ночы, ў якія бура гамоніць,
У руках трыдзевяці вятроў змагаюцца дубы
і ясені,
Я тое сонца згадаю,
Якое ля твайго парога ходзіць,
Якое так ніхто і не разгледзеў,
Якое так ніхто і не пакахаў.

## ЗВЫЧАЙНЫЯ СЛОВЫ

У сэрцы — нібыта іголкі...
Ялінкай я стала, зірні,—
На непагоду колкая,
Спагадлівая — ў цішыні.
І словы — звычайнымі сталі
У простай апратцы сваёй;
На волі яны выраслі,
Пасліся адной сям'ёй,—
І падаюць росы з асеці,
Як спелыя яблыкі ў кош.
І сонца, збудзіўшы дасвецце,
Ступае ў бары басанож...
Насустрач ідуць пявунні
З паўнюткім прыполам чарніц.
Лясун у замшэлай пуні
Хаваецца ад чараўніц.

За адзічэлым узгор'ем
Сталіся гора і страх.
Падсвечнікі плакалі горка —
Я памятаю — на сталах.
З сярэбранага застолля
Я збегла. Калі? Даўно.
Як жураўліная доля,
Тчэцца маё палатно.
Цяпер мае словы лясныя
з жураўкамі на пасьбе.
А свечы плакучыя тыя
Даўно дагарэлі ў журбе.

## ВАЛУНЫ

Калі стамлялася я з кветкамі ў размовах,
Калі мне несла боль пагарда ружы,
Калі палохала двудушнасць кветак крапівы,
Ішла я слухаць, што гавораць валуны.
Той, умураваны ў печ асеці, быў змрочны
Ад дыму, поту і стогнаў цапоў на малацьбе,
Але сказаў — цярпенне ёсць пачатак працы
І той, хто ў цемры крочыць, бялейшыя ўдвая бачыць
зоркі.
Той, закладзены ў зруб студні, быў светлы,
Бо абяцаў быць захавальнікам песні,
Тры кроплі сілы кінуў мне ў кожную пасудзіну
Ён разам з песняй і вясёлкай рэха.
Япічэ быў камень сярод поля — пабялелы ад
кветак нівы,
Адпойчы сейбіту здалося — перапёлка ляжыць на
дарозе,
Не ўцякае, не знікае, толькі паўтарае
няспынна,

Што ў веку працы ёсць сіла валуноў.
Быў таксама камень парога, там, ля прыступкаў дома,
Абсыпаны пяском з пасталоў і лапцей,
З ботаў, што позна дадому вяртаюцца,
І знямоглы ў суме па тых, хто не вернецца болей дадому...
Мне сказаў камень парога — дома ёсць пачатак працы.
Ужо доўга слухаю — валуны гавораць.
І не прыкмячаю, што цямнее асенні вечар бялявы,
Калі стомленасць прыйдзе, я станаўлюся на парозе
І ўва мне зноў загучыць голас каменя ля парога.

# Віктарс Ліўзэмніекс



## СОНЕЧНЫЯ СЛЁЗЫ

**Балада**

Час-археолаг, капай жа глыбей,
З зорамі ўпоплеч шчырэй,
Не стамляйся —
Гэтая лёсу людскога зямля ўся —
Музей.

. . . . . . . . . . . . .

Неба, здалося, сышлося на клін.
Чэша дубы-хмарачэсы віхура.
Цвердзі на цёплыя грудзі пахмура
Мора выкідвае мокры бурштын.
Дол разгайданы не верыць нікому.
Чуцен з даліны гісторыі гул.
Болей не знойдзеш дарогу дадому.
Свішча ўраган, спадабаўшы разгул.
Выпаўзла нечысць — грызе і знішчае.
Душыць за горла. Дык скінь жа яе!
Мужны і ў пашчы віхуры ў адчаі
Не задрыжыць —
Жыць жудзе не дае.
Ён
Сіратой па зямлі гэтай будзе
Клымаць.

Дзе бацька, дзе маці мая?
Дзіва! Як перараджаюцца людзі,
Быў чалавек, і няма чалавечка,
Гэты — арол, ну, а гэты — авечка,
Гэны — свіння, ну, а гэны — змяя.
Гоняць адзін аднаго ў перапудзе.
Сонца!
Зямля звар'яцее ў астудзе.
Фарбы патухлі,
Гай веры збязлісцеў.
Нібы ўпяклі цябе ў самае пекла...
Там, дзе з крыві сабе грошы нячысцік
Рупна пячэ,
Ненажэрны і здзеклівы.
А сіраце
І на крушні не мулка,
Не самотна ростані,
Ён шукае прытулку,
Ён шукае
Народ свой.
Садзіць ён прыгаршчамі жалуды...
Раніцай, глянь, дуб шуміць малады.
Глянь, і над полем жыцця і нябыту
Сонца, як сакта на сукні блакіту,—
Плача бурштынавымі слязамі,
Лашчачы стомленыя сцягі.
Туліць, як сакту,
Народ мой вякамі,
Грэе ля сэрца
Бурштын дарагі.

## ПЕСНЯ СВІТЭРУ

Калі ў Румбале стрэлы змоўклі,
За толькі што закапанай магілай
знайшоў я прастрэлены світэр,
зялёны, як лісце,
світэр хлопчыка з нашага дома.
Мяне немагчыма расстраляць аніколі.
Мяне немагчыма расстраляць аніколі,
бо аднойчы быў ужо расстраляны світэр.
...Зноўку
Бегаў са мной па лясах гэты світэр,
На лузе куляўся світэр,
Біўся і пашанліва прыйшоў у свой
першы дзень у школу
зялёны, як лісце, світэр.
Нам больш немагчыма памерці. Калі б не стала
світэра, мне ўсё роўна ў грудзях насіць
тую кулю, мне дыхаць двума сэрцамі —
сваім і тым, што абарвалася крыкам
тады пад соснамі Румбулы.
Мне жыць наканавана за двух.
Цяпер заўсягды, калі да пяску ляснога
прыкладаю вуха, чую там жа пад зямлёй,
як б'ецца маё другое сэрца.

## ЧАЛАВЕК, ЯКОГА ЧАКАЮЦЬ

Стаяць дамы.
Вуліц няма яшчэ, двароў няма,
толькі што народжаныя дамы стаяць
сарамяжліва.
Дахі вітаюцца з соснамі.

На лесвіцах заціхаюць крокі — атынкоўшчык
    выходзіць, манцёр і вартаўнік адыходзяць;
Сонечны зайчык сеў на акно, пасля
    на другое. І так цэлы дзень скача.
Ды вокны, што кацяняты, яшчэ нічога не бачаць.
Чакаюць.
Якія пpаpэжуцца вочы?
Хто вокны аздобіць фіранкамі,
    на падваконне паставіць кветкі
    ці пляшку кефіру і на балконе
    лахмонне развесіць?
Хто дзверы адчыніць?
Ці неахайнасць з-пад нізкіх стрэх
    у кватэры шыкоўныя пераселіцца,
    плёткі папаўзуць за дзвярыма,
    косячы ўпотайкі позірк
    праз край фіранкі, шыбы
    завешаюцца дымам і пылам?
Адкуль, жыхары, прыедзеце, дзе
    жытло пакідаеце, каму?
Стаяць дамы і чакаюць.
Ды неўзабаве жыхары збяруцца —
    з ворыва прыйдуць, з фабрык.
Шафёр прамазучаны рукі ў бензіне
    абатрэ старызнай і з вязанкаю кніг
    пяты паверх адолее, пацалуе
    ад радасці жонку і ўжо адарвацца
    не зможа ад зеляніны сасны
    і маўклівасці неба.
Які ён будзе — чалавек, якога чакаюць?
Дамы думаюць.
Крыштальна чысты, магутны думкай
    чалавек той будзе,
Якога чакаюць.

## ХАДА

Штовечар міма праходзіць мужчына з мокрай сеткаю
на плячах.
Ён вялікі і стомлены,
як на ўзмор'і сасна пасля захаду сонца,
цяжкі і, як хваля, ўскалыхлівы, роўны ягоны крок.
Так ён штовечар ідзе.
І прыходзіць якраз, калі бачу — ён міма мяне праходзіць з белымі валасамі, і проці вечаровага неба постаць ягоная як сасна ўжо не высіцца.
І ў мокрым пяску сляды ўсё глыбеюць і шлымаюць.
І тое бачу яшчэ, што мае вечары
за мужчынам ідуць узбярэжжам
і сляды мае на пяску не пакідаюць і знаку.
Мужчына ніколі не павярнуў галаву ў мой бок.
Толькі тых, хто сетку цягнуў і сушыў,
тых помніць мужчына.

## ЧАС СЕНАКОСУ

Людзі, хвіліну ўвагі!
Гэй, апусціце спачатку ўзнятыя
кулакі і жэралы вашых гармат,
і адкладзіце пёры, што пачалі
чарговы данос, і адчыніце дзверы,
каб ля замочных шчылін
подласць і ўдзень і ўночы
не магла дзяжурыць.
Паклічце вашых дзяцей. З імі
ў вуліцы ўлійцеся: там
ужо аркестранты выйшлі,
набраўшы паветра ў лёгкія.

Гулкія маршы, гучыце!
Прэм'еры і прэзідэнты дзяржаў
з рэзідэнцый выходзяць і,
засукаўшы штаніны,
як на дрогкія троны, сядаюць
на сенакасілкі.
Людзі, вы здзіўленыя, зірнуўшы
са сваіх норак-пакояў?
Вы забыліся, што цяпер сенакос?
Што каровам, авечкам і жа-
рабцам у стойлах, хлявах,
канюшнях Фінляндыі, Францыі,
Чылі трэба сена?
Што хораша адчуць халадок
прысмеркавай ракі, цеплыню
пяску, які астывае, пасля
працы вечарам ногі памыць!
І заўважаем раптам, што бэз
адцвіў, і матылькоў болей
няма, ды стракочуць, як
сенакасілкі, конікі доўгую
ноч у стагах.
І раптам бачым, і разумеем,
і адчуваем, як сакавіта і
сонечна хрумсціць
шапаткое слова — сенакос.
Як хораша ў свеце!

## МІНСК. ПЛОШЧА ПЕРАМОГІ

Вільготная гэтая зямля ад слёз,
засмужаная ад удоўяй тугі,
гаркотная ад чорнага дыму.

Колькі разоў ад яе адварочваўся лёс,
колькі разоў яе пераворвалі смерці плугі,
колькі разоў праганяліся прэч яе варагі,—
злічыць немагчыма.

Дзеці бегалі па зямлі,
дзе цвіло,
дзе смяялася,
дзе будавалася,
як мужчыны, кроў яны пралілі,
пакуль не скапала навала ўся.

Гарэлі дамы — астравы спакою.
Людзьмі крывавыя гаці гацілі.
Здавалася, што не будзе ніколі
канца смяротнай гадзіне.

Ды з вольнымі, воля,
заўсёды была ты.
Воля,
ты выжыла ў пекле.
Прыгнёту краты
шаблі адплаты
пасеклі.
Пала герояў, пала замнога.
З неўміручасці іх расла перамога.

Яны не сагнуліся
перад смерцю злою,
з непахіснасці іх
вырас гэты горад нязломны.
Сэрца горада гордае
крывёй бунтоўнай напоўнена.

Маўчыць помнік.

Трэба ўспомніць тысячы тых,
на чыіх касцях
гмахі ўзнесліся сёння.
Легла тысяча,
каб жыло сто жывых.
Аніякі не скорыць прыгнёт
дум вольны ўзлёт,
не схіліць пакора
непахісных галовы.
Застаўся горад.
Застаўся народ.
Жыве беларуская мова!

**ВЕРШЫ**

Чытайце!
Ды іншы вершаў баіцца.
І навошта хадзіць, толькі ранне прачнецца,
басанож па расе?
Навошта ласку сіраце аддаваць,
навошта гайдацца ў чаўнах з рыбакамі разам,
глытаць ваду салёную і тонуць?
Навошта бянтэжыць заспаны розум,
зноў сумнявацца, знайсці і страціць?
Чалавек, ад лічбаў, ад клетачак сшыткаў стомлены,
праходзіць ля вершаў, не прагнаўшы смагу
халодным струменем.
Іншы, сэрца схаваўшы ў самы цёмны
куток у грудзях,
марыць пра будучыню чалавецтва,
а сам крыламі абвяў на курасадні.

Зыркае спадылба ў іншым месцы.
Ах, не стойце збоку,
ідзіце, вершы!

Рушце.

## ЦВІТУЦЬ ГАРБУЗЫ

Хлопцы,— ляпаю па плячы і кажу,—
У нашай вёсцы, бачце, бабы як нідзе
і ў баб дзяўчаты, о, дзяўчаты, як нідзе болей!
Як гарбузовы цвет,
да шаленства пахнуць духмяна —
ажно рабочыя пчолы п'янеюць, бо ведаюць,
дзе мёд хмельны.
Лета ўсё, ўсю вясну цвітуць гарбузы.
Хлопцы,— ляпаю па плячы і кажу,—
Хто закахаецца ў цвет гарбузовы,
прыйдзе штораніцы і штовечар.—
Я кажу: — Такія медадарныя кветкі
толькі ў нашае вёсцы знойдзеце.
Хлопча, бяры ды радуйся!
Бач, што маем! Увосень прыходзь яшчэ!
Хлопцы,— ляпаю па плячы і кажу,—
Такія гарбузы ўвосень толькі
ў нашае вёсцы знойдзеце, і дзяўчат
такіх толькі ў нашае вёсцы;
тугія, як гарбузы;
як залацісты цвет,
да шаленства мілуюць —
я кажу.

# Аўсма Пормалэ



## МАЦІ

Здымі, мужчына, капялюш, берэт ці шапку сваю.
Сустрэўшы ссутуленую, не таму што гонару менш у яе, маці маю.
Падцягніся, салдат.
Жанчына гэтая за іншых не менш адважная.
Таксама — воін, герой — маці сыноў пяцярых і дачок пяцярых.
І ты, дзяўчынка, не выхваляйся сваімі пазногцямі лакіраванымі.
Тут ідзе чалавек, які ніколі не лакіраваўся.
Ніколі і нідзе.
І нічога не лакіраваў.
Вітайце бабулю добразычлівую, дзеці,
Вы лепш за ўсіх яе зразумееце, ведаю,
Бо цуды вас акружаюць на кожным кроку,
На кожным кроку вас новае нешта чакае.
Не будзеце вы на багачоў працаваць,
На іхніх нівах свой пот не будзеце праліваць.
Пакланіцеся, дзеці, бабулі, што сустрэлася з вамі.
Што перад смерцю толькі жыццё і змагла пабачыць,
І разглядае яго вясёлымі ад захаплення вачамі.
З увагай дзіцячай.

## ВЯСЕННІЯ РАДКІ

Ці ўмееш ты дыхаць, як матылёк
У першы вясенні дзень?
Ці хочаш ты так да святла прабівацца,
Як дуб з жалуда?
Дзесьці ў прасторы сусвету
Хвалюецца шклянка віна.
Хоць зморшчын мудрасці менш
У маладых.
Ці ўмееш пераліваціца так, як ранняе сонца
У майскай пяшчоце?
Ці ты імкнешся насустрач світанню,
Бадзёры, радасны, свежы?
Недзе ўздыхае лежань.
Недзе ніяк не насыціцца прагнасць.
Недзе гады іржавеюць,
Дакрануўшыся да маладушнасці.
Ці ты праз жыццё прагучыш,
Як дзіва ружы, як горн калы?
Калі ты не можаш, не можаш, сама сарву
Найсаладзейшыя з дрэва плады,
Калі ты не хочаш, не хочаш,
Заставайся на месцы, качан капусты.

## САЛАСПІЛС АДКАЗВАЕ

Мы чуем у ліку трох тысяч
І ваш пералік, хатынцы,
У гуле званоў Хатыні,
У падзямеллях Саласпілса.

За гэтаю брамаю стогне зямля.
Ды не будзе яна век стагнаць.

Чаму мы падняцца не можам —
Даказаць?!

Пракляцце! Чорная смерць
Сваім павекам закрыла сонца.
Пагаслі вашыя
Залацістыя вочы, хатынцы!

Чаму мы падняцца не можам
У свае трыццаць год,
З жалезнымі кулакамі аратых,
З неўтаймаваным розумам.

Мы чуем у ліку трох тысяч
І ваш пералік, хатынцы.
У гуле званоў Хатыні,
У падзямеллях Саласпілса.

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ШЛЯХ

Як светлае ззянне расы,
Што выкута з вечнай красы,—
Было і маё каханне.

Як чуйная цішыня
Бадзёрага, яснага дня,—
Было майго шчасця світанне.

Такім, як хлеб, што ядуць,
Як птушкі, што ў садзе пяюць,—
Было і маё іспаванне.

## ЗАКОН

Толькі не шкадаваць сябе.
Калі камянямі ў рукі ападаюць дні,
Незлічоныя і цвёрдыя,
Цяжкія ад пакут,
Незлічоныя і дробныя, нервовыя,
паспешлівыя ручаі
Знікаюць і не вяртаюцца больш...

Толькі не шкадаваць сябе,
Калі дрыжыць у грудзях камячок нервовы,
Пульсіруе, пульсіруе, ад болю ные...
І нараджаецца ў грудзях узор
З мільёнамі чырвоных кружкоў,
Якога ў жыцці не было і болей не будзе.

Толькі не шкадаваць сябе
І не вымольваць любові ў іншых,
Загнаць сябе нібы каня́,
Упасці і ўпарта маўчаць —
І спачыць на дарозе вечнасці.

# Лія Брыдака



## ТЫ БУДЗЕШ ТАКОЮ ВЯЛІКАЙ

Латвія, Латвія, недзе —
большыя землі, дзяржавы...
Ты ж сябе, край мой, вякамі
гонкімі соснамі славіш;
гэтак жа слаўна вякамі
поіш народ свой з крыніцаў шматлікіх.
Покуль мы будзем хлеб радасны сеяць,
ты будзеш такою малой ці вялікай,
якою старанна сваімі рукамі
створым цябе мы, нястомныя, самі
ў свеце надзеі.

* * *

Я слаўлю раніцу, сваім святлом якая
Так шчодра саграvae блізкіх і сяброў!
А прагны ж поўдзень прагна забірае
Святло ад нас і ў сэрцах студзіць кроў.
Ніжэюць хмары, дождж макрэчу росіць,
Шарэе небасхіл бясконцы і сыры,

І з залатых ствалоў
Маіх шурпатых сосен
Луску здзіраюць прагныя вятры.
Здаецца ж, сосны вылечыць бы можна,
І ўратаваць жывую зелень рук,
Ды слыхам болю чую, як трывожна
У сухадрэвіну б'е дзятлаў грук...

## ЖЫВУЧАСЦЬ

Што за натура ў мяне за такая —
Колькі ў ёй прагі жыццёвай і сіл?
Зведала шмат я і радасных маяў,
Зведала шмат я і слёз і магіл,—

І ўжо якой ні грaзіўся навалай
Час мой — ды радасць спалохаць не мог,
Як ён ні пляжыў — я мужна ўставала,
Верыла — цуд на мой ступіць парог.

Верыла: знікне вайны небяспека,
Сыдуць хваробы ў сваё забыццё,
І чалавек будзе рад чалавеку,
Бо ўжо ніхто не ўкароціць жыццё.

Веру, што заўтра напішацца верш мой,
Той, што адпрэчыць ад сэрцаў тугу,
Заўтра спаткаюся з ім, наймілейшым,
З кім разлучыцца ўжо больш не змагу.

Веру. Карэнні той веры настырнай
Моцна сядзяць у зямным дзірване.
Хто ж адарыў: можа ясень ці пырнік,
Гэтакай прагай жывучай мяне?

* * *

У засені цвіце грыбная плесня.
Сустрэўшыся з дажджом,
худзеюць рукі дрэў.
Асенні лес...
Ён асыпае песню,
Якую вецер з травеня шумеў.

Чаму, пабачыўшы пажар прыгожы,
Стаіш, агорнуты трывожнаю тугой?..
Глядзі: бяроза...
Там, на раздарожжы...
О, колькі полымнай красы, пяшчоты ў ёй!

Лісцё ляціць, халодным жарам бліскае.
І дрэмле радасць новых лісцяў у галлі...
Усё спалі,
Што сэрцу хоць і блізка,
Але ўжо лішнім сталася,—
спалі!

## ПАСЛЫ БУДУЧЫНІ

Міма зашклёных вітрын урачыста,
каменю з вуліц ссівелых на здзіў,
едуць каляскі між гаму і гулу,
бліпчуць скафандрыкі — форма адзінства —
на касманаўтах з планеты Дзяцінства.
Быццам яны з нейкіх светаў фатонных,
моўчкі усё разглядаюць вакол...
Толькі ў вачах, як у рамах аконных,
горад плыве у адбітках ракой.

Будзем вучыць немаўлят мы адзіна
матчынай мовай і думцы і дзеі,
помнілі каб, што прыйшлі на радзіму,
продкаў сляды не дазволім развеяць;
аж покуль зораў сваіх не уздымуць,
нашы праменяць хай ім, не ржавеюць.
Як не навучым пачуццям, дык будзе:
робаты скрозь набудуюць каркасаў,
птушкі крыклівыя ў космас, не людзі
над гарадамі прамчацца тым часам.
...Каб захаваць з іх узростам адзінства,
колькі б тады акрыяла надзей!
І касманаўты з планеты Дзяцінства
сталі б найлепшымі з роду людзей.

## НА РАЗДАРОЖЖЫ

Збудзіў жанчыну век у ранні час,
у людзі вёў пад промнем Мілавіцы,
пяшчоты для яе не прызапас,
а жаць паслаў на поле навальніцы.
Ці мала што слязою пачалося —
вайна, вайна. Як век — пасляваенне...
Калі было спяваць, звіваць вянкі?
Вінтоўку ў рукі ўклаў суровы лёс ёй.
Арлы ў палёт імкнуць,
ракеты рвуцца ў космас,
у громе б'ецца сіла, просіць волі...
Жанчына застаецца (якога лёсу моліць?),
свабоднай застаецца і звязанай не ўскосна,
бо б'ецца двухістотны боль у ёй зняможны.
Жанчына зноў стаіць на раздарожжы:
якіх вышыняў ні скаралі б крылы,
а ў сэрцы крык калыскі, гарыць ачаг ёй мілы...

## МАШТАБ РАДЗІМЫ

Звышгукам у радасці кожны хай сам
прамерыць Радзімы абсяг на бясконцасць,
з Далёкага Ўсходу, балтыйскім лясам
вітанне ляціць, абганяючы сонца.

Але, каб спасцігнуць вялікую шыр,
народ у народа вучыўся вякамі:
высокаю думкай прамерваць Памір,
глыбокую думку вымерваць Байкалам.

Бо ўсё ў нас адно: і метал у каўшы,
і колас, і яблык усім на суцеху,
і шчырая песня латышскай душы,
што ў розных краях адгукаецца рэху.

У поціску рук залатая пара,
з калыскі братэрства і дружба куецца,
пад колер змагання ўзыходзіць зара,
што будучым светлым паўсюдна завецца.

## ПАЛЁТ СЛОНКІ

Лёгкая слонка, як ліст парыжэлы,
бачна ў палёце за добрую гоню.
Клікала доўга, шукала, не стрэла,—
хто яе зноў над вяршынямі гоніць?

Можа, і кліч-булькатанне дарэмны,
выкрык кароткі і крылаў памкненне —
ствол паляўнічага сочыць нядрэмна,
страшна, а раптам ён бег перастрэне!

Бег той, што ў Францыі цёплай пачаўся
і аж дагэтуль, дзе фарбаў самота,
птаства ў гаі дзе аж стогне па часе,
парастак кожны — як звонкая нота.

Луг у куп'і, белы месяц, як змоўца,
рух прычаканнем няварта заваджваць.
Я разумею калючасць ядлоўца —
нельга нікуды яго перасаджваць.

Між двух прыстанішч бы холадна слонцы,
дрогка бяжыць і не можа спыніцца —
як бы жыла, калі б разам з ядлоўцам
нельга было тут і мне караніцца?..

## ПРОСЬБА Ў ДНЯ

Паслухай, дзень, хай мовіць вечар,
бо вечар — твой праўдзівы цень.
А як і чым увойдзе ў вечнасць
пад вечар прымарнелы дзень?
Дзень зноў не быў мне бацькам кроўным.
Транжыра — вечар незалежны.
Над сказаным і непрамоўным
грукоча дождж у дах жалезны.
Дзяўбуць сцяну дажджыны рупна,
жыццё ад дробязяў знікае.
Ах, як бы хоць адзін наступны
стварыць здаровы дзень, што камень.
Ад дробных — дробнае, як звадка.
Таблеткі — ў сон спакойны ўкладваць...
Ах, загадайце мне загадку,
каб што было і ў сне разгадваць!

* * *

Машыны з выгінам жадлівым
ляцяць, як воблакі якраз.
Імгненні ў гэты час імклівы
над намі мкнуць і міма нас,

сляды заносяцца жывога,
нібы пяском, ды чалавек
шукае зноў адзін другога
у цяжкі час, трывожны век.

Адтуль, адкуль жыццё бруіцца,
так не імкнулі да выснаў.
Не перасохне хай крыніца
святла душы між гарадоў.

Машыны выюць. Нежывога
узніме скрыгат — проста здзек.
Шукае век адзін другога
для паратунку чалавек.

# Лайманіс Вацземніекс



## УДВУХ З КАНЁМ

Начлег у нас з канём, —
Ды скажа ўсякі
Пра нас:
«Гулякі».

Глуздоў у нас з канём
Яшчэ не вельмі.
Ад кветак лугавых
Сп'янелі.

Дарогі і шляхі
Для нас раўнуюць.
Абодвух нас з канём
Шануюць.

Ёсць корм для нас, піццё,
Лугі начныя.
Ды скора ўжо —
Хамут на шыю.

## ЧЭРЦІ, ЧЭРЦІ...

Кажуць, што на гумнах
З жытнімі снапамі
Ажно пыл курыўся,—
Чэрці так скакалі.

Адпалалі сушні,
Вугаллё згарнулі.
Дзе ж сягоння чэрці
Свае ладзяць гулі?

Можа, вакол стога
Ім пагойсаць люба?
Ўбачыце, магчыма,
Ў памяшканні клуба?

Можа, з грывы доўгай
Ткнецца рог каляны,
Ў чаравічках модных
Капыткі схаваны?

Паглядзі, як брыкне,
Скокне на пацеху!
Возьме ды паскача
Дзеўчанё да грэху.

І на тое здатны,
Ды і добра ўсеклі:
Грэшніцу якую
Звалакуць у пекла.

Грывы — на узлёце,
Во даюць жа, чэрці!
Не баяцца неба,
Ані апрамецця.

Можа, ў пекле іхнім
Полымя салодкае?
Бач, віхляе станам
Ды вышэй падскоквае.

Вось ужо ў паветры
Верхам на мяцёлцы.
Вы, глядзіце, розум
Не згубіце, хлопцы.

І душу не страцьце
Ўжо на самай справе.
Ну, а што як певень
Зараз заспявае!

## ГУЛЬНЯ ЦЕНЯЎ

Святло берагавая даль хавае,
Сціхае лісце ў цёплым шалясценні.
У бухтах, у гаях, у плыні Гаўі
Да ранішняй зары гуляюць цені.

Узносяцца, становяцца на дыбкі,
То — кволы рух, то — сціхлае чаканне.
І, затаіўшы дух, свой подых зыбкі,
Нясмела так выходзяць на спатканне.

Узор карункавы вядуць над морам
Туман і вецярок у ціхім спеве.
Двайныя цені адступілі ў морак
І там сплятаюцца ў адным павеве.

Сузор'і, месяц з высі заімглёнай
Глядзяць, схмялелыя, на дол, на травы;

І салаўі ўсхадзіліся шалёна,—
І дзеці будуць ад такой забавы.

Не дакарайце, што сачыў свядома,—
Цікаўныя паэты ўсё ж бываюць.
Дзе цені днём,— мне гэта невядома,
Ды ведаю, што ў час начны — гуляюць.

Не будзем папікаць кагось за тое,
Што ў нас саміх пачуцці ачарсцвелі.
Заслонім вочы лепш на ўсё начное,
Няхай паверыцца, што гэта — цені.

## ВІТРУПСКАЯ РУСАЛКА

Калі ступаюць рыбакі
У вопратцы без крысся,
Мая русалка,— ў час такі
Ты хваляю прыкрыйся.

Спытаюцца ў мяне сябры
І позіркам і словам:
З якой валодаю пары
Уловам адмысловым?

Тады пачну ўпінацца я:
«Сама сышла на бераг...»
Зеленавокая мая
На гэтым свеце белым.

Параю мору: памаўчы,
Само ж і не ўсачыла...
Ды з морам вы пасля начы
На сонечным спачыне.

Калі б сказаў мужчынам я,
Што ты чакаеш звыкла...
Зеленавокая мая,
Тады б і казка знікла.

## ПАВУК

Стаіўшыся ў сваім кутку,
Дзе ценяў пералівы,
Я сетку тонкую ўсё тку,
Нібы павук цярплівы.

Кладу ўспамін з усім былым,
Як пражу залатую,—
Здаецца мне — у звоне тым
Мелодыю пачую.

Вяжу я хітрую пятлю,
Вось-вось мой міг настане:
Надзею добрую злаўлю
Ў сляпым самападмане.

Паспеў я марамі заткаць
Усе вуглы й куточкі,
І засталося дачакаць
Хіба спагаднай ночкі.

Каго ж ад самага цямна
Нядрэмна я пільную?
Каб не ўкусіла вас яна,
Магчыма,— муху злую.

## ХАМУТ

Гняды — з ім поплеч,
Хамут — на шыі.
Узгоркаў цені
І нежывыя.

Там за гарою —
Звон лемяховы.
Па-над гарою
Водар вясновы.

Хамут — на шыі,
Крок цяжкаваты.
Стамлёны бацька
Брыдзе дахаты.

Дзіўлюся й сёння,
Ды словы ж тыя:
«Дзе гэтак, бацька,
Нацёр ты шыю?»

## ТАВАРЫСТВА

Калі не свеціць мне абруч пярсцёнка,
Скажы, чаму ўздыхаеш ты часцей,
Святое таварыства «Я і жонка»,
Якому суджана не мець дзяцей?

Нектар збіралі — долечкі і долі
У вулей неслі нават без свячы.
Той міг, калі пабрацца хочуць двое,
Дае багацце пэўнае, лічы.

Працэнт найбольшы слодычы — ад Ірмы,
Прыйшоў і я таксама у журбе.
І пачала квітнець дыхтоўна фірма,
Страх перад... трэцім тоячы ў сабе.

Так да зазімку мы жылі не ў горы
Ў саюзе, дзе ўзаемна кожны люб,
Два пайшчыкі,— у зладжанай канторы
З нязменнаю спрадвечнай назвай — шлюб.

Цяпер у вечаровай ціхай дрэме
Амаль варожа на сябе глядзім:
Чакалі дэвідэнтаў мы дарэмна
З тых дзён,— не стаць манетай звонкай ім.

Бач, дэвідэнты (аніякай тайны) —
Ва ўсіх дварах — з дзіцячымі вачмі.
Хоць ты цяперака грэх дзетадайны
Перад банкруцтвам на сябе вазьмі!

Над рыскаю праведзенай — калонка
Пражытага,— і ўсё вышэй гады.
Скажы мне, таварыства «Я і жонка»,
Чаго ўздыхаеш ты?

# Дайна Аватыня



## НАВАЛЬНІЧНАЕ ЛЕТА

Дзіўнае лета, навальнічнае лета
над планетаю ідзе,
дождж — як з вядра, як слёзы света,
суцяшальна вясёлка цвіце.

Ветразь жыцця майго рвуць ураганы,
абвівае маланак ніць;
пакуль грамы поўняць душы арга́ны,
да той пары нам варта жыць.

Да той пары не паддамся дрымоце,
змагу ненавідзець і любіць,
да той пары будзе думка ў палёце...
Хай ззяе маланка, хай дождж шуміць!

Мяне не песціла сонца лагоднае,
ды любяць ліўні і вятры,
змываюць з душы ўсё нягоднае,
каб я любіла жыцця дары.

Жыццё любое прыходзіць з болем,
з болем яно ў нябыт ідзе;
жыве навальніц магутных воля,
суцяшальна вясёлка цвіце.

## ЦЁМНАЯ НОЧ...

1

Мабілізацыя коней...
На вайне ўсе мужчыны.
Жонкі стынуць бясплодна,
час халодны, нішчымны.

Нават летнія ночы
згараюць дарэмна ў пасцелі.
З нявыседжаных яек
прэч шпакі паляцелі,

калі асколкі секлі
бярозу са шпакоўняй.
(Так толькі дрэва гіне —
маўкліва, спакойна.)

Яшчэ адна дрэнная вестка:
мабілізацыя коней!
Хопіць ім бегаць у возе,
ісці баразной спаконнай.

Сіўку, Варонку і Гнедку
прыйдзецца аддаць чужынцам.
І вось развітальнае ржанне
тужліва гучыць над гасцінцам.

Вяртаюцца з валасці людзі,—
дзяды, унукі, кабеты,—
а ў стайні і доме пуста,
конік наш родны, дзе ты?

Ён лепшым быў памагатым,
быў сябрам у горы і шчасці,

з ім усё дзялілі —
хлеб, радасці і напасці.

Муж наказваў строга
сябе берагчы і Варонку.
Ды вось на пустую дарогу
глядзіць скрозь слёзы жонка.

Мабілізацыя коней.
Ма-бі-лі-за-цы-я...
ы-я... ы-я...
ы-я!..

2

Чужынец п'яны каня асядлаў
і едзе шукаць гарэлкі з раніцы.
«Хутчэй бы вас які д'ябал узяў!» —
у бараду дзед ціха лаецца.

Сіўка новага гаспадара
маркотным позіркам сустракае:
«Чаму ты ўзяў мяне са двара?
Завошта мне кара такая?»

А той да нявесткі прыстае,
забыўшы, што жонка ёсць недзе дома.
Прывык: куды пойдзе — усё на стале,
ніхто не пярэчыць яму, вядома.

Чужынцы ў вёсцы гуляюць ды п'юць,
прывязаўшы коней да плоту.
А потым прышпорваюць іх і б'юць,
а потым ганяюць іх да поту.

І чалавек — толькі рэч на вайне.
Ды мае ўсё-ткі нейкую ўладу.

А конь ёсць конь, ён — рэч удвайне:
выконвай загад, цягні аж да ўпаду.

Гучыць у конскім іржанні дакор:
«Чаму аддалі вы нас лёгка гэтак?
Няўжо без каня не пустуе двор?
Няўжо без каня узарэш палетак?»

Чужынец заганяе каня,
прыстае да латышкі бязбожна.
На ўзлессі сава крычыць штодня...
Кпіць з баязлівасці яна, можа?

3

Балота, што Жураўліным завуць. Партызаны.
Навокал толькі лясы, ды плаўні, ды зрэдку паляны.
Навокал толькі вайна, ды слёзы, ды гора такое,
як колісь пасля чумы ў дні сярэдневякоўя.

Добрых навін не чуваць, дрэнныя ўсё навіны:
дом спалены, схоплены хтось,
хлопчык загінуў нявінны.
Тужыць душа па зямлі, па ўзмежку, што пахне
мятай,
а кожны новы дзень патрабуе крыві і адплаты.

Хіба няпоўная чаша? Нешта рабіць мы павінны!
Блізіцца восень. Збіраецца клін жураўліны.
Ды сам куды пойдзеш, калі тут твая радзіма,
якая была для цябе і будзе заўсёды адзінай,

што застаецца з табой у ліхалецце любое...
І сэрца, і свет, бы туманам, ахутаны болем.
Такі вось настрой лясной, партызанскай раці.
Жаласна плача ў бары івалга, быццам маці.

3 Зак. 516

Вяртаецца тут камандзір. Яшчэ малады і гарачы,
дзёрзкі занадта парой, сумны парой па-юначы.
Хто знае, ці зведаў яшчэ калі ён жаночыя губы,
ці падаў калі ў абдымкі спякотныя любай?

Звяртаецца камандзір ціха ды тонам загада:
— Ноччу мы прымем бой. Тут вось будзе засада.
Дзед Мартыс сюды прывядзе ўласаўцаў праклятых.
Хопіць ім піць-гуляць ды баб ганяць па хатах.
Іх будзе цэлы ўзвод, і ні адзін не павінен
вырвацца жывым, іначай мы самі загінем.

— Прыйдуць яны пяшком?
— Не, прыедуць на конях.
— І ў коней трэба страляць?
— Так.
— Не, ніколі!

Агледзеўшы ўсіх, камандзір гаворыць ціха і строга:
— А што нам рабіць? Няма выхаду ў нас другога.
Вы ж зразумейце, сябры: конь ворагу дапамагае,
а без каня нікуды не ўцячэ паліцэйская зграя.

Мужчыны змаўкаюць. І гэта маўчанне — знак згоды.
Трэба наперад ісці, трэба адольваць нягоды.
Чорны вецер дзьме. Млын чорныя меле зярняты.
Робіцца на вайне чалавек без віны вінаватым.

4

Над балотам свеціць месяц серабрысты.
У месяцовым ззянні бачны смерці рысы.
Смерць ідзе ўладаркай казачнага краю,
У месяцы-сыры іклы высякае.

Высякае іклы ў асяродку сэрца,
мардуе і ў муках даводзіць да смерці,

бо ўжо неўзабаве тут заб'юць кагосьці.
Ў месяцовым ззянні забялеюць косці.

Рукі не трасуцца, толькі душа б'ецца
у грудзях, як птушка з адчаем — у клетцы.
Раптам цуд адбудзецца, ноч мінуе гэта,
і вайны няма ўжо, цішыня над светам...

Але ўжо здалёк зямля гудзе.
Гаснуць цыгаркі ў балотнай вадзе.
Кліп, клап...
Кліп, клап...

Вязне ў іржавай вадзе нага.
Вечны сон абяцае дрыгва.
Кліп, клап...
Кліп, клап...

Я сябрам быў, чалавек, табе,
быў незаменны на сяўбе.
Кліп, клап...
Кліп, клап...

Падковы сарваліся ў мяне,
чужынец сядзіць у мяне на спіне.
Кліп, клап...
Кліп, клап...

Чую, мая тут апошняя гаць —
і коні не хочуць паміраць.
Кліп, клап...
Кліп, клап...

Я быў тваім сябрам, як без мяне
выйдзеш ты ў поле па вясне?
Кліп, клап...
Кліп, клап...

. . . . . . . . . . . . . . .

Чаканне, куля, хрып ды хрып...
Кліп, клап... Кліп, клап...

. . . . . . . . . . . . . . .

Над балотам ціха серабрыцца месяц.
Смерць для трызны цеста на купіне месіць.
Не паспее неба пабляднець на ўсходзе,
як кветкі крывавыя ўзыдуць на балоце.
    Кліп, клап...
    Хрып, храп...

5

Не паспеў заззяць край неба,
калі ўсё ўжо было скончана.
Мужыкі сядзелі нема,
мужыкі глядзелі змрочна.

Змоўклі лютыя тамтамы.
Паляглі ў дрыгве чужынцы.
Пысы конскія праз травы
чырванелі на сцяжынцы.

Горка плакалі мужчыны —
бы забілі ўночы брата.
Як знайсці душы спачынак?
Што цяпер ёй будзе свята?

Як цяпер рукамі гэтымі
сеяць чыстае насенне?
Ці загон, вясной сагрэты,
прынясе супакаенне?

...Яшчэ ўсё ў тумане белым
коні белыя іржуць,
твань нагамі топчуць смела,
разганяюць сон і муць.

Чалавек, пачуўшы ржанне,
штось прыгадвае праз сон
і не спіць пасля да рання,
падыходзіць да акон.

Тых касцей даўно нябачна.
І няма ўжо твані той.
І цвіце багун іначай
над празрыстаю вадой.

Ды бягуць праз сэрца коні,
лятуць коні напрасцяк.
Гудуць кулі ў той пагоні,
у тых тлеючых касцях.

Гул той — быццам неспакойны
рой пчаліны па вясне.
Гудуць кулі, іржуць коні,
што забіты на вайне.

# Імантс Ласманіс



## СПОЛАХІ ДУМАК

*Памяці ахвяр*
*Вялікай Айчыннай вайны*

Тлее ў вачах маіх попел памерлых,
На ўсе вятры свае сполахі сее.
І ў душы, быццам у крэматорыі,
Жыцці гараць. Гараць — не згараюць.
Прыходзяць бацькі, маці, дзеці, байцы,
Прыходзяць спытаць. У памерлых? Не.
Спытацца ва ўтульнай абмежаванасці,
У хатняга супакою, якім ты жыў:
«Ці ёсць у табе чалавечнасці столькі,
Каб мог ты роўным быць сярод іншых?
Ці ёсць у табе чалавека столькі,
Каб мог ты шчытом, мастом быць для іншых?»
І крышыцца камень, і словы вецер адносіць,
Чэзнуць людзі і нават сусветы,
Ды пястачка попелу і твайго
Хай жа ў нейчых вачах болем тлее.

## МАЛІТВА ЗА ПЧАЛУ

Ёсць, быў я і буду вечна
ў табе, як крывіначка тая,
З табой раздзялю сардэчна
жыццё, пчала залатая.

А пройдзе касец пракосам,
падкосіць духмяныя травы,
Як сёстраў, маліць буду росы
зрабіць твае крылца жвавым.

Маліцца буду за вулей,
за сонца кожнай вашчынкі,
За лапак пярэстасць, што туляць
да тулава вейкі квяцінкі.

За дочак тваіх памалюся,
малюсенечкіх пчалінак,
І за цвет буйны ў майскім лузе,
за жызныя глебы камліны.

Маліць буду сушу і моры,
што летнім гудуць тваім звонам,
Маліць са слязінаю горкай,
каб лёс быў твой, мой — пахвалёным.

## СЛОВЫ ПЕСНІ, ПРАЦЫ І КАХАННЯ

Словы песні — словы душаў,
Словы ціпы — словы чараў.
Як ты іх ні разварушвай —
Пахнуць, як стагі Стажараў.

Вуллямі зумяць шчасліва,
Што сцярог ты зімняй слотай,
Цецівой дрыжаць гудліва
І з чала сцякаюць потам.

Застаюцца ў ніве, ў людзе,
Льнуцца ў мора, плынню ззяюць,
На нявыкашаным грудзе
Косаў восенню чакаюць.

У навалу, ў холад, голад,—
У вяках растуць, як жолуд.

## ПЕСНЯ ПРА ЖАЛУДЫ

Зноў, бы ў маленстве, жалуды збіраю
І ў дуба пахілёнага пытаю,
Ці малады дубок тут зашуміць,
Ці хто пад кронай вечны сон сасніць?
А дуб шуміць, дуб ледзь калыша голле,
Нібы баійца разбудзіць прыволле:
«Два жалуды вазьмі, больш не пытай,
Сваёй рукой мне вечнасць вырашай!»
Свой дуб ты мусіш пасадзіць калісьці —
Падасць нашчадкам ён далоні лісця.
Няма канца, ёсць толькі кветка, квет,
Не гіне засеў, не знікае свет,
А парасткам бярэцца, нібы дуб,
Праз жолуд, праз яе, якой ты люб.
Саджай, і жолуд зашуміць лістотай,
Працуй — як жолуд, праца бессмяротна.

## САЛАЎІНАЙ НОЧЧУ

Ноч. Не ціхне цёхкат салаўіны.
Блудзяць чоўны белыя ў тумане.
Сум мой — паламаныя гадзіны,
А чаромху зломіш — не завяне.

Набяру бярэмя, хай бялее,
Хай пялёсткаў снег цябе пястуе,
Паплывём, як шэпты, як лілеі,
Дзе гне месяц дужку залатую.

Веру, што чакаю я не марна,
Бо ці ж марна верацт моцна гэтак?
Дык не мучай думкаю каварнай,—
Што другі ўжо наламаў букеты!..

Не ў лісце, не тэлеграфным гудам,—
Напішы чаромхавай галінкай.
Я штодня хадзіць на пошту буду
І пытаць чаромхавай навінкі...

А не прыйдзе, не мяне журы ты,
Калі Гаўя паімчыць няўмольна
Зверыць, ці на сонца і ў віры ты
Пазіраць, нібы чаромха, здольна.

## АДЗІНАЯ

Як сэрцам ты хвалюешся, дзяўчына,
Калі світальны сустракае гай,—
Імя гучыць — як у маёй радзімы!

Якая ў рухах гнуткая, нявеста,
Калі бяжыш з чаромхай за ручай.
А веліч мар — як у маёй радзімы!
Як вочы ззяюць, маці маладая,
Калі смяецца ўсмешкай сына май.
Як шчасця шмат — як у маёй радзімы!
Як ціха да магіл ідзеш, матуля,
Сыноў адважных — з кветкамі жывымі...
Як шмат ахвяр прынесена радзіме!
Адзіная, стакрат табе святлець,
Што сеяна ў цябе, таму не стлець.

* * *

Злы вецер ля акна ліхтар гайдае.
Гарыць кастрамі лісця тратуар.
Душа, як дрэвы, голая, гадае,
Калі ж зіма, а боязь студзіць твар.

Ды хоць асенні ліст звей-вецер звее
І сэрцу не стае, як песні, слоў,
Зноў разам з дрэвамі мы расквітнеем,
Бо бродзіць сок зямлі і ў жылах кроў.

І сіла выспявае, караніцца —
Зямлю адчуць вузламі каранёў,
А сіла п'е і п'е з жывых крыніцаў.
У дробным зерні — ўсё жыццё асноў.

Нашто злуецца восень сівярамі?
Зіма хай рассцілае свой кілім!
За векам дрэў, што складзены дрывамі,
Відзён мне лес у лісці маладым.

# Імантс Зіеданіс



## МАЛІТВА

Ты, вялікае сонца вечара,
Ты стаіш вялізнаю рыбінай,
Ты стаіш над жыццём людскім
І над смерцю рыбінай.

Ты, вялікае сонца вечара,
Ты святлом засяваеш загоны,
Паспрыяй маім рыбакам,
Дай хлеб надзённы!

Рыбіны пакажы шляхі.
Там, у глыбінях мораў,
Плавае іх заможнасць,
Іх маёмасць, іх нораў.

Плаваюць іх матацыклы,
Вішні, што б'юцца ў шыбіны.
Ты, вялікае сонца вечара,
Пакажы ім шляхі рыбіны.

А найперш за ўсё — жонак дай,
Жонак з велічнымі жыватамі.

Ты, вялікае сонца вечара,
Не абдзялі сынамі.

Дапамажы нарадзіцца сыну
Аднаму замест сотні транзістараў.
Сонца светлае, дапамажы,
Дай народу выстаяць!

* * *

Праз вечаровы прысмерк,
Праз туман вечаровы
Мы адыходзім
І ценямі робімся паступова.

Мы адыходзім.
І ніхто ўжо ў твар нас не бачыць.
Застаецца адна здагадка,
Што ходзіць нехта, няйначай.

Нібы гэта ўсхліпнулі дзверы.
Нібы ліст апаў прароча.
Нібы чараўнік сваё сэрца
Выправіць хоча.

Нібы з вершаліны зляцела
Апошняе лісце ў скрусе.
Хацеў цябе нехта пагладзіць,
Ды пайшоў...
І не дакрануўся.

* * *

Калі лебедзі адлятаюць,
тады на трэці дзень быць снегу.

*Народнае павер'е*

Светлыя вочы рэчак
неўзабаве закрые лёд.
Пасля адлёту лебедзяў
праз тры дні — снегу прылёт.

Ды нам найцяжкія будуць
тры гэтыя дні
з небам без лебедзяў і
без снегу ў глухой цішыні.

* * *

Адшукаць паспрабуйце
яблык нейтральны.

Цяжка было ім усім
цяжкай зямлі супрацьстаяць —
і зрываліся цяжка.

Сведкай
зялёная гэта пагонь,
што нейтральнага яблыка
не існуе.

* * *

І раптам такі спакой,
што сонца спынілася на небасхіле
і таксама стаіць, затаіўшы дыханне.

Магчыма, змяніўся вецер,
магчыма, змянілася варта,
магчыма, ламаецца голас:
надта доўга быў малады я.

* * *

Як вялізныя падсвечнікі, дубы
У згалелыя і восені, і вёсны,
Як латгальскія падсвечнікі, дубы.
Поўня лье спаўна ў галлё агонь дзівосны.
Поўня зябкая, далёкі зорны жар,
Вам падсвечнікаў ані вядомы мукі,
Як апоўначы ў счарнелай цішыні
Просяць свечак здзервянелыя іх рукі.
А над імі вечнасць белая цячэ,
Ручаі раку шукаюць Шляхам Млечным.
Як вялізныя падсвечнікі, дубы
Ціха сталі і сваіх чакаюць свечак.

* * *

Вось-вось я на свет нарадзіўся.
Мяне спавівацьме дасвецце.
Гляджу на гадзіннік — поўнач.
За поўнач. Палова трэцяй.

Пад бэзам стаім. Грукоча
Па хмарах гром у карэце.
Спаткаліся нашыя рукі.
За поўнач. Палова трэцяй.

Паставіўшы кропку, кладу я
Пяро сваё, верны прыкмеце.
Гляджу на гадзіннік — значэла.
За поўнач. Палова трэцяй.

Мяне ўжо выносяць. Вядома,
Жвір стому маю прывеціць.
Гляджу на гадзіннік — поўнач.
За поўнач. Палова трэцяй.

Кароткае ці даўгое
Жыццё было — і не прыкмеціў,
Ані скрануліся стрэлкі
Нікуды. Палова трэцяй.

## ПЕРАЛЁТНЫ КАМЕНЬ

Мы выдзерам гэты склеп з зямлі
і ў паветра ўздымем хаткай для птушак.
Ці возьмем гэты нябесна-блакітны дым
і ператворым у торф зямліста-руды
ці ў журавіны? Хто будзе супраць?

Не вечны камень і не заўсёдны.
Сам бачыў, што камень на вежу ўздзіраецца,
і ўе гняздо паміж чорных галак,
і выседжвае каменьчыкі шэранькія.
Пасля яны вучацца лётаць. Што тут дзіўнага,
калі бачым на небе пералётныя камяні?

О, вясна зялёная, як зялёная мірта,
і, прыйшоўшы толькі што з выраю,
ля шпакоўні, што на бярозе,
пералётны камень пяе.

Пра крылы свае, пра шчаслівыя крылы.

* * *

Шыі доўгія цягнуць коміны,
Каб скуродыміць неба кужаль.
У мяне там, у небе, чайка.
Чаечка. Белая дужа.

Не скажу я нічога болей,
Паўтару толькі тое і тут жа —
У мяне там, у небе, чайка.
Чаечка. Белая дужа.

* * *

Клептаманія
нешта ўкрасці ў маці сваёй і
ў жонкі схаваць.
Нешта ўкрасці ў жонкі сваёй і
ў сябе схаваць.
Нешта ўкрасці ў сябе і
ў верш схаваць.
Нешта ўкрасці з верша і
яшчэ глыбей схаваць.
Нешта ўкрасці яшчэ глыбей
і не ведаць болей, куды падзець.

* * *

Гэта ўжо такая праца
як слабак
не тужся брацца

узараўшы плугам
мора
ад сябе
ўцякае змора

гэта многае
з нічога

гэта ў радасці
нябога

той агонь
што дым будуе

золата
што мех рыхтуе
бочка
з вокнамі на дне

праца гэтая
па мне.

## ТРЫМАЙ САБАКУ НА ЛАНЦУГУ

На навальніцу хмарыць смугу.
Трымай сабаку на ланцугу.
Не давярай самоце тугу.
Траскочуць конікі ў мурагу.

На навальніцу гоніць смугу.
Здзіўленне высвеціла дугу.
Трымай цярпенне на ланцугу.
Траскочуць конікі ў мурагу.

На навальніцу змрочыць смугу.
Трымай сабаку на ланцугу!
І слова мае сваю вагу.
Траскочуць конікі ў мурагу.

Сюды прыйшоў ты адбыць чаргу.
Абвянуць краскі твае ў стагу.
Як цень твой, лёгкі будзь на нагу.
Трымай сабаку на ланцугу.

## АДЗІНЫ ГРЭХ

Адам быў грэшны толькі ў адным:
Ён закахаўся ў Еву.
І трапіла гэта справа якраз
Да бога ў хвіліну гневу.
Раз'юшыўся бог:
— Як ты мог, Адам,
Да д'ябла зваліцца ў яму?!
Ты ж добра ведаў,
Каханне — Бог.
Пярэчыў Адам:
— Я — таксама.

— Ты — не! Ты — д'яблава пабайня.
Абразіў мяне неспадзеўкай.
Як мог ты так нізка пасці, Адам,
З шыраказадаю дзеўкай?

— Не падаў ніжэй я ад той зямлі,
Што ты стварыў — завяраю.
І хіба такі гэта грэх цяжкі,
Што ты нас вытурыў з раю?

Дык дзякуй богу, што з раю прагнаў,
І райскія шаты — бог з імі!
Цяпер, што захочам,
Можам рабіць
З сваімі жонкамі ўсімі.

На вецер пускаем фігавы ліст,
І Ева касу распускае.
І гэта адзіны застаўся грэх
Нам не ад зямлі — ад раю.

Мы думаць не думаем трапіць у рай,
З таго не робячы драму.
Грэх гэты, відаць, дазваляе пабыць
На міг хоць у раю Адаму!

* * *

Уначы па скале ўгару з глыбіняў караскаюцца караблі. Там угары ў хаціне спіць стары капітан.

Мы, санліўцы начэй, не ведалі б гэтага, калі б на якарным ланцугу не павесіўся адзін карабель.

Гэта было раніцай. Між двух велічэзных зубоў якар засеў. Так і завіс карабель над ф'ёрдам.

І мы тады зразумелі, што ўгару па скале да хаціны па начах да капітана старога цягнуцца караблі.

* * *

У альбоме свету — лінія тонкая,
Малюнак філіграннy:
Чалавек незакончаны ў белых пальчатках,
Як адкручаны кран, што
Выцякае, незакручаны. І там жа
Сярод адкрытых, таропкіх ліній —
Закончаны чалавек кропкай над «і».
У чорных пальчатках.
Гадзіна прывідаў дыялектыкі:
Выразна можна бачыць, як спачатку
Да мяне набліжаецца чалавек
У белых пальчатках.

* * *

рака лёсу жудасная
нямая
калі ў ёй ракаў сваіх
не маю

усё да мора цячэ
ды ра́кі
марудна паўзуць назад
да крыніц
да каранёў ракі.

# Імантс Аўзіньш



* * *

Пунцавеюць брусніцы ў спакусе,
мы ля брамы верасня ў скрусе,
збіраюцца ў вырай гусі, журботна крычаць у свет.
Ды паміж ягад пунцовых,
гузікаў верасовых, да грудзей прасекі прышпілены
брусніцаў запознены цвет.
— Ці ж ягадам часу стане
на завязь і даспяванне, калі над ялінамі гусі
журботна крычаць у свет? —
Бабіна лета паволі
залоціць бярозам голле,
жаўцеюць травы ў няволі — і як дар найвялікі —
брусніцаў запознены цвет!

* * *

Каб можна было — каб дасяг я ўмельства такога,—
дык назад пераклаў бы вершаў замнога:
на сагрэтую сонцам ціхім, на амытую ліўнямі
жытнімі —
мову нашую простую і старажытную.

Ланцугі паабсек бы рыфмаў усіх прымітыўных,
перакаваў бы метафары ў кузнях дымных;
разбурыў бы кожнага рытму з застылым каркам
каркас
і паслаў бы эпітэты куды-небудзь у Каракас.
Так! Пакінуў бы толькі некалькі параўнанняў
нязбітых;
падтэксты разбавіў бы акурат як спірт той —
не марна б тады гады нада мной кружылі.
Зноў мяне б зразумелі каханая, сваякі і чужыя.
Так, гэта б цудоўна было, прызнацца!
Захапляліся б моваэнаўцы:
«Вось як мову ён перакоўвае і месіць нанова
годна!»

Ды часу мала ў мяне і, на жаль,
слоўнік прапаў неабходны.

## СПАЛЕНЫ ЛУГ

На спалены луг, як срэбнае зерне,
жаўранкі сыплюць звон.
Вось убачыце, яны вясну пасеюць,
зіму пратурыўшы вон.
Спалены луг, як пажарышча пасляваеннае.
Лёду прыходзіць скон.
Белы лёд да сэрца зямлі імкнецца.
Кветкі срэбныя ўзросціць ён.
Мы на спаленым лузе выраслі.
Хаваліся ў сляды жаўрукоў, як у норы.
Ля небасхілу прапалі таварышы —
Ў бядзе? на вайне? ў горы?
Яшчэ іх дыханне над спаленым лугам
падымаецца пад красавіцкія зоры,

іх рысы мільгаюць яшчэ ў аблоках
у нябеснай прасторы.
Яшчэ па начах мужчыны прыкусваюць
стогны — асколкі выходзяць з цела,
ды срэбныя кветкі растуць на спаленым лузе
па схуднелым і чорным смела,
дзе мятліца, асака, чартапалох і пажарніца —
насельніцтва леташняе згарэла,—
пад красавіцкім суцэльным агнём
памаладзь не ўцалела.
Хай не кажуць: няма поля спаленага!
Хай не кажуць:
тут агонь быў кволы! —
ён вывіваючыся ішоў і вылізваў усё
на шляху сваім, чырваначолы:
трава перад ім ці чалавек,
сцяблінка сухая ці долы,
яліна зялёная ці чорная вольха,
хаціна ці палявыя пчолы...
Пі срэбнае зерне звону,
што льецца з неба ў далоні лугам.—
Вось убачыце, зноў убачыце,
што май народзіцца там!
Як пажарышча, спалены луг чарнее.
Лёд апошні трэскаецца напалам.
Белы лёд як агонь патрэсквае.
Ён кветкі срэбныя прарасціць сам.

* * *

У далёкім горным краі
словы мне гучаць праз сон:
«Птушка гэтак не спявае,
як дзяўчына маладая».

І навошта гэтым стромам
песня моваю чужой? —
і няма каго гукнуць,
і няма каму пачуць...

Свет багата песень мае,
не збяднее без маёй,
што ў гаях знайшла матыў,
што сама зайшла ў заліў —

ды ў самоце адчуваю,
мне без песні не пражыць,
што на хрэсьбінах была,
што мне ў шлях дала святла:
«Птушка гэтак не спявае,
як дзяўчына маладая».

## НЕ АДАРВАЦЬ ВАЧЭЙ!

Над галавой свяцілы
у незлічонай красе
(так і ніколі не вывучу,
як называюцца ўсе).

Гонар племя загадвае
працаваць і смяяцца ў жыцці,
насустрач жменьцы попелу
без жалю ісці.

Не шмат давялося
цешыцца зорным святлом,
трэба было ўгрызацца
ў працу, як лом.

І продкі ішлі з надзеяй
на горкія ляды, ў віры
(былі сярод іх заўсёды
забулдыгі і ведзьмары).

На агні ў нябёсах, нябёсах
глядзець не хопіць начэй.
Як там зіхціць і палае —
не адарваць вачэй!

— Месячык, месік — акрайчык
хлеба, што ў небе рос!
— Сонейка, сонца — гэта
кавалак масла з нябёс.

— Зоркі, як пчолкі, ў вулей
кожная мёд нясе,
там і каровы, і коні —
разам усе!
Неба плямёнам нашым —
вечныя ляды
(зірні —
аблокі дымяць, ззяюць зоры —
гараць смалістыя пні).

Магчыма, ёсць рыба ў небе,
звяроў і птушак стае.
І хваля ў нябёсах, што ў моры.
На ўсё ў нас меркі свае.

На зорны агонь дзівіцца
не хопіць начэй...
Ды як там зіхціць і палае —
не адарваць вачэй!

## АНТРАКТ У ОПЕРНЫМ ТЭАТРЫ

Аўтобусы з вёсак у Рызе
Ля тэатраў марнеюць і зябнуць, як цюцькі.
У оперным тэатры скончылася адна дзея.
Ганна Цэлма гаруе ў фае:
«Вось дзе любошчы! А ўборы, ўборы!
Кавалеры (Петэр, не сморкайся!)
Тут, сапраўды, і ўбачыш,
Якія бываюць — душой і целам.
Куды нам з нашымі бурэнямі,
Трактарамі ды камбікармамі — гэтак!»

Петэр пудліва ў размову ўлез: «Балерыны
Надта худыя — пэўне, не ядуць шпеку».

«Шпеку! — Ганна ў гневе перабівае.—
Я пакажу табе дома — шпеку!
Спявачкі, кажуць, сырыя яечкі п'юць,
Ад іх выходзяць боскія пошчакі».

«Тады, значыць,— Петэр збянтэжыўся,—
Без нас няма ні рулад, ні пошчаку...»

«Ёлупень! Хіба ж ты яечкі нясеш?
Балерын, мабыць, тузін які
На ўсю рэспубліку ля бурштыновага мора,—
А Петэраў — добрая тысяча».

Тут слова трэці бярэ (дырэктар клуба):
«Любыя мае аднавяскоўцы, а мне здаецца —
Увесь свет запоўнены вобразамі,
Чалавек паўсюль застаецца —
чалавекам тым самым.

Янка, калі з барана шкуру злуплівае,
Дальбог, што той Адысей — выліты,
Хоць і едзе не па залатое руно.
Ну, а Крыш, які сваю Дэздэмону,
Лыкнуўшы, каб пасмялець, летась душыў —
Ці не дамарослы гэта Атэла?
Дзе, як бы вы думалі: ў Рызе? Рыме? —
Тут, у суседзяў нашых.
Галубчыкі, я на сваёй асветніцкай працы
іншы раз адчуваю сябе Дон Кіхотам,
які змагаецца з ветракамі...»

«Заткніся! —
Прамаўляе сінявокая Дацэ. —
Дон Кіхот не выпрашвае каля крамы
Выпівон спартсменам ці самадзейным артыстам...»

«Ну, Дацэ, што ўспомніла,— так, выпадак...»

«Выпадак — ды яшчэ які, таварыш начальнік клуба!
Эх, нагляджуся я гэтых п'ес ды опер,—
Так і хочацца ўночы ісці да ракі
І песню гэтакую зацягнуць,
Каб вы ўсе ў сваіх ложках падскочылі!»

«Хе, хе, хе,— віцэ-старшыня прамаўляе —
Многія галіны мастацтва вясковым людзям
Дапамагаюць падняць прадукцыйнасць працы...»

Петэр: «Ты — як па кнізе, Волдыс.
Хочаш чыстую праўду скажу? —
Мне пасля выкрунтасаў рыжскіх
Дзеўчынёшкі худыя ўсё мрояцца...»

«Агіднік!» —
Ганна ўскрыквае і вымае насоўку.

«Сівізна ў бараду — нячысцік пад рабрыну!
Ты людзям не прафануй мастацтва,
Як указваў ужо тэлевізар».
«Таварышы,— цягне Пятэр сваё,— а ўсё ж
Іншы раз так свярбіць на душы:
Жыццё ж мінае. Стане Пятэр стары.
Павязуць на пагорак. Што тады скажуць:
Ну, сена касіў? Грузіў салому Пятэр?
Мілаваўся, вунь, са сваёй Ганнай?
(Не піхайся, Ганна!) Тады мне здаецца: цуг
Пярэстых асоб, што танцуюць, пяюць,
Цягнуць мяне кудысьці, не даючы спакою.
(Супакойся, Ганна!) Так, ведаць хачу я:
Што ад Пятэра на зямлі застанецца?»

«Тры сыны,— Ганна кажа. «Мала табе?
Дужа доўга басцяўся па балях».

«Любыя аднавяскоўцы,— галава клуба
Другі раз перабівае размовы сучаснікаў —
«Мастацтва не трэба так проста тлумачыць...»

«Ва ўсіх галінах»,— пачынае Волдыс.

Трэці званок. Пачынаецца новая дзея.
Пуста ў фае, як мятлой падмялі.

## АДНОЙЧЫ

Гадоў цераз дваццаць — трыццаць,
баючыся зусім спазніцца,
да цябе я прыеду ў госці,
бо ведаю, не даклікацца маладосці.

Пачну разважаць:
«Жыццё такое».
Ты ў садзе будзеш сядзець у спакоі
(з кнігаю ў руках? з вязаннем?).

Супертранзістар
у акне суседнім
будзе глушыць наймодным кананнем.
Будзе ранні электрамабіль
шуршэць па апалым лісці.

Буду глядзець на дом двухпавярховы,—
на замак, якім я трызніў калісьці,
на вокны, што з поўняй нароўні,
як гавораць у вершах, пакуты.

Будуць падаць праз агароджу промні
на твар твой, ледзьве гадамі крануты,
можа, каштан хоць адну па-сірочы
свечку даберажэ да сустрэчы.
І ты на мяне падымеш вочы,—
заўважыш, і праўда,— старэча —
з сумам, з дакорам, адпаведна настрою.

І піць гэты міг буду я, нібыта
віно тое добрае і старое.
Павітаюся і схілю галаву сівую.
«Бачыш, зрабіў, як загадала,— скажу я,—
век свой пражыў,
паўсвета прайшоў з журбою,
каб даказаць, што перад каханнем
нішто — ўсе застоллі
і любое вядзьмоўства — слабое».

## Арыя Элкснэ



### НА БЕРАЗЕ ЦІШЫНІ

Дзе кветкі растуць і дзеці —
На беразе цішыні,—
Жыву я, і толькі зрэдку,
Як тыя забытыя дні,
Гаворыць з мінулага сябар:
— Ні тлуму тут, ні мітусні.
Як дзеці растуць і кветкі —
Глядзі і спакой цані.
А мы — дзе жыццё ўсё наша?
Дзе тыя забытыя дні? —
На пыл перацерла спешка —
Нічога няма ані.

— Так, сапраўды мне добра:
Тут конікі-скрыпачы,
Тут белыя люстры фіялак
Святлом зіхацяць уначы.
Ды гэта толькі здаецца,
Што дні тут бязвольна ідуць,
Што тут сядзі ды любуйся,
Як дзеці і кветкі растуць.
Прапалваю ў сто прапалак,

Пазногці ад стрэмак гараць,
І цішыню — перад бурай,—
Шчымлівую, не суняць.
І нібы перад паводкай,
Мне робіцца цесна ў сабе.
Ірву берагі — і насустрач
Пакутлівай
барацьбе!

* * *

Семя, як нож, рассячэ, каб расло,
Яблык даспелы зрывае з галіны
Нездавальненне сабой.

Ставіць малых птушанят на крыло,
Промнем гайдае ўзятак пчаліны
Нездавальненне сабой.

З дзён, адкуль памяць мая глядзіць,
З песні, што плынню крыніц разлюляна,
Стрэмкай у сэрцы маім сядзіць,
Нібы жывая, пякучая рана,
Нездавальненне сабой.

* * *

Пешаходы, племя вандроўнае,
гляньце ўслед з усмешкаю ім —
Ездакам, што ляцяць маланкамі
праз аблокі пылу, праз дым.
Так яны будуць вечна імчацца —
міма, міма жыцця, няспынна,—

Толькі вас, пешаходы, усцешыць
аксамітнаю гронкай ляшчына,
Толькі вас на сцяжыне забытай
курапатка завабіць красою,
Толькі вас вярба маладая
на світанні абдасць расою...
Нетраў шум ездакі не пачуюць,
іх не спыніць водар суніцы,
Дождж ім граззю толькі здаецца,
пылам пахнуць для іх медуніцы.
Хочаш вольным быць, нібы птушка,
кінь асфальт і запомні пры гэтым:
Толькі сцежкі цябе палявыя
нацянькі правядуць у лета.
Ні спідометры, ні кіламетры —
толькі пэндзлі бяроз крылатых
Намалююць у сэрцы Радзіму,
светлы вобраз бацькоўскай хаты.

## ГЛЯДЗІ НА СВЯТЛО

Зямля гэта шмат пакутвала,
Ды пакут яшчэ ўсё хапае.
Але, нарадзіўшыся, жыві і глядзі
Туды, дзе святло ззяе.
І вер, што яблыня ў росквіце
Не будзе пасечана градам,
І вулей пчаліны спакойна
Лётку сваю даверыць табе.
І вер: каго пакахаеш,
Глядзець на цябе толькі будзе
І горад, дзе ты нарадзіўся,
Вайна не сатрэ з зямлі.
І вер, што каса гісторыі

Не зрэжа народ пад карэнне,
Што будуць на ніве Айчыны
Расці праз вякі пакаленні.
Зямля гэта шмат пакутвала,
А пакут яшчэ ўсё хапае.
Але, нарадзіўшыся, жыві і глядзі
Туды, дзе святло ззяе.

* * *

Усё на слабасці маёй трымалася —
І руйнавалася, і руйнавалася.
Над самай прорваю я нахілілася —
І за святла прамень ухапілася.
І падняла сябе да сонца з чорных сноў —
І заквітнела зноў, і заквітнела зноў.
І радасць звонкая мяне прывяціла:
Вятрам у грывы зноў істужкі ўплецены,
З лісцінкай весняю — ізноў як дзеці мы...
Хачу сказаць я вам — сама спазнала,
Што квецень будзе зноў пасля навалы,
Бо чалавек з плячэй скідае горы,
Пакуль жыве і ёсць яму апора.

## ТРЫ ЗАЛАТЫЯ ЯБЛЫНІ

Ноч свой полаг расхінае,
І змарыўся ў лямпе кнопік,—
Спі, сыночак, спі спакойна,
Спі, як спіць вярбовы коцік.
Пры святле далёкіх зорак,
Пад крылом вятроў, мой сынку,

Пад маім вялікім шчасцем
І пад горам,—
Спі травінкай...
Покуль спіш ты, немаўлятка,
Покуль ты яшчэ маленькі,
Я знайсці хачу пад снегам
Залатыя тры зярняткі;
Не хачу цябе па свеце
Я пусціць без абароны:
Зашумяць хай над табою
Трох зялёных яблынь кроны.

## ЗА ТВАЁ ЗДАРОЎЕ, ЗЯМЛЯ!

Што адыходзіць лета бабіна,
клін жураўліны ліст мне піша,
Уся ў лістоце, напаўняю кубак
асеннім сонцам і летняй цішай...
П'ю за тваё, зямля, здароўе!
Няхай нядоўгім будзе вырай.
Што на сваім плячы ты несла
мяне,— за гэта дзякуй шчыры!
П'ю за цябе, зямля. Хай тухнуць
агні варожасці крывавай,
І спеў драздоў няхай не моўкне
ў грымотах вогненнай патравы.
Я веру: з гонарам паважным
ты ў вочы сёстрам-зоркам глянеш,
Бо сын твой шчасны будзе ў працы,
у дружбе шчыры і ў каханні!
Цябе, зямля святая, слаўлю,
ды не схіляюся ў бязмоўі:
Лью сонца я ў асенні кубак —
п'ю за тваё, зямля, здароўе!

# Эгілс Плаўдзіс



## СПАДЧЫНА

Яго да крыві бізунамі вучылі —
У свет ён сышоў і панёс за плячыма

Надзею — вякамі збіранае ў сотах
Золата волі, што спела на потым.
Вярнуўся дзядуля — каваль-вярнідуб.
І молат куе, каб раструшчыць бяду.

Ахоўнае войска нявoлі, нядолі
Пад молатам дзеда палегла на доле.

Яго бізунамі сурова вучылі,
Каб нам не дазволіў пакінуць Айчыну.

І мы застаёмся. Па восені падаюць дрэвы.
Асенняе лісце — як зоркі чырвоныя грэе.

## СВЕЧКА

Дрогкім полымем згарае мая свечка.
За акном маім — упартыя вятры.
Поўніцца трывогаю адвечнай
Песня. На маленечкім кастры

Спальваю душу, якая ўмее
Моўчкі пераносіць раўнадушша.
І душу другую разумее.
І насмешкай крыўднай не аглушыць.

Хмеліць сонца лёгкага віна
І другога, любага мне, сэрца.
Песні суджана святы агонь з'яднаць,
Рытмы сэрцаў вечнасцю праверыць.

Растае дрыготкай зоркай свечка.
Ноч глытае светлая зара.
Ў новы дзень, загадкавы, як вечнасць,
Прыйдзе вечар. Зорная пара.

## БЯЗЛІТАСНАСЦЬ

Нібы скульптар адмысловы у граніце,
Я на твары тваім высек глыбачэнныя маршчыны
незнарок.
Мне не спіцца ад трывогі. Ад трывогі —
не пазбыцца.
Ранні прымаразак ўквеціў мае скроні, маё
сэрца, мой парог.

Як заўсёды маладыя твае вочы!
Толькі твар — паводкай выгрызены бераг.

Сэрца гэткае сустрэнецца аднойчы...
Дабрыні такой не ведаў, ты павер мне.

Як, калі — я не заўважыў — вір жыццёвы,
Парадніўшы, нас благаславіў.
Уяўляю цябе кветкаю вясновай
І святкую свята сэрца і крыві.

Мы ў палоне дзіўнай сілы, светлых чараў.
Можа, музыка тваёй душы
Параднiла хмельнай песняй, хмельнай чарай
Ці лясун які прыхільны прысушыў?

Бачу твар стамлёны мілы і міжволі
Высякаю з сэрца музыку маршчын.
У другіх не раз бываў я у няволі,
А цяпер так востра разумею, што перад табою я
грашыў.

А цяпер з табой адною я пайшоў бы ў невядомасць.
І шкада, што адыходзіць у прадонне нават цень.
Ды каб зноў пісаў — складаў бы песні светлыя
Мадонне...
Толькі ў дзюнах скрозь пасецца
Мора вечнае, жывое ноч і дзень, ноч і дзень, ноч
і дзень...

* * *

Каб вершы сумныя пісаць,
Як многа мужнасці патрэбна —
Нібыта шрамы цалаваць
Ці прабівацца праз лавіны гневу.

Ці па сцяне скалы крутой
Над безданню глухой падняцца ў неба,
Ці салаўінай песняю святой
Здзіўляць зямлю, што грэецца пад снегам.

Патрэбна мужнасці так многа,
Гаючых сонечных усмешак,
Каб стаць, без шкадавання, на узмежак
Свайго быцця, жыцця свайго зямнога.

І стаць нарэшце тым, ў чыіх руках —
карэнне дрэў,
Лавіна шчасця — песня салаўіная...
Каб анемонамі вясной зямлю угрэць,
Што ўзыдуць па-над кожнай ручаінаю.

## КАЛІ МОЖАШ ЯШЧЭ

Калі няма такое мары у цябе,
Дзеля якой адкрыў бы новую планету,
Дзеля якое — на здзіўленне свету —
Палац пабудаваў бы — не сабе;

Калі душа твая не адгукнецца
На голас жураўля трывожнай песняй,
Калі прад абнаўленнем веснім
Засмяглаю душою не ўваскрэснеш,—
Няма нічога болей у цябе.

Калі ўваскрэснеш і душа ачнецца
З найпершым громам першай навальніцы —
Сівая даўніна, як ціхая крыніца,
Нанова да жыцця ў табе праб'ецца.

Тады ты зноў — магутны бог Надзей.
І новае, як першае каханне
Зноў перахопіць, як даўней, дыханне,
І зноў ты — шчаслівейшы між людзей.

## ХЛЕБНЫ НОЖ

Я ўсё жыццё еў хлеб надзеі —
Слабеюць воіны ад гэткае яды;
І холадна нам свецяць праз гады,
Трывог не ведаючы, зоркі-дабрадзеі.

Хірург са скальпелем — работа. Не падзея.
Шчыруй, хірург, даследуй, вывучай,
Што прымушае сэрца не маўчаць,
Што — абмінаць Харонавы надзелы.

Я ем, не прадчуваючы бяды;
Запальваюцца зорныя сады —
Нібы рукой натхнёнай чарадзея

Запальваюць сто сэрцаў. Ля пляча
Гарачы шэпт. І я гатоў пачаць
Зноў апантана кроіць хлеб надзеі.

## КАЛОДЗЕЖЫ

Я ў пошуку срэбных крыніц хадзіў,
Капаў без утомы, потны,
Ды бачу, засыпаў, не ведаю хто,
Калодзеж глыбокі, зіхотны.

Ужо цярушаць снягі па начах,
Ды ім не сагнуць вярбіну.
Упарта агні блішчаць у вачах,
Рэжа лапата гліну.
Чую: цурчыць у глыбінях вада
І тахкае ўзбуджана сэрца.
Не кіну лапату, бо заўтра капаць
Зноў давядзецца.

* * *

Святая сінічка, увішна якая
Ў гняздзечку і ў полымі корміць дзіця.
Святая надзея, што высякае
Светліну-іскру са снопа жыцця.

Святое сонца ў вачах чалавечых,
Якое іскрыцца заходам дня.
Святое слова, слова спрадвечнае,
Што б'ецца, трапеча, нібы птушаня.

Святая зямля, што ў весняй руні
І ў чорнай, натруджанай аралллі.
Святое сэрца, святыя рукі,
Што горнуцца цёпла да гэтай зямлі.

* * *

Зноў яно, шчасце маё нешчаслівае,
Рукі азяблыя мне падало.
Стынуць далоні над плоднаю нівай,
Гасне душы залатое святло.

Зноў яно, шчасце маё нешчаслівае,
Мёдам гарчыць,
За мяне шчаслівей.
Роем пчаліным знікла над нівай,
Сполашна б'ецца крыллем завей.

* * *

Былога не вернеш —
Ціха згасае дарэшты.
Ноч. Зорачак зерне
Прасейваюць чорныя рэшаты.

Сон мой забраны з воч
Песняю летуценнай.
Дорыць мне ноч
Мілых сяброўак цені.

* * *

Промні залатыя
Упляце світанак
Ў валасы густыя
Згодлівых каханак.

І на сінім плёсе
Золь-туман зрадзее,
Каняй дагалосіць
Стылая надзея.

Узляціш на ганак
Знічкай зыркай самай.

За спіной світанак
Важка грукне брамай.

Не мая, чужая,
Пазірнеш усмешна.
Думкі распужаеш,
Зробіш сэрца грэшным.

## КАРАЛІ

Ты каралямі сыплеш усмешна,
Усмешна,
Аж сівым жураўлям у нябёсах пацешна,
Пацешна.

Іх прыбывае ў траве,
Прыбывае.
Сонца плыве. Раса высыхае.
Раса высыхае.

Караляў табе не шкада,
Зусім не шкада!
Крочыць сястра, у малой бяда.
Якая бяда!

Позірк малой аб каралі паранены,
Позірк паранены.
Поўны караляў блакіт ранішні,
Блакіт ранішні.

## ВОСТРЫ ШТЫК

Калі б з народзін кануў век,
Я б вёз снапы ў чужы засек,
Брыў па расе сцюдзёнай.

Каб семдзесят мінула год,
Я штык узяў бы у паход,
Штык варанёны.

Ды іншым стаўся век зямны,
І сэрца б'е штодня ў званы
І просіць песню.

Ай, песню — росны блік!
Ай, песню — востры штык!

* * *

Мора майго юнацтва
Выпіла сонца чужое.
Сіняе, мройнае мора
Не ахіне прыбоем.
Мора маё шалёнае,
Мора маё агнявое
Выпіта мной, салёнае,
Разам з усёй бядою.
Сёння здалося: ў далечы
Мора сінечу гу́шкае.
Кроў маладую палячы,
Б'ецца ў крыві жар-птушкаю.
Сіняе, мройна шалёнае
Хмеліць зямныя душы.
Выпіта мной, салёнае.
Мне паміраць на сушы.

## Яніс Сірмбардзіс



### ПАХ КРАПІВЫ

Пах крапіўны
Паліць ноздры
Палымяна,
Як агніска
Ліст бярозы.

І вярэдзіць
Шрамы, раны,
Напаляе
Жар любві
Недакаханай.

На ўсе грудзі
Пах той даўкі
Удыхаю.
Горкі водар
Колкай траўкі.

Крапівою
Апякаўся,
Плакаў, але
Зноў упарта
Прадзіраўся.

Лез наперад
Апантаны,
Пах крапіўны
Душой-целам
Паспытаны.

Лёгка дыхаць
Я б не здужаў.
Пах крапіўны
Прыпадобню
Паху ружаў.

Далучу да
Ласкі джала
Боль пякучы,—
Каб пякло і
Каб кранала.

Пах крапіўны
Жорстка вее
На жыццё ўсё,
І на працу,
І на век мне.

## ЧОРНЫ КОННІК

Рахманы я ці непакорны,
Мой век худзее, як стажок,—
Скубе штоночы коннік чорны
Пражыты дзень, як сена клок.

Ледзь толькі бохан хмары пульхнай
Праткнуць праменныя нажы,
Як жарабец грызе ўжо цуглі,
Ад нецярплівасці дрыжыць.

З каня схіліўшыся, гатовы
Падсеч у завязі адпор,
Бярэ ў мяне білет жыццёвы
І дзірку б'е мой кантралёр.

Білет чыгрынавы малее,—
Заход штодзень... Штодзень япа,
Ноч стылая... А потым днее,
І зноў на дождж крычыць жаўна.

А сэрцу дай кахання, шчасця —
І мала, мала ўсё яму,
Заве жыццё адкрыцца насцеж
Праз боль, хваробу і ману.

А конь стаіць, палаюць ноздры,
Чакае чорны верхавец,—
Ды адчуваецца нявостра,
Што прыйдзе чорны мой ганец.

Ён расцярушыць прах мой, попел
Над жыццярадасным агнём
Рукой халоднай, у галопе
Спакойна зікнуўшы з канём.

Я не ўцяку, суддзя, ад долі —
І крэмень крышыцца, й скала.—
П'ю чашу радасці да кроплі,
Да чорнай, горкай, як смала!

## ПЕСЕНЬКА ПРА ВЯЛІКУЮ РЫБІНУ

Нам трэба рыбіну славіць,
Бо шчасце ў ёй,
Бо доля ў ёй.

Але хто знае месца тое,
Дзе рыбіна жыве?
Ці ў безданях марскіх жыве,
Ці ў хвалях рэк
Яна плыве,
Ці ў сцішанай затоцы возера
Каля гасцініцы?
Няхай з маланкай гром грыміць,
А трэба нам
Яе злавіць!
Бліскучая патэльня славы
Ўтаймуе скок яе!
Бяжым з вады, бяжым к вадзе,—
Нідзе няма,
Няма нідзе,
І толькі там, на небакраі,
Блішчыць яе плаўнік.
Душа — суцэльны кавардак.
То скажа «не»,
То скажа «так»,
А поўнай яснасці ў пытанні
І не было й няма.
Аж тут прыйшоў дзядок адзін
І вучыць нас,
Як рыбу браць,—
Ён вучыць нас, бо ён ніколі
Сам рыбы не лавіў.
Бяжым, ляцім туды-сюды,
Без рыбіны,
Як без яды.
Ці зловім рыбіну нарэшце,
Ці скруцім карак!

## ПАЭТУ Ў КАВЯРНІ

На бруднай сурвэтцы запісваеш ты,
На пачку пустым з-пад папяросаў,—
Імгненне — сум здзіўлены да нематы —
Ў прарочыя ўкладваеш знакі лёсу.
Размолвае словы кругаварот,
Як жорны. На вочы пасма апала.
Сурвэтка, якой выціраюць рот,
Успышку вечнасці занатавала.
Успыхнула зырка маланка на міг,
Ды бляск азарыў праззарэнне глыбока —
У дымнай смузе аблiччаў людскіх,
У плямканні шэрасці буднай навокал.

## ХАЙ ТОЛЬКІ...

Хай не ланцуг. Хай павуцінка толькі,
А не парвеш, як звон ланцужны рвеш.
Дасць падысці, а вырвацца — а не ж!
Хай не ланцуг. Хай павуцінка толькі,
А нам, шчаслівым, нельга выйсці з меж.

* * *

Выбалець з голля чырвоную ружу,
Выспеваць з чорнае хмары птушку,
Выплакаць рыбіну з хвалі сіняй,
Выдыхнуць полымя з мёртвай асіны,
Выкрасаць з грані жыцця і смерці
Кахання хоць бы аднюткую іскру.

* * *

Тарфянік душы... Там жар і жар,
У нос патыхае пахам выжарын.
Пасмы белага дыму, цяжар
Нетраў зямных, цёмных, зляжалых.

Цячэ белы дым... Ясным гарам гары,
Што ад іншых схавана ў натуры.
Табе, закапцелай у чадным нутры,
Не адкукуе зязюлька хаўтураў.

Чым другія змаглі б памагчы,
Калі рады сама ты не прагнеш?
Для іншых ты — балотная твань і карчы,
І туман у тваёй гразне багне.

Ні ратунку, ні рады ў табе няма,
Дымам з цела пачуцці выйшлі...
Гэта гар тарфяная ёсць ты сама,
Быць з табой побач цяжка іншым.

# Олафс Гутманіс



* * *

Усё болей б'юць паклоны
Людзі цудам жыватворным.
І не парасткам, не руням,—
Камяку зямелькі чорнай.

Толькі ў кветкі апранецца,
Толькі нівай закрасуе,
А ўжо нашай сілы камень
Крышыць непагадзь любую.

Да зямлі вільготнай, цёплай
Пад айчыны родным небам
Дакранаемся з любоўю,
Кладучы зярняткі ў глебу.

Каб яна была ўрадлівай,
Аздабляем перагноем,
Адкрываючы ўсё нанаў
Штосьці сэрцу дарагое.

Дакранемся, сутыкнемся
З сілай той несправаванай,
Каб нядбайства грэх каменны
Замаліць хутчэй дазвання.

* * *

Што пашыць ты можаш з неба,
Што пашыць ты можаш з лесу
Для палёў асенніх гэтых?
Ты яшчэ пра кветкі марыш
Ды не жартам, а сур'ёзна.
Што ж, няхай сабе квітнеюць,
Сыплюць зманліва пялёсткі
То на плечы, то на грудзі,
То на дол табе пад ногі,
Што заблытваюцца ў кветках.
Я кажу табе: асыпаў
Час пялёсткі думак строгіх.
Ты мне кажаш: як і ўчора,
Запляліся кветкі ў лесе,
Яшчэ ў небе поўна кветак
І над восеньскім палеткам
Фарбаў тых лунаюць пахі.
Я пад шэрай шапкай неба
У хваёвым палітоне,
У гліняных мокрых ботах
Адшукаю ў фарбах гэтых
Сутнасць думак найстражэйшых.

## ПАЛЯВАННЕ

1

Яшчэ на павадках сабакі ў паляўнічых,
ледзь стрымліваюць рукі буйны іх імпэт.
Дрыжаць іх целы. Храпы прагна ловяць вецер,
Што повен пахам пушчы, вострым пахам звера.
Адно імкненне ў іх — дагнаць, схапіць, зваліць.

Іх зубы прагнуць бойкі, сухажылле
Напята ў пале струнамі тугімі.
І галасы ласкочуць горлы, рвуцца ў скогат,
Каб цішыню прарваць выццём шалёным,
Каб бег свой спалучыць з вар'яцкім рытмам гону.
Усё вастрэй б'е ў нос юрлівы пах звярыны,
Усё тужэй сціскаюць горлы павадкі,
І целы ліхаманкава дрыжаць.

2

І вось сабакі пушчаны па следу,
Нібыта стрэлы з лука, што дрыжыць
Яшчэ ў руках стралка. Заслона пушчы
Для гульняў расхінута: хто каго?
І раптам адчуваю — я той звер,
Якога гоняць, абкружаюць і цкуюць
Самім жа спушчаныя з павадкоў сабакі.
Занадта позна іх вяртаць і адклікаць
Ад тых слядоў, што кагадзе пакінуў сам я.
— Ну, што ж, народжаны свабодным,— я кажу,—
Гульня ідзе. Я ведаю, што трэба
Рабіць, прагнаўшы страх, прыняўшы выклік
Сабе самому, спушчаным сабакам.
І я стаю, бы ўкопаны, застылы,
Я чысты, як святы, прырода ўся са мной,
Да самае апошняе крывінкі. Хто каго?

3

Як пахне страх, смярдзіць як боязь,
Зазнаў я, на сваю бяду,
Ды не міну звярынай сцежкі,
Са сцежкі лёсу не сыду.
Так, на падман, на спрыт, на хітрасць
Даў лёс мне лёгкую руку.

Я добра ведаю, як гінуць
Ад пастак, петляў і ад куль.

І як дрыжаць ад брэхаў псіных,
Ратуюцца ад іклаў іх.
На сцежцы стоячы звярынай,
Адкрыў я светаў сотні ўміг.

Адвагу як пабіць адвагай
І як свядомасць закілзаць,
Як на ману аброць накінуць,
Як страху знікнуць загадаць.

Як знішчыць боязь напаследак
Сваёй апошняю з адваг.
(Пускаць я доўга не згаджаўся
На ўласны след сваіх сабак.)

І вось калі гульня пачата,
Я сам хачу тым зверам быць,
Хто страх, хто боязь пераможа,
Хто ў бойцы выжыве, каб жыць.

* * *

«Нас шмат!» — крычаць з балотаў жураўлі.—
Ці зможаш, родны край, падняць наш клін?»
Праз туманы, дажджы, па-над лясамі
Ляцяць да белых хмар. Але часамі
Крычаць так сумна. Мо сяброўку жораў
Згубіў знянацку ў сівернай прасторы?
Тады мяне вазьміце ў шлях далёкі.
Я палячу туды пад ціхі клёкат,
Дзе вучыць жораў жорава ў вышынях.

Здаецца мне — я сам з сям'і птушынай.
І ўвосень мне, як вам усім, няймецца
Сваё заняць у вашым кліне месца.
«Нас шмат!» — крычу, склікаючы нядбалых,
Што між балот ад чарады адсталі.
Вятры адкрылі ў небе зорным дзверы.
Хутчэй увысь, хутчэй у лёт наперад!
«Нас шмат! — крычаць здаля мне жураўлі.—
Ці зможаш, родны край, падняць наш клін?»

* * *

Беластвольны строй бярозак
Вас хіба не чараваў?
Вунь адна стаіць сіроткай,
Закруцілася у svіль.

І, бяросту разарваўшы,
Навівае дні, гады,
Аж да стрыжня перавіўшы
Стан свой гнуткі, малады.

Як да дрэва свайго лёсу,
Да яе прыкуты я.
З ёю сэрца спавілося,
З ёю — ўся душа мая!

Я па шчырасці скажу вам:
І мяне скруціла ў свіль
Постаць гнуткая бярозкі,
Смак бяросты на губах.

* * *

Ах, вугольчык мой маленькі,
Ты маёй забавай быў.
Захачу — гарыш яскрава,
Не — агаркам тлееш ты.

Ты яшчэ жывеш у прыску,
Апякаеш пальцы мне.
Хоць твой подых мімаволі
Больш у твар не шугане.

Прыхамаці і жаданні
Нёс ты свету, як мага.
Каб цябе падсілкаваў я,
Ах, як зырка ты б шугаў!

Мір і попелу, і змроку! —
Так скажу я напаслед,—
Адгарэлі мы з табою,
Не сагрэўшы зімны свет.

Хутка вогнішча астыне,
Хоць і прагнем мы агню.
Ах, вугольчык, мой вугольчык,
Не гуляць нам больш з табой!

## ДАРОГА ВЯРТАННЯ

### 1

Як адыходзяць прэч, у невядомасць,
Больш не хачу я слухаць ні ад кога.
Прыстане сэрца, стомяцца пачуцці,
Калі пачую: «Прэч вядуць дарогі!»

А я жадаю слухаць пра вяртанне
У родны дом з нябёс, чужын нязнаных,
Пачуць, як ім жылося ў вандраваннях,
Якіх зазнаць прыпала ім насланняў.
Бо сам яшчэ вяртаюся аднекуль
Такі сасмаглы і такі галодны,
Што прамінуць магу свяцільню тую,
Якая вабіць позірк домам родным.
Стаміцца можам мы, са шляху збіцца
І не даплыць туды, куды нас гоніць
Той ветразь белы, белы ў шэрым небе,
У даўніну, у забыццё, ў сутонне.
Шмат адышло нас проста й бестурботна
У свет інакшы без тугі й пакут.
Мне ж выпала адна толькі дарога
Вяртання ў родны дом, у родны кут.

2

Як недарэчна так вярнуцца
Дамоў, дзе не чакаюць больш,
І радасць, што ў грудзях кіпела,
Перагарае ў вострыя боль.
Глядзяць нібыта на чужога
Былыя блізкія. Хіба ж
Не йшоў я да свайго парога
Праз перашкоды ўсе наўсцяж.
Ці так зблажэў я ў тых вандроўках,
Што не пазнаць? Адзін я час
Аддаў шуканням і блуканням,
Другі — пакінуўшы для вас.
Як на нябожчыка глядзеце,
Любімыя, вы на мяне.
Хіба ж не жыў на гэтым свеце
Я да вяртання тут раней?

## Мілда Лосберга



### ДАКЛАДНЫЯ, КОСЫЯ ЛІТАРЫ

Я часта думаю пра тое,
які вялікі чалавек —
што боль перамагае.
Бачу Леніна.
Рука ягоная паспешна піша,
і ў кончыках пальцаў стукаюць
малаточкі крывві.
Не гэтак лёгка, як у нас,
бо яму балюча.
Калі б не гарэў у Леніне
жалезны боль рабочых,
ці мог бы ён так энергічна пісаць
імя тваё —
Партыя?
Я пыталася ў яго рукапісу
пра гэты боль.
І дакладныя, косыя літары —
мне праўду сказалі.
Ленін адчуваў, як баляць
цяжкія, жылістыя рукі класа
і як у душы чалавека
крычыць адчай.

Таму кволая папера чула,
што сэрца Леніна гудзе марскою глыбінёй,
і чула, якім вызваленнем была для яго
Рэвалюцыя!
Усе малаточкі крыві
ў пальцах Леніна пераможна спявалі,
і, калі паднялося ранне,
у Петраградзе, кажуць, спяваў салавей.
Ды ў Леніна быў таксама апошні боль —
які бывае, калі чалавечую існасць
хоча адлучыць
чорнае замагілле.
Дрыглівыя кончыкі пальцаў
сказалі яму пра блізкасць яе.
І, калі ён не мог больш трымаць аловак,
маленькія малаточкі крыві,
згасаючы,
адстукалі
імя тваё,
Партыя.
Дакладныя, косыя літары —
на зіхоткай паперы Бяссмерця
мне адкрылі гэтую ісціну.

## СНЕГ ВАЙНЫ

Твой цень застаўся на снезе вайны.
Ты без ценю,
сонцам прабіты,
ідзеш.
Заміраю заўсёды я ў гэтакі момант,
спыняюся нават сярод
свету.

Тады бачу я твае снежныя вочы,
затуманеныя белым бляскам,
тады я гляджу на заінелы
твар снегу вайны,
заснежаныя ціхія храпы
і, як бык, уцягваю шыю
ад колеру крыві.

Чатыры бакі свету апусціліся
мне на рукі.
Я ў сярэдзіне свету.
Гэта — цяжар, жахлівая рупнасць.
Гэта не сон.
Ты без ценю,
сонцам прабіты.
Куды ты ідзеш?
У які бок,
снег вайны?

## ДАЧКА ВІШНІ

Чорна-чырвоныя вішні,
і я паміж імі,
быццам бы вішні дачушка, вішнёва палаю,
з поўдня ці з поўначы крыллем агортвае вецер,
голлем сваім сонца ў шлях бласлаўляю.

Сонца вішнёвым напоўніцца сокам,
у мора падае чорна-чырвоная вішня.
А ў дачкі вішні костачка белая-белая,
і яна тваёй будзе,
калі ў глыбіню нырнеш смела.

## Вітаўтс Людэнс



### ШЧЫТЫ

Нашы песні — шчыты старадаўнія, у галавах мы іх пакладзём.

Мы поўніцай долі ўдыхнём, як дзюны ўздоўж Даўгавы па берагах.

І вочы адкрыюцца нам, і ніхто захапіць знянацку нас не пасмее, каб целамі нашымі і касцямі засыпаць рэчышча Даўгавы.

Латышскі народ — камень, гліна, пясок, з іх і выраслі дзюны на берагах, каб між імі цячы маглі воды Даўгавы.

Нашы песні — шчыты старадаўнія; калі мы пакладзём іх у галовах,— ні ў сне, ні ў жыцці не заснём.

### ВОЛЬХІ

І вольхі могуць пад хмары расці,
І пад вольхамі можна цалавацца,
І пад вольхамі можаш ты быць
Самай прыгожай.

І я вельмі рады,
Што зеляніна альхі сарамлівая,
І мне — ўсё роўна,
Што моц — у бярозавых дровах;
Бо вольхі былі
Над калыскай майго кахання,
А палкіх дроў
Мне і без іх дастаткова.

* * *

Ну, што раскажу я табе
Вячэрняю позняй парою,
Калі горад вызяб і вымак
І шышкі стуліліся ў лесе?
Ну, што я табе скажу
Начною парой на дасвецці,
Калі пахне чаем пакой
І ты плечы хусткай акрыла?
Мо некалькі просценькіх слоў,
Якія
змест
свету
складаюць...

## НАЛЬЁМ ШЧАСЦЯ

Нальём шчасця з гэтых дзён і начэй,з гэтай ціхай шарай гадзіны.

З волава і са свінца, з каменя і з празрыстага крохкага шкла.

З украсаў, якія мы носім, з мячоў, што падняты былі супроць нас.

Калі доўга да Новага года яшчэ і ўсе печы ў халоднай сажы.

А найперш мы нальём з зямной рэчкі і хмаркі нябеснай. Непаўторныя хмары і рэкі, нальём сабе шчасця і з іх.

І няхай непадобныя ні на казулю хмары, ні на ластаўку, ні на лісічку, ні на воблачка тое.

Хай яны не вядомыя нам.

Абы толькі абое мы ведалі, што гэта — шчасце.

## ВЕЛІЧАЛЬНАЯ СТАРОЙ ЛІПЕ

Слава табе, ліпа старая з карой, як ралля,— рукатворнае дрэва, што меру часу перажыло.

Слава галінам тваім, што бусліны трымаюць трон, сукам — гарадзішчу шпакоў.

Добра, што буслу прытулак даеш, бо ён, бусел, зямлю ад маланак ратуе; добра, што любіш шпакоў, бо шпакі навалач вусеняў злую знішчаюць.

Слава вяршаліне гордай тваёй, на якой сонейка адпачывае ў спякоту, касцам прахалоду дае, і дзе месячык схованку мае, калі хлопцы цалуюць дзяўчат.

Слава дуплу твайму. Яно — сімвал жывучасці, гэта дупло. Хоць пракапцела яно ад куродыму войнаў знішчальных, але ж не напоўнена болем, а пчоламі, мёдам заўсёды.

Слава камлю твайму. Веру — ён хмары высока ў небе трымае. Зломіш яго, і меней будзе паветра, каб дыхаць. І хмары паўзлі б па зямлі, і цяжка сябру было б сябра разгледзець, і цяжка аратаму ўбачыць аратага.

Слава карэнню твайму. Пакуль будзеш строма стаяць, карэннем не будзеш хваліцца. Сціпла, глыбока ў зямлі хай расце. Сіла яго — у камлі. Слава карэнню ліпы старое. Рэдка які чалавек трыста гадоў роднае глебы карэннем трымацца можа.

Слава табе, ліпа старая, слава тваім братам і сёстрам — дубам, клянам і асінам.

Слава вам, старадрэвы,— працавітыя рукі зямлі!

* * *

Мукі сусвету
ў свае перакласці мукі,
прагу сусвету
ў сваю перанесці прагу,
шляхі і дарогі прайсці
да чалавечнасці,
не апусціўшыся
ў бесчалавечнасць.

## ДВА ТУРЫ

Матчына, бацькава даўняя мова —
Мова латышская сонцажурботная,
Братава даўняя мова —
Ніцалозная мова літоўцаў.
Вы — два апошнія туры жывыя
З нетраў адвечных у нашых барах.
Пушчаў іншых на свеце няма.
Толькі нашы жывыя лясы — жывыя лясы.

Пачціва дарогу вам саступала
Маці-ваўчыха, што Рым ускарміла,
Ў храмах, вітаючы вас, уставалі
Зеўс, Афрадыта і вешчая Гера,
Подых адчуўшы сівой даўніны.
Вы — старажытных індусаў браты,
Вы — каля Рыгведы і Самаведы калысак
Поплеч стаялі.
Два апошнія туры на свеце,
З нетраў адвечных да будучыні дажылі.

## ВЫМЯРЭННЕ НЯБЁСАЎ

Вядром
Мераць студню.

А студняй
Хмары.

А хмарай
Сонца.

А Сонцам
Нясонца.

## ЗЛОДЗЕЙ

...хай славіцца Злодзей,
Што ў чалавецтва выкрадзе Грошы.

* * *

З каменя
выкуй касу.

З пуху
зрабі малаток.

Выспявай песню
з пяску.

З Незразумелага мост перакінь
да Несумяшчальнага.

* * *

Сустрэнь мяне, калі іду з касою,
Натруджанай і стомленай зусім,
І на плячах нясу я небасхіл
І прыгаршчы з вячэрняй ціхай мглою.

Сустрэнь мяне, калі іду я з бою,
З трыумфу сталі, што душы няміл,
Калі не гнуцца ўсё ж хапае сіл
Пад вогненнай пагрозлівай скалою.

А беззваротнасці няма на свеце —
Маланка крэсліць хмарную жуду,
Трава жывая вытравіць бяду.

Твае хай рукі стануць гойным веццем,
Калі з няславай, славаю прыйду,
Калі вярнуся я з жыцця і смерці.

## ПАЭТАМ, ЯКІЯ АДЫШЛІ

Яны пайшлі ад нас, яны ў прадонні
За небакраем, што душу акрыў,
Іх адчуваем, як адбітак поўні,
Як золь імжы на ранішняй зары,

Як плуг, калі натомлены далоні,
Як хлеб і соль — руплівасці дары,
Як гліну ці крыніц халодных тоні,
Як хмелеў сум па Янавай пары.

Жар-кветкі цвет, галінкі цёрну цень,
Прамень святла і чарнаты прамень
Нам кінулі, прайшоўшы праз цясніны,

І хоць бушуюць спрэчкамі глыбіні,
Хоць водгалас пяску гудзе над імі,—
Красае іскры рытмаў іх крамень.

# Марыс Чаклайс



## СКАЗ
## ПРА МАРГАРЫТУ ДУМПІКЕ

Той часінай, калі маргарыткі
сонцу свае давяраюць тварыкі,
а святло ўсё марудзіць, марудзіць,
мора на бераг выкінула бурштыну акрайчык,
у чаратах азяровых бугай прамычаў,
у прыморскім пасёлку нарадзілася Маргарыта
Думпіке.

І расла яна з маргарыткамі разам,
з гэтымі кветкамі боскімі, што сонца цвеляць,
і замест соскі зубамі ўпілася ў бурштыновы
акрайчык
і пражыла свае семдзесят сонцазваротаў.

І падабалася жыць Маргарытцы:
у раніцы восеньскія і вясною
мора выкідвала па вясёлым кавалку радасці,
і яна радасць гэтую ачышчала.

О, гэтая калупплівая праца — ачысціць радасць
ад ціны сукрыстай, ад назолы-смалы,
і — шліфаваць, і — паліраваць,
і — шараваць наждаком.

А калі лаўцы салакі нацягвалі
апратку святковую, яны ў раты маўклівыя зацiскалі
бурштыновыя піпкі, а маладзіцы
пузатыя, як селядоўкі, пазырквалі
пярсцёнкамі, каралямі, брошкамі.
Падабалася жыць Маргарытцы, Маргарыце, Грэце,
з песняй аддавала яна па пялёстку,
і калі хавалі яе, дык у дамоўцы
было толькі
маршчакаватае, кучомістае сонейка.

На тых кладах, дзе прымерваюць лісце кляны
ды бярозы,

я на яе магілу паклаў маргарытку,
за брамай сонца зіхцела ў рупарах аблавухіх,
а рупары, яны ж —
маргарыткі таксама.
Вялікія і рыклівыя маргарыткі.

Бліпчаць рупары,
даверыўшы твары сонцу,
прыйшло і святло таксама,
адпачылі ў музеі прылады працы яе,
бурштыновыя завушніцы ды драбяза такая-сякая,
а мора яшчэ ўсё выкідвае па акрайчыку бурштыну,
радзей, ды ўсё ж мычыць у чаратах бугай,
толькі болей у тым пасёлку няма Маргарыты Думпіке.

І па вясне я вітаю першую маргарытку:
— Дзень добры, цётка Маргарытка!

# ІМЁНЫ НАШЫХ МАТУЛЬ

А дзяўчатак імёнамі птушак
назвалі яны...

*П. Эйнхоры.*
*Хісторыя Летыка*

Голас падай мне, пліска.
Чуеш, жаўна, мяне?
Стынуць трамваі зблізку
ў ранішнім тумане.

Зноўку туды хачу я,
дзе — праз гады лацвей —
івалга дождж вяшчуе,
каня поіць дзяцей,

цішу пільнуе цяцерка,
ды там, дзе ранне ўстае,
зямля насыпана зверху,
пасаджана дрэва ў яе.

Абратаваны рукамі
чымі мой дзень малады?
Птушкі — таемная памяць,
птушкі яшчэ — клады.

Зямля, ад ведаў цяжкая,
вы, далакопы-вятры,
бярыце ўсё, што знікае,
ды верх не зламайце ўгары.
Павінна ўцалець верхавіна,
дзе селіцца род птушыны.

## ЗРАЗБЛЁНЫ ЛОЖАК

На старой палавіне хаты,
дзе клён пад вакном парыпвае,
на рудых і цяжкіх нагах,
з высокай гарой падушак
зразблёны ложак стаіць.

Знакі і пісьмёны агністыя,
усемагутныя пентаграмы
ахоўваць мусілі два жыцці,
жыцці, якія пераплялiся.

Чацвёра дачок і пяцёра
сыноў — ад грубых пешчаў.
Час выразаў свае пісьмёны
на тварах і на долях.

Вайна чатырох сыноў забрала,
пяты — за сямю морамі
ў сядле ўласнага аўтаканя
абдымае пажадна Джэні.

Яшчэ дзве дачкі — як былі,
так і жыць засталіся,
збіваючы масла і наледзь
з парога ў Сібіры.

Быццам дзікія яблыні,
час зморшчыў аблічча,
рукі на грудзях сашчапіў,
заледзянеўшы.

У ложак накідаюць кветак,
што ў галавах стаялі,
праветраюць, і застанецца
ложак з разьбою сам-насам.

Хоць горад быў бы бліжэй —
зноў жа ў моду ўвайшлі
сурдуты дзядулевы,
зразблёныя ложкі.

Аднак жа даўно не ў модзе
чацвёра дачок і пяцёра
сыноў і аблічча, на якіх лёс
свае пісьмёны жывучыя выразае.

Ідзі, сыне, ў кіно і глядзі,
як японцы пакутуюць і кахаюць.
Бо што табе можа сказаць
гэтакі ложак з разьбою.

## ХЛЕБ НАДЗЁННЫ

Табе без яго пражыць цяжка
дзень,
як жа продкі нашыя перабіваліся
без яго,
без надзённага?
Аднак перабіваліся.
У дні галодныя тым,
што знайсці шанцавала ў саломе стрэх.
І надзённым бобам.
Крапівой надзённай
перабіваліся.
Чалавецтва працягваецца,
сярод смелых і бездапаможных
нараджаецца і адзін-другі
той, што далей ідзе.
Гэта і ёсць адзіны сэнс,

што нараджаюцца тыя,
каму далей ісці,
што нараджаюцца тыя,
якія далей ідуць.
Дзеля іх
і ўсё чалавецтва харчуе
хлеб надзённы.

## ЧАЛАВЕК ЗА ЛЯСЫ ЗАКАЦІЎСЯ

Чалавек за лясы закаціўся,
за лясы зялёныя, сінія і чырвоныя,
за гаі лістападныя, дзе грыбы
праз цвіль прабіваліся, як спрадвеку,
каб сцвердзіць сваё *ўсё-такі*
за адну ноч,
перш чым трапіць на зубы прымаразку.
Чалавек за лясы закаціўся,
і ў жонкі ўчора сярод двара
вядро з рук вырвалася.

## РАЙНІСАЎСКІ МАТЫЎ

ТАК, НАШ НАРОД ПАМРЭ...

ды

памрэ і чалавецтва. І, значыць,
і ўсе народы вялікія і малыя. Зямля,
дарагая, стомленая зямля тады
спыніцца і страсе магілы і надпісы на
крыжах, што «скон — мой плён»,

і атамныя станцыі, і дзіцячыя сады,
і Піэбалгу, і Маскву, і Рым;
і легенды хлуслівыя і ісціны
з усімі пячаткамі развее па ўсіх вятрах
без усялякай надзеі ператварыцца
ў зоркі.
Ды чалавек плача
над замерзлым драздом. І плач продкаў далёкіх,
са сваім разам, у песнях выплаквае.
І не замярзае нават
у мерзлаце вечнай дзюба той птушкі,
якая кліча дамоў, дзе на кладах,
на магільных крыжах продкаў напісана, што
скон — твой плён.

## ЭЛЕГІЯ АБЛАЧЫН

Ля варот арсенала
салдат у зморы
сочыць, як небам
ідуць сабе аблачыны.

Яны ў звальненне,
трымаючы шапкі ў руках,
плывуць на свой
баль блакітны.

Перадайце вітанне
лясам і птушкам,
матацыклам,
што равуць па жарстве!

Чорны просіць
вымыць яго дабяла,

белы просіць
яго ўзяць з сабой.

Аблачыны, аблокі
ідуць, ідуць,
чалавецтва ў зморы
стаіць ля брамы.

Стаіць і сочыць:
ладдзя перапоўнена,
яшчэ адна просьба
не выплыве.

## ЭЛЕКСКІ ФЕНІКС

*спаленая дзяўчынка-нямтурка*
*распавядае з неба*

Было там заўжды, што бачыць.
Цяпер я вучуся наноў
чуць, як вятры і птушкі
вызвоньваюць сум званоў.

Перагукваюцца, гамоняць,
папярэджваюць, як і ў жыцці.
Свет белы з сваімі фарбамі,
не трымай мяне, адпусці!

Адпусці мяне лётаць з птушкамі,
сумны нябесны лёх!
Ды так ласкава гаворыць,
як дотык кужалю, мох.

Ды вадаспада спагада
джаліць, як непачуты крык,
аж здаецца, ў неба ўздымае
не вецер, а сакавік.

Каменны рот плача песню,
як меле аглухлы млын.
Не, гэта не аўтаматы,
дзяцел будзіць дрэва ўспамін.

Свет шчодра распырсквае гукі
ва ўсе бакі, што ў святле,
і вось, можна чуць у цішы,
як рэжуць хлеб на стале.

А ўсіх галасоў тых доле
так не стае ў гамане.
Што гэта за сіла, якая
гаварыць змушае мяне?

Няўжо толькі той, хто не можа
быць там, быць жывым, існаваць,
голасам вечна адроджаным
можа свет услаўляць?

У альбоме попелу ўклеена
цела вогненным клеем даўно.
Ды калі абламаным сонейкам
узыходзіць поўня, чутно —

маім голасам брэшуць сабакі,
птушкі плачуць, што ўпусцяць час.
І не з попелу — стужка жывая,
каб эпоха запісвала нас.

## ПАКУЛЬ НАВУЧЫШСЯ ГУБЛЯЦЬ

Пакуль навучышся губляць,
О, пакуль губляць навучышся...

Табе здавалася — гэты снег,
што ў паветры застыг,
ён будзе чакаць
цябе, пачакае,
пакуль ты навучышся.

І яблыні будуць цвісці,
пакуль ты розуму набірацца будзеш.

Але званок, званок празвінеў.

І дажджыны на шыбіне,
пясок праз пальцы,
і першыя адыходнікі з твайго пакалення
(нават не памахалі рукой) —
гэта ўсё яшчэ першыя літары
алфавіту.

Пасля ты будзеш вучыцца лічыць
раніцы прачынання без радасці,
мокрыя, як адзежа, восеньскія вечары,
і свой пульс
у пустых пакоях бяссонніцы.
Арыфметыка —
аснова матэматыкі.

Пакуль губляць вучышся,
навучышся маляваць белага слана надзеі,
і з мовай замежных чароўную самую вывучыш —
маўчаць.

Спевы не абавязкова.
Ды, пакуль губляць вучышся,
навучышся і спяваць.

Яшчэ навучышся снегам быць,
снегам і яблыняю адначасова.

Дзякуй школе ўлюбёнай нашай,
дзякуй добрым настаўнікам!

## МАНАЛОГ ХАРОНА

Зноўку восень і лістаход.
Гэта ж душы, а не лісты.
Запаўняе мне жылы лёд.
Не растаіць мне мерзлаты.

Дык вяртайцеся — балазе,
дзе зялёны ў нябёс пагляд.
Цераз Спінкс вас перавязе,
ды не верне Харон назад.

Чорным птахам я стаў даўно;
з душамі на чорным кані
я скачу, а сабе адно
не вярнуць мне пад сонцам дні.

Мне стае, мяркуюць багі,
і таго, што пасада, што
і два обалы — не благі
маю куш яшчэ як ніхто.

Бачце, гонар мне, а не здзек,
гэта ж «нехта-мусіць-рабіць» —

гэта кара мая павек,
і яе ні сарваць, ні збіць.

Дык вяртайцеся — балазе,
Дзе зялёны ў нябёс пагляд.
Цераз Сцінкс вас перавязе,
ды не верне Харон назад.

## ВЯЛІКІ, ВЯЛІКІ ПАЎМІСАК З ЯБЛЫКАМІ

Нібы каб замкнуць гэта кола хацця,
пастаўлены ў дзень пагодлівы зваблівa
вялікі, вялікі паўмісак з яблыкамі.

Усё знікае, цячэ перазяблае.
Чаго б ты хацеў, вернуты да жыцця?
— Вялікі, вялікі паўмісак з яблыкамі.

У радасны дзень ці ў міг знебыцця
з загоеным болем ці з ранай аслаблаю —
вялікі, вялікі паўмісак з яблыкамі.

А як разаб'е яго зайздрасць д'яблава?
Даўно ўжо не неба ў начы забыцця —
вялікі, вялікі паўмісак з яблыкамі.

# Яніс Пэтэрс



## Я НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ...

Я на сваёй зямлі хачу быць звонам,
з якога вечна льецца новы спеў —
бы капяжу вясновага трымценне,
бы стогн савы між заінелых дрэў.
Я на сваёй зямлі хачу быць звонам,
што адліваецца вы дзень пры дні
з дакладных рытмаў музыкі народнай
і залатой птушынай шчабятні.
Звон выкуйце яшчэ і з маёй песні,
раней чым адпалаюць дні мае.
Я на сваёй зямлі хачу быць звонам,
што і пасля аб вернасці пяе.

* * *

У нас адбіралі лугі, нас нашых багоў пазбаўлялі.
Салёнымі розгамі жорстка на цвінтарах нас лупілі.
Мы горкі глыталі камяк, як нашых нявест
зняслаўлялі —
Па праву першае ночы з нашай роспачы хціўцы
кпілі.

Зубы ўгрызаліся ў камень, ад нянавісці кроў стыла
ў жылах.
Стагналі мы, лежачы ў прыску свяшчэннага гаю.
Гайзіня хвоі і дубы Эмбатэ на сваіх вяршалінах
Узносілі веру ў нянавісць і стогн,
і сонца, што хмара хавае.

І верыла Латвія ўся — ад зоркі да лазні,
да студні,
Ад паліцы земгала ў Саўле да строю Стралкоў
чырвоных.
Я ўдзячны вам, стогн і нянавісць,
і Ошкална мужныя будні,—
Выходзіць Латвія ў свет,
і шлях яе ў промнях чароўных!

## ПРА ТЫХ, ХТО СПАЧЫВАЕ, РАСКАЖЫЦЕ!

О, могільнікі нашы! Ляжаць яны пад клёнамі,
пад бэзам і дубамі, крыжамі, абеліскамі,
і той, хто кажа: нечага хадзіць сюды з паклонамі,
той на шматкі рве памяць сваіх бацькоў і блізкіх.

Чым свет бліжэй да сонца,
тым больш магіл прыкмечваем,
і толькі душы дробныя не бачаць даль глыбінную.
Магільны камень сведчыць: планета наша вечная
на вось сваю накручвае ўсё ніць жыцця няспынную.

І калі можаш верыць, што жыць і жыць прызначана,
то дзякуючы голасу: «Знясільваюцца рукі,
ды вышай дзівасіл расце, ліецца песня матчына,
і ў спадчыну даюцца нам не толькі боль і мукі...»

Глыбей глянь у магілу — любоў там не зпікае:
як свечкі, ззяюць жонкі, мужы цяжэй глядзяцца,
а ў песні-жальбе воля да жыцця такая,
што скокаў такт выстуквае магільнікавы дзяцел.

Спадніцы развяваюцца, узносяцца арэлі...
Грукочуць цягнікі. Бліщчыць раса жывая.
А Яніцісу, што майструе вунь прапелер,
вы раскажыце ўсё ж пра тых, хто спачывае.

## АГОНЬ

Жыву я агнём — вось цэлыя ўжо стагоддзі.
Першую іскру высек — успыхнулі мох і галіны;
Полымя ў полі злавіў і прынёс у пячору —
Іншымі сталі тады каменне, смолы і гліны.

З медна-чырвоным ілбом, потны, я цэлымі днямі
Абпальваў гаршкі і ва́зы, каваў аздобу і меч я;
Хапала агню на лямеш, хапала на нож і сякеру,
Думаў, што хопіць яго і на гонар яшчэ чалавечы.

Агонь для мяне быў богам, быў мне домам і хлебам,
Маім адкрыццём галоўным у імя ўсіх вякоў і эраў;
Толькі не змог як след сваё Адкрыццё захаваць я,—
Мяне ашукалі людзі, браты, якім я верыў.

Яны укралі агонь, апаганілі бессаромна.
Маім Адкрыццём нелюдзі мільёны людзей спапялілі,
Выпальвалі вочы людзям, спальвалі целы і душы,
Маім Адкрыццём другія адкрыцці яны спалілі.

Жыву я агнём —вось цэлыя ўжо стагоддзі.
Я ў полі яго лавіў, зараз чэрпаю з рэк правадамі.

Цяпер я пры агні вучу сына азбуцы света
І ўзіраюся ў зоркі, і ў небе шляхі пракладаю.

Іскру першую высек я калісь траскучым крэмнем,
І зараз мая душа пяе ў небе і плача ў пекле;
Ад зары да зары з агнём помсты ў руках я
блукаю —
Каб таго адшукаць, хто маё Адкрыццё прадаў
некалі.

## СУНІЧНАЯ ПАЛЯНА

Паляна тая, дзе гарыць суніца,
нібы маё жыццё — зім не баіцца.

А на жыцці, што зносіць зімы мужна,
сабе ламаюць зубы смерць і сцюжа.

Засохне дзераза, старое лісце звяне,
каб адысці ў нябыт на той паляне.

Ды мудры корань робіць справу ў гліне —
ураз выкідвае расткі другія,
і лётаюць зноў пчолы на паляне,
адна на крылах прынясе каханне.

Яно таксама будзе зімаўстойлівым —
абхопіць дол сунічніку кустоўем.

Зязюля, што прарочыш мне на ўзлессі?
Мне чуецца адна кахання песня.

Пчалой каханне будзе вечна віцца,
і будзе вечна чырванець суніца.
Не пагражае мне час хуткацечны:
сунічная паляна — я, я —вечны.

## ГАЛАСЫ Ў ПОМНІКАХ

галасы ў помніках гэтак жа сурдзініраваны
як добра забытая маладосць у тваім страшэнна
раз'едзеным твары мілая мама
усё менш робіцца тых хто чуе помнікі
але —
канарэек у Лоспальмасе таксама не так і многа
як можна было падумаць па назве
бо —
Канарскія астравы ў перакладзе значаць
Сабачыя
але —
што значаць помнікі
ў перакладзе?
Што значыць сахор мадэлі 1812 года ў руках рускай
сялянкі.
Як помсціць сённяшняму дню селянін споены ў
карчме відземскага барона?
Я гляджу на мужчыну без ног што едзе на сваіх
чатырох колцах
Як жа нам яго назваць
інвалідам
індывідам
помнікам
Я схіляюся нізка да яго медалёў бліскучых
і гэта аказалася прыкладна на ўзроўні акна
падвальнага паверха
тады той мужчына мне сказаў хрыплым голасам
бо ў яго было штучнае горла называйце ваяўніком
за такогасьці
і ўсё тут і ён паехаў працуючы локцямі
быццам у другі раз беручы Берлін
сваёю страшэнна
скрыпучай каляскаю ствараючы ілюзію што недзе
на млыне мелюць косці

і хаця многія ўжо слухаць не ў стане
я паспешліва шукаў перакладчыкаў
для галасоў помнікаў
на праспектах вуліцах бульварах
на дварах гісторыі у дзяржавах у аддзелах
сацыяльнага забеспячэння
на тваім страшэнна раз'едзеным твары
мілая мама

* * *

Ні ў скрынях, ні ў гумнах
і ні ў тасёмках гэтых
Сэнс заключаецца, б'ецца сутнасць быцця.
Тут гучыць «цё», там робіцца націск на «ця»,
Ды справа не ў вонкавых тленных прыкметах.

Не трэба ў народніцкай пачуццёвасці
Імкнуцца вярнуць
час сахі і лапцей!
Асадкам змагло ў душу
ўсё жыццё ўвайсці,—
і радасць народа, і слёзы людзей.

Карэнні дубоў звяжыце з калыскамі
І ў светлых геройскіх алтарах
Знайдзіце вы кроў,
сэрцу вашаму блізкую —
Яе не дадуць вам ні пыл і ні прах!

Уласную годнасць шукайце ў вечным усходзе,
Глядзіце:
ў азёрах агонь гарадзішчаў не згас,

Вучыце дзяцей не тасёмкам старым, а свабодзе,—
Была ў дзядоў ступа, электрамолат — у вас.

Круціцца свет наш, час крышыць бетон і камень,
На змену прыходзіць новае, як тут валасы ні рві.
Дзядуля, не плач, не плач, жыла радзіма вякамі
І жыць будзе вечна ў нашай любові й крыві.

## СУЦЯШЭННЕ

Ніхто не будзе ў жалобе
плакаць гэтай зімою.
Як хор мужчынскі «Тэўземе» *,
будзе вецер гудзець за сцяною.

Нікога гэтай зімою
не праводзім на вечны спачын мы:
блізкія не паміраюць,
а робяцца айчынай.

І хор вятроў узнясецца,
і загудуць мадрыгалы
над агнём спрадвечным,
над вадою расталай,

над тым, хто даўно пахаваны
пад голас званіц і без звону,
над катаржанінам скутым,
над ахвярай прыгону,

над ведзьмаю і шаптухай,
над тым, хто быў зламаны,

---

* «Тэўземе» — «Айчына».

над тым, хто верыў наіўна,
хто быў свабодзе адданы.

Як хор мужчынскі «Тэўземе»,
прыходзяць вятры ў фраках чорных,
і песня гудзіць у завеях,
у студнях і ў высях зорных.

Пакрытае снегам каменне
у смерць урасце, як жывое;
ды будзе Стралец у сузор'і
стаяць з залатой стралою.
Снег будзе падаць на памяць.
Ніхто не памрэ гаротна:
захутаецца ў замець
і стане айчынай роднай.

## МАТЫЎ ЛІГА

Ці гэта Зямлі завесы
пры Сонцавароце скрыпяць? —
Зямля ж, яна, бачыце, круціцца,
коціцца, нібы кадзь.
А гэта не кроў ячменю,
што п'ём мы, не знаючы сну? —
Расце ж ячмень буяна,
як кінеш яго ў баразну.
А гэта не з нашай гліны
зроблена горла збана? —
Раз круціцца круг ганчарны —
быць посуду для віна.
А гэта не наш поплаў —
у выглядзе жоўтых сыроў? —

Сыр па стале не пакоціш,
калі не падоіш кароў.
А гэта не нашы душы
песню ўсю ноч пяюць?
Як круцяцца нашы галовы!
Як кубкі па кругу ідуць!
... Ноч год напалам рассекла
агнём, і ўбачылі мы:
па той бок застанецца ліга,
па гэты — шлях да зімы.
Дык будзем кружыцца да сонца
з няўтольнаю смагай сваёй,
хай толькі не ўтопіцца ўночы
наш Яніс у бочцы піўной...
...хай толькі не ўтопіцца ўночы...
...хай толькі не ўтопіцца ўночы...
...хай толькі не ўтопіцца ўночы...
Павек.

## МАЦІ-СОНЦА

Раніца ходзіць, як цеста ў дзяжы.
Адгукаюцца крокі маці.
І каравай з кляновым лістом
уязджае ў печ на лапаце.
Яшчэ спяць ягняты з зарой у вачах,
яшчэ сняць сыны плугі ды барозны.
А Маці-Сонца масла сваё,
як вечнасць, збівае на парозе.
... Час ішоў па халоднай расе
тры гадзіны ці тры стагоддзі.
Мы толькі прачнёмся, а маці ўжо
па светлай алеі ў неба ўзыходзіць.

# Айварс Нэйбартс



* * *

Будзь ласкавы, мой настаўнік Чалавек,
не вучы чыстапісанню так старанна,
бо, схіліўшыся гадамі над сталом
і выводзячы рупліва «а» за «а»,
я і сам, нарэшце, стаць магу падобны
да звычайнасці і шэрасці любой.
Лепш такім, як ёсць, я застануся,
чым жыццё стаўляць мне будзе «5»
за радкоў грувасткіх манатоннасць
і за почырк мой, хоць і не мой.
Будзь ласкавы, мой настаўнік Чалавек,
зразумей, што аніколькі не патрэбен
лішні перапісчык дум чужых.

## ДАРОГА

Бягу я:
Метр,
Кіламетр
Мільгаюць. Гэта — вечны рух мой!

Таму патрэбцы мне заўжды
у хмарах пылу
гул матораў
і тупат ног,

а то я
мярцвячкай лягу нерухомай,
і паабапал нада мной
слупы, як помнікі, пастануць.

І, толькі ў час, калі бягу
пад шынамі ці пад нагамі
між вуліц,
плошчаў,
між дамоў,
я адчуваю: для людзей
жыву і дыхаю не марна!

## ВОСЕНЬСКАЯ ФРЭСКА

А ветрык, нібыта той коцік гуллівы,
скідае да долу запознены жнівень,
як поўную вазу вяргіняў, што звонка
ушчэнт разбіваецца на чарапкі.
У верасень
яблыні жвава кідаюць гнілушкі,
нібыта у тэнара,
голас што страціў даўно,
а сцэну пакінуць не хоча.
Вунь шэры павук дажджавы
выпаўзае з зацішку
і нецярпліва пытаецца:
«Хто тут апошні, мо вы?»

У вогнішчах дрэў пагасае змярцвелае лісце,
і журыцца сад у самоце,
нібыта пакінуты дом:
шпакі
паўцякалі даўно ўжо адгэтуль;
і толькі ляныя каровы ў хлявах
пераажоўваюць млява
мінулае лета.
Я восеньскі холад зганяю з вачэй
і позіркам цёплым сваім заўважаю,
як зноў у пупышкавых жыватах
хаваюцца будучых яблыкаў дзеткі.

* * *

Хвошча град...

...лямант неба,
грымотны уздрыг
заганяюць мяне
пад дзірван...

Я скажу табе, братка,
мне гэта жытло
не здаецца утульным
ніяк.

Але ж бачу затое,
як лезе ўгару
да святла і да сонца
раслінка...

* * *

Гуляючы неяк вясною
па сцежках пявучых птушыных,
знайшоў на зямлі я акрайчык
такога блакітнага неба,
як звышгукавы самалёт.

Цяпер я заўсёды з сабою
нашу той кавалачак неба
і з кожнай хвілінай раблюся
бліжэй і бліжэй да Ікара.

* * *

Усмешка —
маленькая, жоўтая, дбайная пчолка.

Што пырхае
ад чалавека да чалавека.

Што часта садзіцца знянацку на вусны,
збіраючы нібы нектар дабрыню цёплых сэрцаў.

Што крылцам сваім апыляе
квяцістае дрэва сяброўства,
каб шмат нарасло ў ім пладоў сакавітых.

Што радасцю чыстай,
як мёдам духмяным,
штодня напаўняе ўсе клетачкі цела.

Што джаліць,
калі яе хтосьці параніць балюча
(хоць смерць сваю тут жа сама напаткае).

Бы ў сонечным вуллі
гудуць і ўва мне тыя ўсмешкі,
з якіх разлятаюцца пчолы па кветках вясновых.

## МАЛІТВА МАЦІ ДАРОГ

Матуля дарог,
ёсць дарожная думка ў кайстры дарожнай маёй;
Матуля дарог,
не бяры ты мяне за руку,
не вадзі;
дай толькі рукам маім
жменьку насення для кветак,
для памяці дай мне
пылінку,
з якой распачаў я дарогу.
Хай розум мяне не пакіне.
Матуля дарог...

## Петэрыс Юрцыньш



### КРАПІЎНАЯ РАСА

Моўчкі ходзіш засмучоны —
З крапівою заручоны.
Ліст яе — ў расе бліскучай,
Ліст жыгучы, ліст пякучы.

Толькі, толькі развіднее —
Ад пякучкі рука млее.
«Ты чаму,— пытаюць людзі,—
Па расе крапіўнай блудзіш?»

Чырвань крыўдай твар фарбуе —
Крапіва не пашкадуе.
Не прылашчыць, не прытуліць,
Дасць крапіўную кашулю.

Смыляць вусны, твар палае.
На фіялках месяц ззяе:
Ах, пякучка — зелле злое,
Развітацца як з табою?

## МОЙ СПАКОЙ

Не вінаваты я,
                    што свет недасканалы,
Хаця па сэрцы б'е
                        сумленне — кат.
Але ж арган спакою
                          я стварыў памалу,
Чаму і сам
              бясконца рад.
Вунь ён стаіць
                    у засені, ў зацішку,
Дзе дзьмухаўцы
                      жаўцеюць у траве,
Дзе з лісцем крон
                        цалуецца вятрыска,
Дзе гоніць змору
                        шэпт яго з павек.
Тут мой спакой.
                          Ён — як цяпло надзеі,
Як голадам знясіленаму —
                                       хлеб.
Хай будзе ў год
                     хаця б адна нядзеля,
Калі спакой
                ён мне ў душу
                                   пральe.

## КРЫЎДНЫ ВЕЧАР

Складваў я ў дрывотні
Цэлы дзень паленне.
Забурыўся раптам
Мой касцёр. І цені

Змроку языкамі
Дражняць мяне, бачу,
З-за зубцоў паркану,
Нібы чэрці, скачуць.

Дровы, панадворак
Маладзік сярэбрыць...
Так: жыцця касцёрык
Добра складваць трэба!

## ТАК АДЫХОДЗЯЦЬ

Ад дружбы тае,
што твой дух абядняе,
або ад кахання,
што сэрца ўніжае,
ідуць без аглядкі назад,
як той вязень,
што йдзе ад жалезнае брамы турмы.

Ад скончанай працы,
хвіліны здзяйснення
шчасліва ідуць,
як мастак адыходзіць
ад помніка —
сведкі натхнення й пакут.

Ад часу юнацтва,
жыцця, што пражыта,
ідуць так, як вечар
ідзе за вяршыні лясоў.

## ПАДАЮЦЬ ЗОРКІ

Ужо мой сад стаіць амаль што голы.
З нябёс надзей злятаюць зоркі долу,
як гронкі ягад мёрзлых. Час журботны.
Хапаюць зоркі птушкі пералётныя
і не з зямлі дзяўбуць іх — з дрэў рукастых.
Хачу гукнуць: пакіньце зоркі красці!
Але маўчу.
Гуляе ветрык звонкі,
і зоркі падаюць,
як мёрзлых ягад гронкі.

## ЗГАРАННЕ

Той сонечны пыл,
Што мільёны гадоў памнажаўся
У цвёрдых пластах
Абалонкі жывое зямлі,
Кахання паветраны шлях,
Дзе канец і мяжа непазнаны,
І белыя крылы
Спалучаных блізкасцю душ,
Варожасці чорнай
Падземныя лабірынты,
Жалезам скаваныя наглуха і на вякі,
І жыцці людскія,
Што, нібы бенгальскія свечкі, згарэлі —
Сапраўдныя вы ці, быць можа, святыя —
Мае двайнікі,
мае людзі,
нябачаныя і не сустраканыя —
Усё напаўняе мяне нейкім дзіўным нязнаным
святлом.

Вось тут — і пачатак раптоўны згарання майго:
Лячу, як пылінка са звону бясконцае вечнасці,
І чую ў падзенні, як голас мой глуха гучыць.

## БЕЛЫ СВЕТ

Зямля,
ад твайго хараства я часамі
п'янею ўшчэнт, нібы памяць губляю.
Пад сонцам квітнеюць рамонкі,
як лета сястрыцы белыя.
У небе пасуцца баранчыкі белыя хмарак,
і пух дзьмухаўцоў
мне на рукі садзіцца бялюткі.
На белабародых успененых хвалях
гайдаюцца ветразяў белыя матылі,
пакуль не схаваюцца за даляглядам,
пакуль не знікаюць сцямнелыя
свету майго берагі.
Блакіт небасхілу кранае крылом белы бусел,
і хвосцік свой белы,
гуляючы, ловіць каток.
А ў лузе рамонкі, рамонкі,
рамонкі —
як белыя сёстры чароўнае летняй пары.
У ціхіх затоках гарлачыкі белыя, нібы
аблітыя толькі што цёплым яшчэ сырадоем.
Зямля,
у табе яшчэ шмат
нестаптанага белага цвету,
і хочацца мне зноў і зноў увайсці
ў цудоўны свет белы — ў твой сад!

## ТАКАЯ ЯСНЮТКАЯ НОЧ

З дрэў сыплецца лісце,
зямля ж сонцам шчодра нагрэта.
На горным трыножку
пяе чыгунок-азярко.
Як шоўк, павуцінне
садзіцца на збляклы палетак,
і вогнішча прысак
нясе свет чаканы спакой.
Спіць кветка лясная,
глынуўшы халоднай расінкі,
а лёгкі марозік
пакусвае ўжо за шчаку,
і ў сокала пёркі дрыжаць
на крыле, як націнкі,
і месяцу бляск растае
у расістым садку.
Якая празрыстая ноч! —
Быць уранку лядку!

# Нора Кална



## АКВАРЭЛЬ БАБІНАГА ЛЕТА

Поле — верасня колер.
Вечар, як заяц — шэры,
Зорцы, што ўпала ў поле,
Болей не будзе веры.

Толькі яе трэба
Памятаць нам заўсёды,
Ноч заплікнула неба
З гэтакае нагоды.

Зорка на поле ўпала,
Ясная ўпала зорка.
Сумна, журботна стала
Верасу на пагорку.

Поля асенні колер
З памяці не сатрэцца:
Жухнуць сцяблінкі,
Голле,
Далі, што любіць сэрца.

* * *

Не буду мізэрнай, не ўмею спагады прасіць,
Мне лепш крапіву
дзень цалюткі ў спякоту касіць,
Лепш праставалосай пайсці на калючы мароз,
Ды толькі маіх нізашто не заўважаце слёз.
Мізэрнасць, слязлівасць я сэрцам сваім не
цярплю,
Мне лепей упасці, але галаву не схілю.
Да д'яблаў мне горка, як сэрца параніш сабе,
Ды можа быць здарыцца так, што ў глыбокай журбе
згіне маё маладушша.

* * *

Па жыцці мы іншы раз,
як турысты, ходзім:
цераз,
міма,
наўкол.
Нам быццам бы і клопату мала,
што гніе сена ў копах,
што асыпаецца зерне,
што людзі працуюць ад самага рання
да позняга вечара.
(Мы толькі плячыма паціскаем:
«Калі адпачываюць яны?»)
У нас жа саміх свой маршрут,
мэта свая
і свае памкненні.
Топчам спелае жыта,
ходзім
лугам, дзе людзі косяць,

міма катлоў асфальту,
хоць бы спыніліся дзе.
Можа, таму і не ведаем
сёння,
дзе Моцарта прах.

## ПАСЛЯВАЕННЫЯ ПЕРШАКЛАСНІКІ

Стрэлаў ужо не было.
Сшыткаў — таксама.
Каракулькі першыя
мы пісалі на шэрай паперы.
Стрэлаў ужо не чулі,
але былі сляды ад куль
на класнай дошцы,
пашарпаных партах,
тынкоўцы,
бацькоўскай куртцы.
Хлапчук у ёй быў,
як птушанятка,
што хоча лётаць.
Буквар у нас быў... Папера пажоўкла.
Буквар я помню... На трох адзін...
Цяпер жа тыя першакласнікі
малым сваім купляюць іншыя,
з багатымі малюнкамі кніжкі,
а той буквар,
дзе — ні малюначка,
нібыта сваё маленства,
кожны ў сэрцы ашчадна носіць,
нібыта буквар — святыня якая.

## ІЛЮЗІЯ

Дзіця прыроды
і падчарка свету,
ластаўка аднаго лета —
такая ўрываюся ў твой пакой —
журботная,
бясклапотная.

Мне яшчэ высока,
мне яшчэ далёка
да тваёй столі.
Не, ты не злуй
за каменне, якое
ў вокны твае ўляцела.

На тваёй роўнай далоні
лёс мой — агнём
палымнее:
не затрымаць —
апячэшся,
выкінуць —
каяцца век.

# Вэлга Крылэ



* * *

Калі не знае сонца, навошта ноч зманіла,
Адкуль жа ведаць мне? І што — любоў людская?
Ці вечнасць там, ці толькі дакрананне?
І як можна ўтрымаць, калі яна — імгненне?
Чаму тады душа кахання прагне?
Або яна й сабе не мае сіл прызнацца,
Што вечнасць толькі — прага
Дакранання?..

* * *

Маланцы ў вочы пазірала
Я ноч усю да раніцы.
Ад гэтага ўсівеў мой ясень,
Якому падабалася.
На раніцу я суцяшала:
«Ці не ўсё роўна, восень жа».
Не слухаў ён, а ўсё пытаўся:
«І ты таксама з выраю?»

* * *

Хацела падарыць табе змярканне,
Пунсовае святло над сінім лесам,
Цёмна-зялёную яліну зблізку...
А ты гаворыш: «Дай сваю душу».
Дык я не знаю, дзе яе шукаць мне
Без адчування, бачання і слыху.
Мажліва, ў гэтым бляску белай ночы?
Але і там яна не адзінокая...
Калі б усмешку аддала табе я,
Вярнула б я тваю усмешку толькі.
Душа мая жыве з усім астатнім,
І клікаць бойся ты яе адну...

* * *

І мне суцешна тою ноччу,
Як пройдзе лёскат грамавы
І зораў залатыя вочы —
У ясеня ля галавы.

І вершаліну, спяць вятры дзе,
Міне пярун. Аднак жа мне
Вядома, толькі восень прыйдзе,
Яе пад раніцу прыгне.

Чаму ж тады баюся страціць
Цень восені сярод галін?
Хіба любоў — імгненні страсці,
Кароткі міг яе адзін?

* * *

Твой ясеневы спакой, вясновая цеплыня
Гэта боль найглыбокі, што трэба стрываць.
А ў душы ў мяне зло клекатала, кіпела мана
І жаданне пайсці, не сказаўшы табе.
Цемру маю засыпле пяском,
Ды святло застанецца яшчэ раз вярнуцца:
Твой ясеневы спакой, вясновая цеплыня —
Гэта боль найглыбокі, што трэба стрываць.

* * *

У зямлі — зямлі пачатак,
Першавобраз нас саміх.
Маці ветру, маці буры,
Дзе мой дом,— скажы ты мне...
Сэрца хто маё ў прытоме
Ласкай будзе бараніць?..
Вочы нетраў поўны цішы —
Міласэрны плешча гнеў.
І жыцця карона блішча
З галавы праменнем фарбаў —
Неадольнай сілы ветрам
Круціць цішу вечароў.
Скроні беллю зацвітаюць,
Гул крыві ты слыхам ловіш —
У спляценні жыл ля лоба
Чуеш гул далёкіх светаў...

* * *

Ідучы ў глыб жыцця, дзень памалу знікае.
Рада б я паўтарыцца, хоць так не бывае.
Рада б я ўсё пачаць ад пачатку, асновы —
Прастаты б стала больш, заіскрыліся б словы.

Ідучы ў глыб жыцця, мара птушкай знікае.
Рада б я паўтарыцца ў любові, якая
Усё чыста аддасць і душы не адмовіць,
Бо ці трэба душа без сапраўднай любові?!

Ідучы ў край сцяжыны, каханне знікае.
Што ўсяго не паспець, страх часцей засцігае.
Палыхае папера — руку прыпякло,
Свечка хутка гарыць, патыхае святло.

* * *

Месяца вочы сочаць за мной з круцізны.
Белыя пальцы ўціскаюць павекі сузорна.
Чую, далёка нібыта загаласілі званы,
Можа, на месяцы дзева круціць цяжкія жорны?

Светла наўкол. Як паднебнага пытлю туман.
Ах, гэта ява, што ўпэўнена: ёй не здаецца,
Быццам яна разгадала зababлівы зман,
Ілюзію белую, дзе ціпыня раздаецца...

Месяц схаваўся ў чорнай сваёй круцізне.
Бляклае неба навісла адкрыта і прама.
Пільныя вочы ўзіраюцца прагна ў мяне,
У сон мой увесь, да світання, да раніцы самай.

## Я ХАЦЕЛА Б ПАМЕРЦІ ТАК

Старыя сябры, прысядзем на траўку,
Прыслонімся спінамі ўсе да юнацтва
І ўбачым, як птушкі разносяць жыццё.

Болей ужо не адбыцца нічому,
Мілыя, добрыя людзі старыя.

Калі сонейка зойдзе за той вунь пагорак,
Там і будзе канец.

Смерць — гэта цёмны пакой,
Дзе ніхто не жыве.

Яшчэ мы ў заходзе сонца згараем,
Яшчэ мы ў заходзе сонца згараем.

Хутка так пра жыццё
Будуць іншыя думаць.

. . . . . . . . . . .

Свішчуць крылы птушыныя.

# Лайма Лівэна



* * *

Ты мне даў патрымаць верабейку —
як пульсуе, як б'ецца малы!
То ў далоні трапеча сэрца,
той давер, што не знае маны.

Ліст пачынаўся словамі: ...Ты сабе нават
уявіць не можаш, як я рады тваім радкам...

То сэрца трапеча ў далоні... а ў садзе,
як жанчыны,— тоўпішча дрэў,
голля счарнелага валасы,
хаваюць ветра павеў.

Ліст заканчваўся словамі: ...Пішы мне часцей,
хаця б пра апошнія дробязі. Дужа буду чакаць.
Заўсягды.

Голля і каранёў пісьмёны чытаць
будуць іншыя, што ні рабі,
а ў маіх далонях павекі трымцяць,
як азяблыя вераб'і.

* * *

Нібы апалены,
пырхнуў снягір у цемру,
у цемру пад вольхамі,
сумнымі і гаротнымі,
у цемру пад снегам,
быццам у возера кануў
і патануў, схаваўся
ў сумёце, у выгіне...
Не стагні і не плач,
не кусай сабе пальцы,
знікла барвовая
паўночная іскра.
Птушкай апаленай
падае раптам каханне.
...У горле засеў камяк —
не пракаўтнуць ніяк...

## ЛЮТАЎСКІ ЭЦЮД

Кроплям дожджыка зіхотна
па ўсім свеце,
бомы крокусаў гайдае
ціхі вецер.
Шчабятанне, вуркатанне,
пахкі водар —
то з-пад снегу
гліназёму цяжкі подых.
Праз пагорак, што застаўся
без апраткі,
прыскакалі жоўтых кветак
жарабяткі.

Зімні дождж<br>ык серабрысты,
чысты надта,
абуджае дуб вячысты,
дупляняты,
заклікае куст чаромхі
ў неба глянуць.
Што ж рабіць вятрам паўночным
несціханым?
Хіба голлейка,
паўнюткае пупышак,
зноў халоднымі рукамі
зломяць, скрышаць?
Пакланюся богу, д'яблу,
людцы, нізка,
каб зайздросны, злосны сівер
ані блізка.
Хай зямлю цалуе голле
проста ў грудзі.
Расцалуемся з вясною
і мы, людзі.

## У САКАВІКУ

Снег у завею робіцца валкі, і на рацэ ўжо чарнее расколіна, што нагадвае апёк пацалунка на шчоках.

Не саромейся. Маладыя павінны ўмець цалавацца, кахаць і дзяцей нараджаць, павінны цягнуць санкі з малым крыкуном на горку, паказваць яму прастору над рэчкай, над лесам, над морам і над жыццём чалавечым.

Так ясна відаць з вышыні і санны наезджаны шлях, і пратаптаная сцежка, што па лёдзе выслізгваецца і знікае недзе за даляглядам, і след дзівака-пешахода, звілісты і няпэўны, які схаваўся раптоўна ў сцяне залацістай чароту.

Так ясна відаць з вышыні нават расколіну ў лёдзе, і вабную цемру палонкі, і немату рыбы, і цішу — белую музыку высяў.

Хоць раз у жыцці неабходна адкрыць немаўлятку прастору, шырокую, як жыццё.

Унізе блытацца будуць будняў сляды, якія то ўправа вядуць, то ўлева. Нагам слізка, ды толькі не будзе раптоўнай апоры санак, не будзе болей наперадзе там дарогі.

Ды завея ўзмакрэлая будзе віхурыць над рэчкай з чорнай расколінай, што нагадвае апёк пацалунка на шчоках.

## СВАЙМУ БАЦЬКУ
## І БАЦЬКАМ УСЯГО СВЕТУ

Прымі
свайго бадзягу-сына, бацька,
з далонямі скрываўленымі, ў пыле
укленчыў я перад табою. Бацька,
я не прыйсці не мог. Мізэрнасць дзён
спакутвала, скамечыла і страху
нагнала на мяне, як воўк у лютым. Бацька,
прашу ў цябе не даравання. Людзі
(не чалавекі) просяць дараваць ім
за тое, што кахаюць, што хварэюць,

што марацъ, паміраюць. Немагчыма
і нельга для таварышаў, чый лёс падобны,
(не чалавекаў) літасці выпрошваць.
Нічога не прашу. Прымі — і толькі.
Ля ног тваіх укленчваю. Павінен
ты гэты гуд пачуць. Так ападае яблык...
САМОТНЫ БАЦЬКА... НЕСПАЗНАНЫ
БАЦЬКА...

Ты гэты гуд зямлі
пачуць павінен, БАЦЬКА.

* * *

Так ціха, ціха
вярбой пахілай
расце маўчанне
па-над магілай.

Не прытуліцца мне
да адзінай —
ручнік суворы,
пячэ тканіна.

Засмяглі вусны,
ў вачах салона,
віруе гора
ў грудзях шалёна.

Чарнее лісце
бязгучным вірам,
магілу маці
ўсцілае жвірам.

## ФІЛАСОФІЯ НІ ПРА ШТО

Селянін паглядае на багавінне і думае: трэба вычысціць возера, магчыма, у нядзелю выпадзе дождджык і з вудаю можна будзе сядзець і глядзець бестурботна, як паплавок чырвоны пагойдваецца паціху над багавіннем зялёным.

Падлеткі бяруць багавінне, як валасы русалкі, і абвіваюць ім вузкія сцёгны і шыю, ныраюць у яго нібыта ў чароўны падводны замак, прагнучы знішчыць дракона і вырваць з палону прынцэсу — русалку з касой зялёнай, як багавінне.

Самазабойца шукае гусцейшае багавінне, каб кінуцца, нібы ў абдымкі жанчыны (або мужчыны), і ціха заснуць у салодкіх абдымках, зусім як у ложку апоўначы, калі золак працісквaецца праз шыбы, быццам вада ў багавінні.

... і пытаюся я, якое значэнне ў жыцці чалавека мае яно — багавінне...

# Улдзіс Берзіньш



## ПЯТРОЎ ДЗЕНЬ

Знемагаюць вялікія залевы, ссыхаюцца
і трэскаюцца бочкі, гліна, як цеста,
назад у зямлю ападае, гарлаюць пеўні чужымі
галасамі, ціха ўецца рака, выторквае чорт галаву
з віру, дзе глыбіня мяшаецца з прорваю,
роў бялява курыцца кменам (гарлаюць пеў-
ні чужымі галасамі), нехта павінен яшчэ прый-
сці, тады будзе лета поўнае; уцякае ў зямлю
чарвяк, уздоўж лесавое сцяжыны птушкі, нібы
вытрыбушаныя, маўчаць, ведае рапуха стара-
даўняе слова, цераз гару, цераз верхавіны
бяроз ідзе вялікі муж, гарлаюць пеўні чу-
жымі галасамі, драўляная лыжка ў ягонай
руцэ, стог сена на галаве, рот жарэ і жлук-
ціць, пустазеллем параслі ягоныя пахвіны, птуш-
кі ўцякаюць, ідзе вялікі муж, паперадзе пшані-
ца трусіць і дарогу паказвае, пеўні гарлаюць
і гарлаюць, час полудня, спіць Іван * сном вола-
таўскім.

---

* Іванаў дзень.

## УЛДЫС

Едуць хлопцы на вайну улдыс цераз плячо
мужык едзе яліну секчы улдыс падпашкай язык
наўскач пусці праз гай гані дзе улдыс расце
птушка на макаўцы сядзіць.

Пляту далей вось жыта сініх улдысаў поў-
нае нехта едзе на драбінах лейцы нацягвае
ну ну улдыс ты гэткі.

Пляту далей панскі хлеў двое схапілі вос-
трых улдысаў кідаюць гной у кучу вось вяс-
ковыя могілкі што ні крыж то улдыс унізе.

Пляту далей вось трое дом вершаць адзін
на вільчаку другі на бэльцы трэці сядзіць
пасярод двара сякерай улдыса чэша.

Пляту далей балагол едзе насустрач
крычыць падшыванец купляй за улдыса штуку.

Па дарозе карчма ў карчме стаіць нейкі
ў канцы прылаўка кажа гэй гаспадар дай мне
пяць улдысаў піва.
Падыходжу пытаюся як цябе зваць хлопча
кажа Улдыс.

* * *

Вароты рыпяць сціхаюць ветру павевы язык
нямее ні слова не вымаўлю больш няхай
уваходзіць.

Не пазірай на дзверы (шмат зім
давялося чакаць!) і добрае думай няхай
не пойдзе ды ўвойдзе ў пакой.

Няхай не пагрэбуе ўвойдзе пальцы
свае
накладзе задзьмухай агонь задзьмухай
няхай увойдзе ў пакой.

# Вэлта Калтыня



* * *

Паміж «быў» і «будзе»
Стаіць чалавек —
Больш вечны, як магілы і саркафагі.
Босымі нагамі затоплены ў раллю,
Не перастае ствараць свет і сябе.
Мы можам абысціся без багоў,
Але не можам жыць без веры —
Без веры ў насевак і ў дождж з набрынялай
хмары,
Без веры ў поступ свой
І ў свой дарожны ўказальнік.

## АСКОЛАК КРЫВІ

Ім усё роўна —
Ці хваляць, ці ганяць, ці замоўчваюць.

Але яны былі — проста-такі былі
На адным і на другім баку Даўгавы.
Уздымалі цаліну, абдымалі жонак,

З сякерамі і віламі
На ворагаў ішлі.

Нельга спыніць разліў Даўгавы,
Нельга заглушыць покліч свабоды.

Яны былі і таму засталіся
Пасечнікамі,
стралкамі, гвардзейцамі.
Яны былі і таму засталіся
На плітняковых берагах Даўгавы
І ля сцяны Крамлёўскай.

Яны былі і засталіся
У крыві тваёй, маёй.
Ім цяпер усё роўна,
З якога камення
Узносяць ім помнік.

Але ніколі ім не будзе ўсё роўна —
Чыстай ці нячыстай пасудзінай
Чэрпаць ваду з Даўгавы.

* * *

Жар ганчарнае печы
Трэба зведаць, дарэчы.
Як ззяе ад чысціні
Гліна,
Загартаваная
У агні!

Прага спрадвеку
Чырванню тлее,

Боль спрадвеку,—
Усё палымнее
У паліве жыцця чалавека.

Чым ад сцежкі звярынай далей,
Тым і душы ў людзей багацей.

* * *

Авеяныя вятрамі зямлі,
Злучаныя з ёю прыцягненнем,
Прасякнутыя сонцам,
Напоўненыя сокамі жывымі,
Не спіце на сваіх парогах —
Упусціце!..

Зусім раздзетая любоў,
Што па жыцці ўсіх продкаў
Прайшла пазбітымі нагамі,
Цяжкая бяда,
Што спадарожнічае вечна,—
Хоць напалову б
Павінны быць падзелены.

Не спіце на сваіх
Крыху прытомленых парогах —
Адчыніце! І адчыніцеся!
Няўжо вам цяжка памагчы другому?
Няўжо вам, сонцам прасякнутым,
Цяжка святло выпраменьваць?

* * *

Не, я ад гордасці, ад страху больш не заміраю,
Смуткуючы, на згашаныя вочы паглядаю,
На вастрыё ракет, што ў сабе гром нясуць.

Не, больш не гавару — ўсе раны зажывуць.
Як горка, калі ты страчаешся з пакорай
Ці бачыш, як на дол кладуцца дрэвы бора.

Не, болей не магу
Над крыламі зламанымі заходзіцца ад жалю.

Адно бязглуздзіцы камок
У горле, перасеўшы, паліць,
Што столькі абыякавых людзей.
А сярод іх жывуць пакутнікі,
Ў грудзях якіх, не гаснучы, палаюць
Аўдрыні, Хатынь. Гараць і не згараюць.
У тых, што страт не ведалі, і памяці няма.
Асвенцім? Равенсбрук? Ізноў гразіць чума?
— Чуваць —
у печах газавых не так і страшна смерць.

Тады я Хірасіму ўспамінаю.
— О, так! Калі бенгальская заіскрылася свечка,
Пра гэта і амерыкі ўсе знаюць.

О, колькі раўнадушных і пустых людзей,
Нібыта не было той жудаснай, крывавай бойні,
Быў толькі жарт дваццатага стагоддзя.
Нібыта ў тых, хто ацалеў, на тварах
Эпоха не пакінула сваёй пячаткі.

* * *

Гляджу, як нада мной аблокі праплываюць —
Майго маленства коні,
І цягнуць пысы мяккія, вільготныя,
І ціха ржуць, і ціха ржуць:
На мемельскіх затоках шмат травы,
Паміж вялізных валуноў вірыць вада крутая
Ў сваім нястрымным бегу.

Яны гавораць там пра што —
Пра тое, пэўна, што затокі і камяні
Імхамі зарастаюць.
А некалі,
Калі спакойна коні размаўлялі,
Я разумела іх без тлумача.

Развеяныя грывы. Напружанасць імклівых ног.
Бабуля перасцерагае,
Што дзеці не павінны блытацца у коней пад нагамі
І са двара выходзіць.

## БАЛАДА ПРА ДВУХ КОНЕЙ У НОЧ ПАД МЕСЯЧКАМ

Яны, што час такі настане,
Ведалі,—
І ў чуласці нямой дрыжэлі губы,
І аксамітныя прытуленыя шыі,
І месяца святло,
Як таямніца вечная ў вачах.

І ведалі яны,
Што толькі неадольная хвіліна раздзяляе

Балотныя сляпыя тыя вокны,
Нібыта колца — з ланцуга звяно,
Якімі прывязалі іх.

І яны скакалі.
І скачуць і цяпер яшчэ яны —
Тая хвіліна, што не наступіла,
Тая неадольная цаля,
Тыя сляпыя вокны,
Тыя аксамітныя шыі,
Тое колца-звяно...

Узмыленыя коні апаўночы
У вадзе іржавай свае палошчуць шыі,
І на чарговым колцы спатыкаюцца,
І ў чуласці нямой дрыжаць іх губы.

* * *

Пазыч мне, мама, рукавіцы,
Сваіх звязаць я не паспела,—
Ты чуеш, як па-чалавечы
Крычаць на плёсах журавы.

Хоць не было асенняй слоты,
Размоклых ад дажджоў ухабін,
Нібы зладзейка, непрыкметна
Прыйшла раптоўная зіма.

Пазыч мне, мама, рукавіцы —
Мне трэба пабываць на плёсах,
Дзе, як і ў дні твайго юнацтва,
Крычаць зазімкам журавы.

* * *

Праз маладое поле канюшыны,
Праз несціханы гул пчаліны
Пойдзем, пойдзем.
Доўгім гулкім жураўлём
З небыцця пчала зачэрпне
І мёд кветак,
І яд кветак,
Каб уджаліць нас у восень.
Праз маладое поле канюшыны,
Праз несціханы гул пчаліны
Пойдзем, пойдзем.
Салад мёду на балючых вуснах,
Яд пчаліны
У анямелых сэрцах,
І не чуем, і не чуем
Голасу, які назад гукае.
Праз маладое поле канюшыны,
Праз несціханы гул пчаліны
Пойдзем, пойдзем,
З мёдам кветак,
З ядам кветак.

* * *

Ах, мілы, галава ўскружыцца можа
так добра, так прыгожа!
Аж неба затуманена ад дзіва;
не разабраць, дзе рук,
дзе сэрцаў сеткі.
Так невыносна
соладка й шчатліва.

Тут усяго без домыслу хапае,
сяўба тут і жніво адначасова,
чмялінае гудзенне, грукат грому,
жыцця няспыннасць і жыцця абнова.

Ах, мілы,
так і голаду пакуты,
і даўнія даўгі забыць нам можна,
і сіратлівых бежанцаў натоўпы,
і раніцы ў крыві, ў агнях трывожных.

І ў гэтую хвіліну
мы з табою
без зацямнення, без ахвяр, без бою,
ў хвіліну непаўторнай сталасці,
нязломнае нічым трываласці
між войнаў так жаданага спакою.

Вось так мы расцвітаем кветкай весняю
ў каханні, што гучыць
бясконцай песняю.

# Пэтэрыс Зірніціс



## ЛЁС БАРАБАНШЧЫКА

Зноў цішыня, шляхетнейшая пані!
У барабан ён біў у рэстаране.
Апошняя ў ноч свечка адлятала —
ў аркестры
барабаншчыка не стала.
Падумайце, шляхетнейшая пані:
ці барабаншчык быў
у рэстаране...
А хто ж тады,
сваю забыўшы рану,
біў
у душу —
ў аглохлую мембрану?
Што вам сказаць, шляхетнейшая, болей...
Ён барабанам біў на ратным полі,—
і войска каралеўскае знікала,
калі зямля
сыноў на бой склікала.
А ў рэстаране тым,
дзе свечкі маняць,
мог толькі ў барабан
ён барабаніць.

* * *

Любоў да бацькаўшчыны
выспявае як рунь пад снегам
Тут вечназялёны дзядзінец бароў
штораз пачынае
адну і тую ж самую калыханку
так мяркуем мы ўсе
хто блукае пад ветрам
завеямі не зацярушаны
А рунь падрастае
бо з сявенькі сумленнай пасеяна зерне
і здзіўляемся а чаму зелянее
тая рунь на крывёй набрынялай зямлі
Любоў да бацькаўшчыны
як адвечная песня стралкоў
бо з куляй сасватаныя не разлучаюцца
Любоў да бацькаўшчыны
спавядацца табою ў навалу
бывае запозна

* * *

Пагрозлівы стук тэлетайпаў,
ранішняе шапаценне газет у метро і трамваях:
сканаў Філіп Блайберг
ад сардэчнай недастатковасці.
Бачыце,
што атрымліваецца —
мы задыхаемся ад нястачы кіслароду,
нам не стае спакою,
не стае радасці,
а перад усім, магу вам сказаць,

нам яшчэ паграждае
нястача любові —
для чалавека
найгоршае самае. Ды, магчыма,
я памыляюся, мяркую няправільна,
і нас толькі тое гняце,
што не прыспяшаецца цела нашага рухавік,
спасцярожліва стукаюць клапаны...
Гэта толькі тарантасу ўсё роўна,
пра што шапацяць ранішнія газеты:
перамагло кіеўскае «Дынама»,
вярнуўся на радзіму прэзідэнт Фінляндыі,
сканаў Філіп Блайберг.
Задыхаемся, падымаючыся на пяты паверх,—
вінавата сэрца.
На стале халодная вячэра —
вінавата жонка.
Асмелюся са сваімі нэмзлымі ведамі ў медыцыне
дыягназ наш, шаноўныя, вызначыць —
пад кулямётны перастук тэлетайпаў,
пад псеўдаінтымнае шапаценне газет
я прамаўляю:
недастатковасць любові.

## КЛІЧ

Кліч пачуў запаветны
толькі рыпнула брама
здагадаўся хто светла
знепакоіўся: Мама

спатыкнуўся з парога
аж вушак здрыгануўся

хлеба горкага многа
даядаць яшчэ ў скрусе

хто ж цяпер летуценні
зберажэ як разоры
каб не мучылі цені
не гнялі нагаворы

зноў імя сваё чую
так завуць
толькі сына
і да скону хачу я
жыць на шчырасць
адзыўна.

## Ілзэ Біндэ



* * *

Ля гнёздаў птушыных,
Ля белай чаромхі ў белай імжы,
Стаіўшы дыханне,
На дыбках прайду
І далей пайду,
А вы кружляйце трушком-бяжком:
Праца — ашчадкаса — універмаг —
рэстаран — канапа.
Мае набыткі —
Рака, лугі і лясныя лаўжы.
Калі ты растаптаў жабянятка,
Ты мне чужы.

* * *

І ўжо крыху пазнавата
Дождж супыніўся нарэшце.
Цяпер да чужых ён пайшоў,
Да непрамоклых жытоў,
Да непагаслых кастроў.

Дождж недзе далёка цяпер.
Раз'ятрала сонца, аж слепіць.
Мы вочы заплюшчылі моцна,
Пагінуўшых каб не бачыць.
Было, пачалі прывыкаць,
Што трэба прамокнуць да ніткі,
Цяпер нават дзіўна самім
Сухімі заснуць у пасцелі.
Дождж супыніўся нарэшце.
Ды нешта душа не на месцы.
Не трэба шукаць вінаватых,
Знарок не зацягваўся дождж.

## ПЕСЕНЬКА ПРА СМАГУ

З першага дня,
як убачыла свет,
шмат што піла,
шмат чым паілі мяне:
маміным малаком,
ліпавым чаем,
горкімі лекамі,
чорнаю кавай,
бярозавым сокам,
балотнаю жыжкай,
вінам з дзьмухаўцоў —
чорт ведае чым;
толькі чыстай вады
ніхто не даваў,
чыстую ваду я шукала сама.
Нашла, піла, не спатоліла смагі —
заўтра пайду шукаць іншы ручай,
можа,— дапаможа.

* * *

А малеча каля рэчкі
Кацяня ў ваду шпурнула.
Бяжы, маці, на прыглядку,
Каб душа не патанула.

Бо душа патоне ў рэчцы,
Стане каменем адгэтуль.
І ўсіх слёз тваіх не хопіць,
Размачыць каб хоць крупінку.

Бяжы, маці, паўшчувай іх,
Навучы, пакуль малыя.
Падрастуць, дык не прыручыш,
Хоць бяры ў любую вупраж.

## ПРАДВЕСНІКІ

Няўжо, вясна, ты ў двор ступіла?
Не адпушчу цябе сама.
Як ні гула, ні галасіла,
З календара пайшла зіма!

Лугі падманліва чарнеюць,
На дрэвах голля галізна.
Яшчэ нідзе цябе не бачу,
Дзе ты схавалася, вясна?

Захутаным у футры людзям
Не ў перашкоду супакой.
Чаму яшчэ ў світанках весніх
Так многа цемрадзі начной?

Насуплена чарнеюць хмары,
Плывуць ля самай галавы.
У іх жаданне замарозіць,
Панішчыць парастак жывы.

Ды пад акном галінкі бэзу
Дзве пабудзіліся ад сну.
Зялёным іх рукам не счэзнуць,
Бо ўзнятыя яны ў вясну.

## УСЕМАГУТНАЕ МОРА

Вылечвала мора нямала зняверaных душ.
Спакутнае сэрца лячыла штораз шырынёй.
Жыццю, што знікала, завабіла радасць назад
І з хвалі абсыпала беднаму боты бурштынам.
Пясок — аж рыпеў! — намывала адвеку для ўсіх,
І нават для тых, каму мора не трэба было,
А трэба быў бераг.
Вылечвала мора нямала зняверaных душ.
І нават маю, што, замерзшы, каханне шукала.

Вылечная і ў цябе душа.
Гэта мору па сіле.
І толькі яму,
Бо нікому ты болей не верыш.

## КАЛЫХАНКА ЗМЯІ

Змяіная мама змеянятка лашчыла, калыхала,
Пра змяіных дзядоў быліны яму адкрывала
І доўгія песні-вілюгі малому спявала:

Спі, змеянятка,
Спі, дзіцятка.
Змяіная мама змеянятка цярпліва
вучыла:
Сцеражыся чырвонай буслінай нагі,
Не пакідай родны лес баравы,
Перад дрыгвой не занось галавы.
Спі, змеянятка,
Спі, дзіцятка.
Змяіная мама благаслаўляла яд.
Яд для змяі — гэта бог, не круцень,
Які са змяёю паўсюль, што цень,
Які ашчаджаюць на чорны дзень.
Спі, змеянятка,
Спі, дзіцятка,
Спакойна спі.

* * *

Лета бабіна прыспела
Маме косы пабяліць.
Да сівенькай я прывыкла,
Як жа з белаю мне быць?

Мая белая, мая белая, мая белая матуля,
Ці пачакаеш ты мяне да мае белізны?

## Элза Судмалэ



* * *

Да сонца немагчыма прытуліцца:
пад забаронай блізкасць. Ды ўгары
залоціцца яно, нібы куніца,—
і радуюцца людзі і звяры.

Калі ж спадае ў пустку расцяробаў —
пічыміць ад смутку светлыня вачэй.
За золата старой, адборнай пробы
ягонае зіхценне даражэй.

Мне да цябе, авох, не прытуліцца,
і забарону мне не перайсці...
Ды залатою сонечнай куніцай
няўгасна ты мне свецішся ў жыцці.

### Я ФАРБЫ ЖЫЦЦЯ ВАРТУЮ

Я ведаю: будні — гэта,
калі толькі ў бляклыя фарбы
афарбаваны свет.

Я ведаю, будні — гэта
работа, якую робіш
з дня ў дзень, і з табой турботы,
і ўтулак, які не грэе.

Я ведаю: гэта — будні...
Яны, бы ў абдымках вясёлкі,
дзівосна ўва мне існуюць.
Так, я сястра Агню,
я фарбы жыцця вартую:
праз шэрань і пыл будзённы
зіхцяць яны ўтульна, цёпла,
калі на свет пазіраю
вачыма кахання.

* * *

Рукі мае заняты:
У іх я трымаю долю.
Сеюцца ў глебу зярняты,
Каменнай жарствы — даволі.
Рукі мае заняты:
У іх я трымаю шчасце.
Над дахамі сноў заклятых
Раніца — як прычасце.
Рукі мае заняты:
Трымаю я ў іх нягоды.
На водмелях Гаўі зацята
Гібеюць дубоў калоды.
Рукі мае заняты:
Трымаю я ў іх каханне.
Водар маліны й мяты,
Воблакаў калыханне...
Рукі мае заняты.

## БЕЛАЯ АБЛАЧЫНКА

О так, безабароннае каханне...
І гіне яно ў небе, калі тое
Ператвараецца ў пясчаную пустэльню,
Дзе ўсё няўмольна гіне і чарсцвее
Без жыватворных ліўняў...
І гіне на зямлі, калі аблокі —
Калматыя і цёмныя пачвары —
Грувасцяцца над намі неадчэпна,
І адганяюць прэч лагоды човен,
І паглынаюць водбліскі святла...
О так, безабароннае каханне...

Мы часам заўважаем: прабягае
Штось мройнае на нашым цьмяным
небе,—
Як аблачынка белая... Яшчэ
Не так спустошанае наша неба,
Яно яшчэ не цалкам небыццё.

Над нашаю развагай прабягаеш
Дрыготкаю палоскаю надзеі
Ты, аблачынка белая...
Ці зможаш
Уратаваць яшчэ нам наша неба?
О так, безабароннае каханне...

## ВОКА КРЫНІЦЫ

Шляхі вады веснавыя...
Даўгава вольнай плынню
Ламачча з берага змые,
Друзу на бераг кіне.

Навалаю і сваволлем
Хвалі бягуць няспынна.
Але калі прагнеш найболей —
Не знойдзеш кроплі адзінай.

Дзіўныя тыя сілы,
Што ў душах людскіх бытуюць —
Віруюць, нясуць на крылах,
Натольваюць, губяць, ратуюць!

Вока крыніцы шукаю.

## СВЯТА, ШТО Ў НАШЫХ СЭРЦАХ

...Я ведаю — няма ўжо анічога
Ад дзён з агню,
Якія апякалі берагі
Малой Югіы.
Над знямелымі траншэямі
Звіняць званочкі цімвянаў,
Зялёныя гронкі рабіны
Патайна набрыньваюць чырванню.
У гэтым зялёным мроіве
Тояцца прывіды —
Дзе траншэі найзелянейшыя,
Там найшчадрэй пралілася кроў.
Калі іду над гэтымі смерцямі —
Баюся: яны прахопяцца раптам...
Запалаюць зямля і неба,
Чалавека ўжо не ўратуюць акопы.
. . . . . . . . . . . . . . .
Дык будзем штодзённа шчодрыя,
Каб з'існіласся СВЯТА СПАКОЮ.

І стала для нас жыццём,
Якому завяршэння не будзе.
Няхай палымянай жар-птушкай
Яно ўзыходзіць з нябыту.

## СКРОЗЬ СРЭБНЫ ЛЕС

Зямля і неба ззяннем поўныя,
І лес аснежаны здранцвеў...
Таемства спазнаю чароўнае...
Што я шукаю тут, між дрэў?
Ці то даверлівасць сардэчную
Сябрам аддадзеных надзей?
Ці квет-красу недаўгавечную,
Што выратоўвае людзей?

Галінак строі ў белым полымі —
Прыроды цуд!.. Ды толькі лёд
Душу задзьмуў губамі голымі,
Суцішыў думак карагод.

Даруйце, дрэвы, я ўхіляюся —
Такі халодны снежны бэз!..
Пяшчотай вас сагрэю ў памяці...
Маўчыць, не калыхнецца лес.

А неба поўніцца бясконцым
Зіхценнем срэбным...

## Леанс Брыедзіс



### ПЫТАННЕ

Змярцвеласці асенняй
я многа маю ў сэрцы.
Па чорным чорным многа
напісана ўва мне.
Няўжо нас апладняе
усведамленне смерці?

Хто я такі і што я
сабою уяўляю?
Як безнадзейна востра
я гэта знаць хачу,
бо, стрэліўшы ў жар-птушку,
я у сябе трапляю...

Я часта спатыкаўся
сам аб сябе ў дарозе
і сыпаўся праз пальцы,
нібы рачны пясок,—
у роздуме глыбокім,
у смутку і трывозе.

Няма, відаць, адказу
на вечнае пытанне.

Адсоўваю талерку
з каштоўнасцямі ўбок
і ўзняць супроць пытання
хутчэй хачу паўстанне...

І гэта ёсць жыццё.

## ЯБЛЫНЯ І КРЫНІЦА

Смерць і мяне пагалёкае,
і я ўпаду на іглiцу —
неба пакіну высокае,
яблыню і крыніцу.

Як і прыйшоў, непрыкметна я
ў цемрадзь сыду ў навальніцу,
слова пакіну прыветнае,
яблыню і крыніцу.

Я ўсё выкідваю лішняе —
славу, таршэр, завушніцу.
Снег пакідаю з ліўнямі,
яблыню і крыніцу.

Больш адзінокі, чым смерць сама,
я перайду граніцу...
Крылы пакіну ад сэрца я,
яблыню і крыніцу.

## ПОМНІК

З уздыхаў сярэбраных хвой,
святла недасяжных сузор'яў
і чыстай слязіны івалгі
я помнік зраблю —
ў цвеце яблыні,
месяцу,
кароўцы божай, што спіць на трыпутніку.
Вялікімі літарамі
я жаўранка песню
на помніку высеку
і кветкі вятроў
пакладу на яго.
Як пойдзеш на поўдзень —
спыніся,
як пойдзеш на поўнач —
спыніся
і прачытай,
што такое гэта.

## ТРЫ ЎЗДЫХІ

З мяне тры ўздыхі — выйшлі сябры ўночы:
для іх была душа мая — турма...
Адчай імглою завалок ім вочы.

Мой рот, як быццам белая тасьма,
матляўся над пустыняй ледзяною...
А можа, я пакутваю дарма?

Мо тонкая сцяна перада мною —
як валяр'яну пах або душа,
як шкло ў акне або раса вясною?

Ці як жанчына на лязе нажа?

## ПАЎНОЧНЫ ВЕРШ

Сёння быў ты, адчуй, асілкам —
тым, што выплюнуў з рота дракона.
Дрэва мёртвага над табою
навісала кашчавая крона.

Кроў сцякала па падбародку —
кроў гарачая брыдкай пачвары.
Збан, што з рук тваіх раптам выпаў,
не адбіўся ў цябе на твары.

Узваліў ты гару на плечы
і, зрабіўшы ўсяго тры крокі,
не сказаўшы нікому «дзякуй»,
акіян перайшоў шырокі.

## ЧЫРВОНАЯ ПТУШКА

Птушка чырвоная
па-над зямлёю ляцела.
Ў крону вярбы ўрасло
птушкі чырвонай цела.

Птушка чырвоная
ўгору карэнні цягне,
прах і крыніцу п’е,
хвост разгалініць прагне.

## КЛЁН ВОСЕННЮ

Як быццам загнаныя коні,
храпуць ля абочын дні.
Нікога няма на дарозе,
якой ты ідзеш, ані.

Ты перастунаеш пустэчы —
і шлеш сам сабе праклён.
Як здраднік радзімы, сыходзіць
апошняй крывёю клён.

* * *

Змаўкаю я, хоць і нічога не
заваяваў мой рот за дзень як быццам.
Хай толькі зноў не забароніць мне
мужчынам ноч вясновая зрабіцца.

Таму, хто прагне падарыць усім
давер і разуменне... Хто баіцца
на зорку ценем наступіць сваім.

Хто ўсе усмешкі запрашае ў госці.
(О, колькі ж у цябе, мне кажуць, злосці?!)

## САНЕТ

Сустрэнеш ты ці жыта, ці ячмень —
дасі дарогу, сыдзеш са сцяжыны.
Ты сціснеш моцна ў кулаку свой цень,
каб не схапіўся за шнурок птушыны.

Каб не спалохаць сонечны прамень,
хаваешся ты ў лесе пад яліны.
Надзейна падстаўляеш у сухмень
плячо пад пладаносныя галіны.

Перад табою адступае жыта...
Нібы гаранка з гарлача джыгіта,
гара вадою поіць далягляд.

Падхоплены птушынай чарадою,
над смяглаю гарой ляціш з вадою,
і сонца азарае твой пагляд.

## НЕПАДЛІЧАНАЕ

Мы бесперастанку падводзім рахункі
падлічаны свету чатыры кірункі

цячэнні марскія трава кіпарысы
крыжы на магілках пад мёртвымі рысы

няма ні бяссілля ні шчасця ні гора
ні ночы ні ветру ні заўтра ні ўчора

падлічана ўсё дык чаму ж адкажыце
шкада непадлічанай птушкі ў блакіце

* * *

Ужо я не смяюся смехам...
Калі смяюся я парой,
то аблачынкаю звычайна,
дрымотным лесам ці гарой.

Раней, чым вымаўлю я слова,
яго я тройчы задушу.
Баюся, што яно не зможа
крануць нікога за душу.
Як на старонцы белай кнігі,
я затрымаўся на сабе.
Там пра мяне ўсё расказалі
сумёты, іней на вярбе.

* * *

Вы з каменя выньце мяне —
і я аслепну.

З гары мяне выкапайце —
і я аглухну.

Дазвольце быць плынню ў вадзе мне,
ў паветры — трымценнем
і ў агні — гарэннем...

З удзячнасцю шчырай да вас
сэрца маё дакранецца.

## ДЗІКАЙ ЯБЛЫНЯЙ НАГНІСЯ

Ноч душу перамятае.
Зноў святло далёкіх
зор
за ваколіцай гайдае
воды сцішаныя,
бор.

Зноўку ты гартаеш рану,
скарб шукаеш светлы
свой:
«Дзікай яблыняй нагніся
ноччу гэтай нада
мной...»
Як вялікі рак чырвоны,
запаўзае поўня
ў дом.
І плывуць быкі павольна
над тваім зімовым
сном.

## ВЯЧЭРНЯЯ МАЛІТВА

Тваё імя я пішу крывёю,
крылом сціраю буслiным.
На гэтым свеце, як ні жахліва,
не вечна ты будзеш з сынам.

На гэтым свеце (прызнайся, мама)
табе няўтульна, сцюдзёна.
Праз цень вярбы да цябе здалёку
Цягну даланю штодзённа.

Штоночы кроплі грымотнай цішы
дзяўбуць упарта мой чэрап.
Няўжо на крылах вечнасці, мама,
Цябе загойдае вера?

Давай з табой уцячэм ад свету
і ад апекі ягонай.
Я стану, мама, кустом шыпшыны,
ты кветкай на ім чырвонай.

# Армандс Мэлнаксніс



* * *

Расці жывому цесту,
Дрывам у печы выць,
А глотцы пеўня — весткай —
Аб новым цудзе быць.

Расплюшчыш вочы зноўку
Ў зялёны гэты свет:
А ў божае кароўкі
Як вымя — санцацвет.

Губамі зловіш слова,
Перакаўтнеш у гук.
Ты ўсё пачнеш нанова,
А хтосьці скажа — ўнук.

У праўнуках і ў дзецях
Дзянніц маіх акно.
Жыву на белым свеце
Нядаўна і даўно.

## ПУСТАЗЕЛЛЕ

У сумлення, хоць і клянецца,
Сакатлівы язык. Вочы рыскаюць:
Раптам дзесь да сонца праб'ецца
Пустазелле — краса бескарысная?..

Вы, няўмольна-зычлівыя знаўцы,
Адкрывальнікі сэрцаў... адмычкамі.
Ёсць жа нешта і ў гэтай траўцы,
У валошцы, што сіняй znічкаю
Узыходзіць толькі для жыта,
Для яго жыве й памірае.
— Вы пра хлеб надзённы? Скажы ты...
Дакараю вас? Не, паўтараю:
Не ўяўляю нівы... Скаромнай
Без валошак яна здаецца.
Рады цуду я нескаронаму,
Што рукам ані не даецца.

* * *

*Памяці Эдгара Каўлыньша,*
*Героя Сацыялістычнай Працы,*
*старшыні калгаса «Узвара»*

Гарэніць хлеб і засядае ў горле.
Боль пракаўтні. Гарланіць новы дзень.
Не жораў трубіць, а самоты горны...
Не зернятка, а волата кладзем.

Дажынкі мо? Спачыну рукі просяць?
Ды працу не завершыш, нібы стог.
Сяўня галактык выселіла просінь...
І ў баразну яе ратай наш лёг.

Раней світанку ўсмешка яго днела,
Як абыходзіў некалі палі...
— Што мне зрабіць, каб ты, Зямля, квітнела?
Мы ж кроў табе і сэрцы аддалі.

І так — заўжды. Пакуль закрыюць вочы.
Звіні, зямля, званкамі спелых рос.
Зноў апусціў вядро ў калодзеж вочап,
Зачэрпнуў зорку і ў нябёсы ўзнёс!

* * *

Не ўсё падзелена пароўну;
Так, для адчэпу, толькі б з рук.
Каму — жаўна, каму — варона,
Ну, а камусьці — цецярук.
І — салавей?.. У паняверцы
Пачаў па клетцы малаціць.
Трымаў жа сам за крылы сэрца,
Цяпер няхай у свет ляціць.
Няхай ляціць, куды захоча.
Нашто мне гэтакі цяжар?
Яно пульсуе і клякоча,
Як наш зямны клапотны Шар.
Не жураўля, а мудры жолуд
Спаймаю ў лесе на ляту.
Чым наталіць спрадвечча голад?
Як слодыч высмактаць адтуль?
Зноў вочы кружаць у сусвеце,
Туды й анёл не заляціць.
А дзе падзецца сэрцу ў свеце,
Калі яно за ўсіх баліць?..

* * *

Немагчыма прыдумаць, не.
Памаўчыце, не гаварыце.
Слову — Маці — звінець і днець!
Не прасіце другіх адкрыццяў.

Маці быццам зямная вось,
Бо ўсё ўкруг, за яе рукамі.
У імя яе мяккі воск
Выкалыхвае мёд вякамі.

Колас спее ў імя яе,
І дзяўбе сонца пеўняў грэбень.
І вярхоў жаўруку стае,
І народзіцца зорка ў небе.

У імя яе ўглыб і ўверх,
У імя яе ў травы сыдзем...
У імя яе з пушчы звер
Не збаіцца, на кулю выйдзе.

У імя яе — рой надзей
І іскрына радасці ў скрусе...
У імя яе ў Судны дзень
Не ўтрымаюся і прачнуся.

Немагчыма прыдумаць, не.
Маці нашай існасці дрэва.
Слову — Маці — звінець і днець
У вяках. Ave, Eva!

* * *

Клеткі нервовыя гінуць штодня...
Дзяўбе паперу аловак:
Зерне — на пуд паловы...
Ні рук, ні вачэй да сонца не ўзняць.

Доўга канаць, не дай бог.
                                        У — агонь!
Аловак між пальцаў, як кукіш...
Чэрствы паэзіі хлеб, ды яго
За грошы ў краме не купіш.

## ДЗІЎНАЯ ПТУШКА

Промень лістам зжаўцелым упаў на далонь.
Выраёвы бальшак... Адлятаю дамоў.

Дома белая кветка на шыбе цвіце,
Гурба снегу ля роднага ганка расце.

Зачарпнуў поўны бот. І скачу, як ваўчок.
Вунь, аголена ў нівы зялёнай плячо.

Хто ёй плечы і грудзі будзе ўкрываць?
Папрашуся ў абдымкі яе снегаваць.

Мо матуля таму мяне ў свет прывяла,
Каб зямля ў адзіноце зімой не была.

Вецер з поўначы дзьме. Глуха стогнуць лясы.
Калачуся на сонцы
Паўднёвай красы.

З арабіны ў снег ягады
Восеньскай стратай,
Нібы кроплі крыві,
А чыёй?
Майго брата.

Ледзяная кветка тугі
да сэрца крадзецца.

* * *

Лістота часу цокае падковамі,—
Самаахвярны, жыццяродны дар.
Тычынкі кволай веснавая схованка
Прынесена на восеньскі алтар.

Танчэе нітка. Прадзіва канчаецца.
Завершан шлях. Яшчэ чаго хацець?
Лято́к вачэй заплюшчаны ў адчаі,—
Што богу пчол туды не заляцець.

На ледзяніцы промень высякае:
«Няма канца жыццю, што мы нясем».
Мы сплецены спрадвечнасці рукамі,
Вазьмі сяўню і ніву зноў засей.

* * *

Я ў лес хачу. Расці буду ўгару
Ясенем ці чорнай вольхаю.
Хай пад карэннямі капае звер нару,
А над чупрынаю хай птушкі вохкаюць.

Няхай бы хмара на мяне плыла,
Маланкаю бліскучай перамерала б...
Ды страшна — сэрца выскачыць з дупла,
Як прыйдуць забіваць мяне сякераю.

Мая душа — мой бессмяротны птах —
На пень зляціць і крыкне па-сарочаму,
Зямною мовай будзе лес вітаць
І... дзень, што ўсмешкай сонечнай залочаны.

# Яніс Рокпелніс



## ПРЫ МОРЫ

Ёсць у ракавіны хваставіна і горла,
як і ў мора. І нам паміж імі
трэба ўмець неяк жыць і не песціць надзею
на здабычу з дна мора каштоўных жамчужын;
іх няма каля нас, хоць здаўна на ўзбярэжжа
вымывае прыбой не марскую царэўну,
а з радовішчаў часу — той час патанулы;
ён іскрыцца на дзюнах і на меднастволых,
ветрам згорбленых соснах кладзе свой адбітак;
а як восень дыхне, па кляновым бурштыне,
што шуршыць пад нагамі, мы ходзім і ездзім,
аж пакуль не ўбярэ яго ўвесь пастулова
мудры снежань — у глыб сваёй белай пасцелі;
паміж той хваставінай і горлам салёным
трэба ўмець жыць, як людзі, без жальбы і скаргі,
што ракушкі для нас не гадуюць жамчужын;
разумеем і між супрацьлегласцю гэтай
напінаем, як струны, канаты і ліны
не з бурштыну і жэмчугу — ліны зямныя!

* * *

Можна вясною прайсці праз усё
праз прастор праз людзей
пранікаць ім у душы

белы венчык нарцыса ў табе
затрымаўся на міг
і адпрэчан рукою

часта ластаўкі
быццам у спешцы штодзённай
акунаюць у позірк твой
вострыя крыльцы

сцеражыся аднак
бо нядоўга чакаць
той пары калі станеш ты
непранікальнай

і ў табе круглы год
аж да новай вясны
безвылётна засядзе
матыль або кветка

будуць вязні ірвацца
адчайна на волю
так адчайна
што іхні парыў і адчай
ты міжвольна
                    прызнаеш сваімі.

* * *

прызямляецца чайка
прытульвае крылле
і тым самым
становіцца цэльнай істотай

але раптам узмах
нібы ўсплёск сухахвалі
новы ўзмах
і зламаліся лініі цела

расшчапілася птушка
і раскрыжаванай
раствараецца ўдалечы
знікла

* * *

рот заклейваюць ядам слова
а расклейваюць несалодкім
мёдам з вуллікаў тых дзе продкі
паляглі і маўчаць сурова

горкі мёд той але глынуўшы
горычы ты спяваеш дайны
тыя самыя што адчайна
колісь пелі нябожчыкаў душы

смерць занадта твой дол бяздонны
і няўжо мы зямлі пастаяльцы
там залёгшы ужо не здольныя
хоць бы свіснуць са зла ў два пальцы

## СУБОТНІ ВЕЧАР

Як пшанічка ў валлі цёмна-шызага голуба,
Рыга спіць дужым сном карапуза.
Стаў тралейбус ля парку, бы конь каля жолаба,
Над музеямі лётаюць музы.

Той тралейбус развёз на прыпынак з прыпынку
Безліч душ і цяпер ужо спачывае.
Абязлюдзелі плошчы, і вецер катрынку
Цёмнай ноччу заводзіць і падвывае.

Вось цяпер самы час, каб і сэрца ў тэрцынах
Штось запела хаця б пра сябе дыялектам
Курасляпу спрадвечнага, пчол на вашчынах.

Адчуваю, як ветрам вывейвае стому,
Бачу танцы начных матылькоў, нібы гномаў,
У лістоце, праходзячы ціхім праспектам.

## СПРАВАЗДАЧА

1. Скажам перш-наперш, што за справаздачны
перыяд
ліпы прыбавілі лісту і ў гэткім жа плане
брала разбег зяляніна ў бярозах і клёнах;
як недахоп прызнаём: па-ранейшаму камень
не зацвітае — ляжыць і ні з месца, замшэлы.

2. Значна прасунуўся ўперад працэс навучання
спевам дамашняй жывёлы кашачай пароды;
тут, па паказчыках колькасці, лічым патрэбным
не паскупіцца адзначыць хвалою заслугі
нашых салістаў, што трымалі ўдарную вахту
ў змены начныя ўвесь месяц па дахах і вышках.

3. Снежань зрабіў крок наперад у справе здабычы белага золата і апярэдзіў тым самым нават паказчык па валу ў няўстойлівым маі.

4. План па вырошчванню крылаў у нашых пегасаў ўсюды правалены па аб'ектыўных прычынах.

* * *

Я гутарыў са скрыпачом аднойчы
Пра скрыпку — ў чым сакрэт ігры на ёй?
Адкрыта гаварылі ўсё і ў вочы:
З апломбам ён — сваё, а я — сваё.

Быт скрыпкі мы па-рознаму ўяўлялі.
Мне так здавалася: яе штодня
Скрыпач бярэ з сабой у футарале,
Як хтось на шпацыр хатняе шчаня.

Не знаў я, ці ўласцівы ёй асіпкі,
Калі пявуння рызыкне сабой
На холадзе, і ці хварэюць скрыпкі
Французскімі хваробамі — любой?

Ну хоць бы этыка яе: з гадамі
Яна перамянілася ці не?
Мы ўсё адзін другому выкладалі,
Аднак пытанні зноў былі ў мяне.

Напрыклад, далягляд і разумовы
Яе абсяг: ці ён такі ж, як той,
Па-за якім на плаве паступова
Знікаюць караблі?
І пад настрой

Мы пагадзіліся ў істотным самым:
Майстры сваё майстэрства судзяць самі.
Аб несваім гадаць мы толькі можам,
Як і аб тым, што мысліш ты, прахожы.

## ЦІШЫНЯ

Пры раскопках кургана
археолагі анічога не знайшлі,
той курган
данізу
быў пусты.
Але ўсё-такі нешта
там было ў ім.
І гэта «нешта»
называлася цішынёю —
спаконвечны спакой і ціша,
непраяўлены гук, маўчанне,
немата старажытнай эры.

І калі бразг і грук пнеўматык,
часу гул
цішыню аглушылі,
увайшла яна ў іх і ўмомант
растварылася.
З там-таго часу
цішыня гэта, як і ападкі
ў год засушлівы, коратка капне
і знікае ў бясконцасці шуму.

## РУСАЛКА

Білі, білі яе —
не забілі,
нат па рэках віры завалілі,
спадзяваліся: ну, замарылі
ў мелкаводдзі, ды — з'ява са з'яў! —
мор жывучку не ўзяў.

З вечара ў вечар у хмарным сутонні,
калі высяваліся зоркі ў прасветах,
пела русалка, і спеў яе з тоні
да рыбакоў далятаў, як з-за свету.

Дзіва дзіўнае:
людзі дзівіліся,
не здзівіліся —
і змірыліся
з тым, што такое стварэнне
пявучае
неверагодна жывучае.

Сталі песні яе велічаць
хто як мог:
той гаворыць, што чорт выцінае ў рог,
а другі — гэта тужыць дзяўчо-сірата,
трэці ўпарта сцвярджае: пяе пустата.

Не прыняўшы ні чорта і ні сіраты,
ні тым болей агучанай пустаты,
пра русалку размову вялі ўзахапкі
на прыморскім бульвары ў нас маракі.

Я быў сведкам, як нейкі сучасны зуаў
так нявінную гэту істоту назваў:
«Вунь русалачка ў моднай сучаснай падробцы —
Кус панадны. Хто смелы,— таргуйцеся, хлопцы!»

## Аўгустс Штраўс



### МАЕЙ БАБУЛІ

Мы ўсе да гэтай мудрасці прывыклі:
Зямля круглей за чалавечы век.
Табе ж усё здавалася вялікім.
Вялікі — свет, вялікі — чалавек.

У маладосці ласкі не прасіла.
Хапіла будняў, не ставала свят.
Але ў хаціне беднай нарадзіла
Ты дзевяць дужых, добрых немаўлят.

Не раз бяда кацілася, што кола,
Перад табой, бабуля, наўпрасткі.
А ты сцярпела, ты была вясёлая,—
Зямля круглей за доўгія вякі.

Капуста, бульба,— ўсё ў руках круглела.
Пакрэктваў хлеб на сонечным стале.
Пярсцёнкі год пракочваліся смела
Па баразёнках зморшчак на чале.

Дажджамі шлях твой біты і абмыты,
Самкнуўся круг спатоленых дарог.

Ты завязала век свой цягавіты,
Як хустку па-жаночы ў санцапёк.

І гэтак туга сцягваючы вузел,
Сказала: як дарэшты зацягну —
Няхай не плачуць, а смяюцца людзі,
Адкрыйце бочкі,— час таму віну!

## ДВА ПАЛЮСЫ

З маіх карэнняў сок да сонца гоніць,
У голлях рук трапеча вецярок.
Але аб чым ён з лісцямі гамоніць,—
Не маю часу ўслухацца, сынок.

У непражыты поўдзень прасачыцца б,
У снах сваё нязведнае спазнаць...
А зоркі ў небе колюцца ігліцай,
А сонца ў хмары — таямнічы знак.

Бракуе часу растварыцца ў часе,
Бруіцца сокам спелым у ствалах.
Лістота дзён паводкай разлілася,
І замець крылаў засціпае шлях.

Адной рукой хаплюся за карэнні,
Другою дрэва гордае сагну,
Смялей жа, людзі, веку пакаленні,
Смялей у пал зялёнага агню!

* * *

Растрывожаць каханую вершы у сне,
Дзе нязнаныя словы звіняць пра мяне.
Дзе сівы малачай апякае гады,
Дзе на дол, нібы зоркі, ляцяць жалуды.

Толькі раніца выпіла зрошанасць траў.
Нават певень не ўспомніць, пра што ён спяваў,
Абдзіраючы горла сцюдзёнай смугой.
Стыне сіні туман на сцяжыне тугой.

Толькі сонца спяшае у восень надзей,
Абвівае праменнем зямлю і людзей.
Распрамляе лістоту, як прывід вясны,
Дзе ўспаміны і мроі, спагада і сны.

Толькі птушкі садзяцца палям на плячо,
Дзе зярнятка паказвае ўжо язычок...—
Не збірайцеся ў вырай, пагодныя дні,
Абміні ж мяне, восень, хоць раз абміні.

Растрывожце каханую, вершы, у сне,
Дзе нязнаныя словы звіняць пра мяне,
Дзе на полі суровым... Адзін... Пасярод...
Заінелы і стомлены,— столькі год!

## ЗЯЛЁНАЕ СОНЦА

Над намі сонца коціцца ў абшар,
То хмарай зацямняецца, то ноччу...
Ёсць сонца ў і мяне,— з пламення мар,
Што побач па жыцці са мною крочыць.

Расплюшчу вочы раніцай — яно,
Зялёнае, мне сыпле ў твар лістотай.
Цячэ світальнай свежасцю ў акно,
Што блісне праз туман задушны ўпотай.

Па сцежках родных коціцца ў прасцяг,
У смагу шчодра ласкай наталяе.
Вунь над лясамі, бач, ягоны сцяг,
Над дзюнамі яно агнём крыляе.

З работы сябра стомлены ідзе,
Яго дарога сонцам абагрэта.
Цень ад каханай на мяне ўпадзе,
Калі яно ў наш бок глядзіць прыветна.

Калі ж нацягне цемра невады,
Не гаснуць мроі сонца сярод ночы.
І кроў мая гарачая заўжды
Ў нястомным сэрцы сонечна грукоча.

## КАМЕНЬ

Камень, помню цябе
Даўняй памяццю продкаў і доўгіх стагоддзяў,
Будзеш ты і пасля... Як не стане мяне...
Застанешся у вечнасці кропкай.

Зразумеў я і ўведаў надломы эпох,
Толькі, камень, адужаць цябе я не змог.
Палыны у чало тваё корань пусцілі здаўна,
Тут дзяўчаты звівалі вянкі дацямна,
І сплятаўся з валошкамі выцвілы мох.

Выплываю з глыбіняў касмічных віроў,
Я іду, дзе гарацъ скрыжаванні вятроў
З тых эпох, калі з каменя волаты сок выціскалі.
Нават некалькі кропель на шлях мой упалі...
Ці не з іх валуны вырастаюць ізноў?

Не спачыць, не заснуць...
Я хачу гэты камень дрымотны звярнуць.
Ён і сам, небарака, жадае спазнаць летуценні...
Толькі ў нерушы, там,
у задушлівых спратах зняменння,
Ўкамянела зямля...
Не зірнуць з-пад цябе, не дыхнуць.

Там, у мроях, я ведаю — неба без хмар,
Там гадуюцца пчолы і млее папар.
Камень, зрушу цябе сілай слоў і натхнення!
Трэба ж, трэба зрываць і раструшчваць каменне,
Каб круціўся лягчэй
наш зямны растрывожаны шар.

## Эйжэнс Вэверыс



### ХЛЕБ

Мы атрымоўваем хлеб.
Сто пяцьдзесят грамаў.
Як Сахара — дождж.
Як набожны — прычасце.

Ціхі кампазітар,
Празрысты, як Месячная саната,
Шэпча:
— Хлебе, даруй!
Некалі мы цябе забываліся шанаваць.
Нам здавалася —
Ты звычайны, як жарсцвяк у рацэ,
І такі танны, як пясок.
Даруй, святы!

Ён прыціснуў свой паёк
Да грудзей
І паволі, паволі выйшаў праз дзверы —
Абліць хлеб сонцам.

Нейкі бандыт даў яму выспятка.
І забраў

Усе сто пяцьдзесят тысяч
Удараў сэрца,
Сто пяцьдзесят тысяч крокаў
На Бацькаўшчыну.

## ЧАКАННЕ

Мы сохнем, як асенняе лісце.
Сіла выцякае па крывавай кроплі поту
У пыл каменяломняў.
У нас ёсць нянавісць.
Ды ў нас няма зброі.
І муры смяюцца з нас,
Ашчэрыўшы гранітныя зубы.
Хоць бы адна вінтоўка была
На дзесяць мужчын,
На сто.
І з нас болей не здзекаваліся б!
«Будзе зброя.
Будзе!
Чакайце!»
Хто гэта сказаў?
Ці ноч,
Ці вецер,
Ці апошні ўздых у газавай камеры?
Ці, можа, рух Супраціўлення?

І мы чакаем,
Схаваўшы нянавісць пад павекамі.

## АГНІСТЫЯ ХВОІ

Кожнага вечара загараюцца хвоі
На дзюнах.
Мора чэрпае воды ўсіх краявідаў.
Тушыць!
Каромыслы стукаюцца аб бераг,
Вада расплюхваецца.
Заўсёды расплюхваецца, заўсёды расплюхваецца
На пясок.
Незатушаны хваёвы агонь перакідваецца
На сухую асаку і воблакі захаду.

Калі маё сэрца пачынае гаснуць
У кроплях халодных слоў,
У тайзе адзіноты, у развітальным ключы жураvoў,
Калі толькі чорнае вуголле
Пагражае застацца,
Я збіраю іскры агністых хвояў
І кідаю іх
У сваё сэрца.

Я гару.
Я жыву.

## ВЕЖЫ

Вежы кажуць:
«Падыміся!»
З вежаў можна далёка бачыць:
Цераз пляскатыя пагоркі будняў,
Цераз глейкія мелі душы,
Цераз іржавае балота страсцей.

«Падыміся!» —
кажуць задуменныя вежы Бацькаўшчыны.
Тут вежы не тыя.
Рассеўшыся на чорнай агарожы, як груганы,
Вартавыя вежы сочаць за намі,
Што мы робім,
што думаем,
чым дыхаем.
І куртатыя дзюбы іх кулямётаў
Ад злосці падрыгваюць...
Ў самы першы вечар
Вострыя кіпцюры іх куль разарвалі
Аднаго латышскага рабочага
сумленнае сэрца.
Праклятыя вежы Маўтхаўзена!

## КВЕТКІ

Жаночая рука
Паставіла кветкі ў крыштальную вазу,
Пышныя, як адаліскі
Ва ўсходніх казках.
Адна на зямлю ўпала,
Я падняў яе
І здзьмухнуў пыл
З яе шоўку нявесты.
І тады падалося мне:
Зноўку чую голас бабулі
З засаджанай штокружамі
Старое латышскай сялібы:
«Кветкі і хлеб, сынку,
Хлеб і кветкі — святыя».

# Яніс Балтвілкс



* * *

Гэта святло нібы міла прыглушана,
вельмі зялёнае гэта святло,
быццам вясновай пярынай было
гэта святло, што так міла прыглушана.

Быццам крыштальны туман лёг на раны.
Коні запрэжаны —
мчаць наўпрасцяж.
Я табе добры мой, любы дружбак,
Буду ў святле гэтым дзіўным адданы.

* * *

Калі сонца
ходзіць вельмі нізка,
калі кузуркі ў шчылінкі хаваюцца,
рабіны —
белыя-чырвоныя-голыя —
жыццё працягваецца ў птушках.

## ЛАТВІЯ

Найдарожшая гэта зямля мне,
Як прыходзіць вясна маладая.
Найдарожшая гэта зямля мне,
Калі восеньскі ветрык наволыны
Па-над ёй спакваля пралятае.
Найдарожшая гэта зямля мне,
Калі з парасткаў новых і кволых
Восень жоўтае лісце змятае.
Найдарожшая гэта зямля мне,
Як і след мой на ёй прападае.

* * *

Калі ўсе
патрэбныя цішыні
пахі травы,
песні птушыныя,
кропелькі рос
зліты ў адно,
прыходзіць вечар.

Цішыня на кажановых крылах
пралятае над дваром
і ціха, як бы снег
падае на голле яблынь,
падае ў студню, на ганак дома,
на ліпы за свірнам і паўсюль наўкол.

Хвіліну-другую спакойна сяджу на двары,
пасля я ўстаю і кажу:
«Тут — цудоўна.
Маюць нервы мае тут найлепшы бальзам.

Толькі доўга тварыць так няможна.
Дайце мне саксафон!
Дайце цуд які-небудзь!»

* * *

Гэткі ўжо дока, гэткі ўжо знаўца,
што васількі
пустазеллем назваў.
Можа, браточак,
ты крыху перавучыўся?

## СЭРЦА

З часіны тае, калі ты вачыма не бачыш мяне,
а сваім сэрцам бачыш,
з часіны тае, калі ты вушамі не чуеш мяне,
а сваім сэрцам чуеш,
з часіны тае, калі ты свет сэрцам адчуў,
а не далоньмі,
з часіны тае, калі сэрца тваё
зрок, слых
набыло,
дык часцей пачынае
балець яно.
Тваё сэрца
цяпер —
чуе, бачыць.
Тваё сэрца
цяпер
будзе біцца.
Ты — жывеш.

* * *

доўга ішоў я
свет я збіраў
час мне калені драпаў
доўга ішоў я
так доўга ішоў
амаль да самазабыцця
доўга ішоў я
так доўга ішоў
і зноўку вярнуўся дамоў
доўга ішоў я
так доўга ішоў
аж дуб захацелася пасадзіць
хай ужо ён
пойдзе далей

## НА КОЖНАЙ ГАЛІНЦЫ-МАЛЕЧЫ ПЛАДЫ

Багаты быў той год,
на кожнай галінцы-малечы спеў яблык.
Не паляцелі ў вырай дразды —
ягад было на рабіне навалам.
Снежнай зімою гэтыя птушкі
гожа цвілі на галінках.
Ягад багата было на рабіне,
але зіма перадоўжыла ягады.
Ягад не стала аднойчы пад вечар,
холад і голад адольвалі птушак.
А на світанні наступнага дня
вароны на снезе па-свойму пісалі:
хай славіцца раніца гэта шчаслівая.

# Мара Залітэ



## ЗАКЛІНАННЕ

Брат збіраўся на вайну,
Меч з размаху ўсек у дуб.
Дуб расце, меч іржавее,
Што было, зноў час навее.
Чорна кура б'е крылом
У загоне для кароў.
То была не чорна кура,
Небыляў нам час накурыць.
Пераборы жаніхоў
Маладых дзяўчат пастараць.
Мілая багіня Мара,
З раніцы між намі свара.
Меч. Іржа. Старымі стануць.
Слёзы льюцца, боль залее.
Час табе маё навее.

* * *

Калі звярок прадзім'я знішчае краскі, пахі,
Я жураўлём не буду, што — лахі ды пад пахі.

Калі зіма айчыну спасцігае.

Вы чуеце, завабна як курлычуць?
Нібыта тых, што ходзяць, ляцець удалеч клічуць.
Каб ланцугом паспешлівым замкнуцца,
То прэч адсюль, то прэч адсюль імкнуцца.

Калі зіма айчыну спасцігае.

А можа, гэта сіла, а не слабасць?
Не баязлівасць, а разважлівая воля,
Каб кінуць-рынуць і не бачыць болей?

Не ў гэты міг, аднак,—
Не гэты луг і поле.

* * *

Калі месяц затуманіцца, то ля акна трэба паставіць вядро чыстай вады, каб месяцу стала лягчэй.

*Латышскае народнае павер'е*

Каб лёгка месяцу было і сонцу,
Каб лёгка стала зорцы, што згасае,
Пастаў вядро вады — хай блішча донца,—
Каб лёгка мне было з маёй пакутай.

Каб лёгка мне было заўжды хварэць
Чужой хваробай, што вятры пасеюць.
Каб шчасце, радасць мне заўсёды мець,
Каб мне яны не сталі перашкодай.

Каб лёгка мне было, хапала сілы
Віну чужую браць сабе на плечы,

Каб лёгка маладосць сваю згубіла,
Каб лёгка сустракала пастарэнне.

Каб мне было няцяжка з лёгкасцю
Змагацца,
Каб мне было нялёгка лёгкасці
Паддацца.

* * *

Зялёнай траўцы горай, чым ад смагі,
Ад нашай ненатольнае увагі.

Стрыгуць яе, стрыгуць, стрыгуць, стрыгуць,
Пакуль мурашкі ў пальцах не бягуць.

Каб не расла, насення каб не мела,
Багіня Дэкла * з глуму каб нямела.

І ўсё ж дажыць, напэўна, давядзецца:
Карэннае жыццё ў травы пачнецца.

Пачне ўсярэдзіну трава расці,
У цемры паратунак каб знайсці.

У зрэзанай і намі і не намі
Сцваламі ўніз пачне расці нянавісць.

Я гладжу плечы хворыя ў травы.
Я веру ў карані яе. А вы?

---

* Дэкла (тое, што і Дэметра) — багіня ўрадлівасці.

## РАЙНІСУ

...ён пасяліўся ў вечнасці.

Але было не гэтак, як уяўляў сабе.
З вечнай травы амброзіі
быў не густы нектар,
і Пан
усім надакучыў да смерці.
Але смерці не было.
Была вечнасць, як палярнае поле,
і, здавалася, зараз, во зараз пакліча
хто-небудзь яго пяшчотным зямным голасам.
Але зямлі не было.
Была вечнасць за пятай Галактыкай,
была вечнасць.
І толькі.

...ён пасяліўся ў вечнасці.

А некаторыя гаварылі — на іншым сонцы.
Ды сонца не было.
Была вечнасць, была вечнасць.
Але ці нам разгадаць,
каму кожную раніцу
новае сонца ўзыходзіць?

Ave sol!

## СТАРАДАЎНІ ЛАТЫШСКІ МАТЫЎ

А купальскі вечар важны і ўрачысты.
І не сядзе сонца ў травы — позна ў небе ходзіць
над чалом сіротак, мамчыных дачушак,
над чалом нявестак і сястрыц адданых.

9 Зак. 516

Хутка сонца вернецца.
Хутка сонца вернецца на дабро.

Будуць рана прыцемкі зазіраць у вокны,
і араты ў хату ледзь прыцягне ногі.
У хляве цяляці за стаўпом саломы
будуць сніцца, мабыць, залатыя рогі.
Маці ад лучыны хутка печ распаліць,
і рыбак для мора падзапасіць смагі.
Прасніцы, наміткі, ручнікі, сувоі
у сястры ў куфэрку будуць для пасагу.
Грукне на вяселлі бубен анігадкі,
у суседа госці хмельна заспяваюць.
Дзецям загадаюць перад сном загадкі.
Можа, пашанцуе — штосьці адгадаюць.

А купальскі вечар важны і ўрачысты.
І не сядзе сонца ў травы —
позна ў небе ходзіць.

* * *

якое чужое, прыгожае тваё імя!
Як трапічная кветка. Але прыгажосць
адбірае твой пах, і фіялка,
драбнюткая звонку расліна,
прымушае той пах бунтаваць, паддавацца адчаю
кахання.

якое чужое і цёмнае тваё імя!
Як таямніца, што спавівае
салодкімі путамі. У беспачуццёвасці
накрухмаленых складак
ты крокус у снезе расталым
кахання.

якое грэшнае, прыгожае тваё імя!
Начнога жыцця халодная зорка.
І вечнасць, якой аддаюся з ахвотай на міг
перад тым, як свяцілу сканаць,
перад тым, як свяцілу сканаць
ад кахання.

## Віктарс Аватыньш



* * *

твой твар у гэтых лёхах змроку —
нібы ліхтар: не патушы!..
цень, што хістаецца наўзбоку —
ці не абраз маёй душы?

хто мы з табою тут — дзве долі?
без свету — страцімся ўначы.
наканавана, быццам болю,
мне праз тваё жыццё цячы.

ты шлеш паўсвета мне: ў сутонне
чароды птушак даляцяць...
а птушка, што засне ў далонях,
і ёсць каханне...
Што жадаць

вышэй яго? ад заняпаду
усё ратуецца у ім...
Тлен перад вечнасцю — улада,
і скарб набыты — толькі дым.

* * *

Ты — цёплы хлеб, калі выходзіш з хору,
Са слоў выходзіш — востры, быццам соль,
Спяваеш — апынаешся ля зораў,
А голас — незямная столь.

Спявае чалавек — і краты
Руйнуюцца, зіхціць святло ў траве...
Ён сцягвае з рукі пальчатку ка́та,
Паказвае, што птушка ў ёй жыве.

* * *

усё жыццё цвітуць старыя рэчы,
у квецені ірвуць іх і ў бутонах.
перапыніў я песню дзеда,
а ўжо праз голас мой яна ўзыходзіць.

аб вогнішча
пагрукаў бубнам поўні —
па поплаве цэментным
былое хваляванне адышло.

пасля замешваў рошчыну,
хай дзед
згадае, хто мае трымае дзверы.
— а гэта,— дзед сказаў,— маё жыццё,
мая раса, тваё ж тут чарадзейства.

старыя рэчы растаюць — што застаецца?
сказаў дзед — анічога:
той самы гам птушыны, тыя ж гульні,
але без маладосці.

як доўга мне, спытаў я, азірацца
цераз плячо на рэчы?
— пакуль табою будзе песня
мая гучаць.

* * *

На досвітку лугі-палеткі
бялеюць млечнаю расой...
І кажа дзіцянятка: — Кветкі
тут п'юць па кроплях сырадой.

І ўсё здзіўляецца, няўцяма:
— А хто ж іх поіць неўпрыкмет?
Ці мае маму гэтаксама
і гэты белы-белы свет?

## Мара Місыня



### КАЗКА

Ранак у казачнай хатцы.
Ранак таксама
ў хатцы на лапках курыных.
Я раскажу, малышка, табе
казку пра сірацiну.

Добрага ранку ты ёй пажадала,
як уранні сустрэла сёння.
Яе я пагладзіла, каб супакоіць.
Кажаш — гладзяць цябе далоні?

Магчыма.
У вас абедзвюх —
кудзеркаў залатыя кольцы.
Была б я не я,
калі б вас абедзвюх
не ўзняла да сонца.
Ведай, калі яна
поччу зімняй у лес
па суніцы збярэцца,
нельга будзе і нам
дома ля печы грэцца.

Нам будуць зайздросціць зоркі
і загудуць, як пчолы,
як дадому мы прыйдзем —
белыя, ды вясёлыя.

Душа ў сіраціны белая.
Як і ў цябе, малышка.
Кудзеркі ў вас абедзвюх —
як залатыя кольцы.
Была б я не я,
калі б гэту душу
ўзняць не змагла да сонца.

* * *

Мозг у кожнай касці,
і пад кожнай кашуляй — мужчына.
Дзе гэтак было? Дзе такое знайсці
магчыма?
Дождж ліе кожны дзень.
Зерне гніе. Усыхае рака вачыма.

Ці гэта тыя ўявы,
ад якіх магу весяліцца?
Занадта добрыя веды
са школы яшчэ засталіся,
і таму чакаю цяпер — здзейсніцца ўсё,
што абяцалі калісьці.

Ды горкае не саладзей.
І пчолы ад чумы паміраюць.
Хоць скроены ўборы мае,
ды іх не на мяне прымяраюць.
І на «шырокіх шляхах жыцця»
лупцоўка першая раніць.

Сэрца робіцца сіратой.
Яго шкадуюць добрыя людзі,
аднак не прымаюць,
хоць дабрачынна б'юць сябе ў грудзі.
І ружы ў вазах найдарагіх
хлусяць, хлусяць, хлусяць у перапудзе.
Я паважаю смаўжоў
і дажджавых
чарвякоў.
Таксама п'явак.
Ды яны сваё цела не выбіраюць,
ані паходку, ані паставу.

А я?
Навошта
здаравілу-мужчыну іграць мне,
калі спадніца на мне
і ў роце імя дзіцяці?

* * *

1

Як вожык, сустракаю кожны дотык.
Хаджу бліскучымі асколкамі гадоў.
Ужо не стала шмат якіх дарог.
Ды ёсць адна.
Яшчэ цябе я помню
скрозь кветкі кволыя дажджу.

Я развярнулася б,
але касой баюся зачапіць —
бліскучай вастрынёй, сляпым размахам.
Мо прыйдзеш,
нібы спознены прамень,

да ног маіх падкошаных
пакласці малако?

**2**

Я цябе ўспамінаю,
ўспамінаю які ўжо год,
а ціша глыбей за памяць.
Ціша. І на душы галалёд,
які не падманіць.

Я цябе ўспамінаю,
ўспамінаю яшчэ,
але ў душу не пускаю.
Баюся дыхаць.
Баюся крычаць.
Ціша такая.

Ў душы галалёд. Карціць
святы ёй мецъ і гасцей.
Ды нядоўга свечка ліпіць,
хвіліна — і змрок гусцей.

Я цябе ўспамінаю, я — вожык
з падкошанымі нагамі.
Ты спяшаешся?
Ці нясеш малако мне, можа,
як даўней было паміж намі?

* * *

Крычыць на балоце сава,
нага — як у гразкім ворыве.
Мо нехта, назваўшы маё імя,
абгаворвае?

Ды невядома чаму,
думаю я заўжды,
што абмінуць размовы, адыдуцца ўбок.
А што, калі я без скуры —
суцэльны адзін апёк?

Ці ў бочцы расла, ці ў пячоры:
як не змагла здагадацца,
што буду над совамі я лятаць
і не будзе ніхто здзіўляцца?..

## БЯДА

камень адвярнуўся дрэвы адхінуліся
сябры не глядзяць у вочы
макі не растуць
насенне заглыбка
ў чорнай схавана раллі
ў печы агонь сарамлівы
як незнаёмка
дым дарогу згубіў
з паленаў курыцца туман
гаркавы і сіняваты
засціць вочы
марудна і ўтомна
фарбы губляе свет
ні зразумець ні адчуць ні пачуць
усё адкладзем будзем маўчаць
сонцам запляміць ты яшчэ спадзяешся
дзень гэты сумны
пратэрмінаваны
поўняцца вочы слязьмі
нястрымнымі ўпартымі

* * *

Дзень гэты — цярпенне. Наступны — таксама.
Лета яшчэ не знаёмае мне.
Я затрымліваюся ў вясне.

Ужо і злічыць не ўмею. Яшчэ падлічыць не ўмею.
Мера скарбаў мая іншым не падыходзіць.
Яна толькі мне даступна.

Не спяшаюся я (чаму?). Не жыву гэтым мігам.
(Яшчэ трэба ліст напісаць,
дзіця накарміць,
вымыць падлогу...)

Пасля... Толькі пасля
жыць сапраўды буду я
гэтак радасна, прыгожая, з надзеяй,
што наварожыць мне шчасце навагодняя ноч.

* * *

Проста сустрэць я хацела вас.
Блізка восені час.
Як слязіны з павекаў лета,
вецер зрэшты сатрэ і нас.
Як слязіны з павекаў лета,
вецер сатрэ і нас.

Проста сустрэць я хацела вас.

Зоркі ўжо ходзяць ніжэй, ніжэй,
нашы шукаючы ў цемры начной.

Спее насенне чорнае ў маку.
Будзем самотней жыць гэтай зімой.
Гэтай зімой будзем жыць, як усе.
Знікла чаканне, сышло пакрысе.
Аднак,
калі жыць мы не зможам так,
парог пераступім, ён нам няўзнак,—
пойдзем туды, дзе блукае змрок,
засцячы зрок.
Нібы знарок
вочы схіліў да мяне небакрай:
— Хочаш сустрэць? Дык ідзі, не чакай.
Заўтра дарогу насення
снег замяце...

Проста сустрэць я хацела вас.
Неба, я знаю, што ўперадзе ў нас.

* * *

І зноўку з выраю птушкі з морам зару заручаюць,
курлыкаюць між сабою.
Мяне ж яны не прыкмячаюць.

Праз дожджык промні вясёлкі радасна залачаюць.
Сумуюць аблокі над полем.
Мяне ж яны не прыкмячаюць.

Купаецца сонца ў пырсках роснага малачаю,
жмурыцца ад прыволля.
Мяне ж яно не прыкмячае.

А восень малее, злуецца, кідаецца ў адчаі,
шпурляе жоўтае лісце.
Мяне ж яна не прыкмячае.

На прыбераг ночы вецер з вольнага поля збочыў;
мяне запрашае ў човен,
але не глядзіць мне ў вочы.

Дзе адшукаю брод я: навокал віры і льдзіны?
Ты не кажы адзінокай
пра тое, што свет адзіны.

Ты бачыш: і сад, і поле звязаны адною віною,
і тое, што здарыцца з імі,
здарыцца і са мною.

## АЎТАПАРТРЭТ

Водарасцю цягнуся,
бунтую спакой глыбінны.
Не, над лясною студняй
сяброўкай жорава стыну
ці ля зялёнага дуба
свой цень праз мяжу перакіну.

У юных вачах матулі
на фотаздымку даўнім
хаваюся, каб не пазналі,
якой я сягоння стану,
заўтра не шкадавалі, калі
сустракаць вас перастану.

Ратуюся я ў крыніцах,
у тонях, што тояць разлогі,
ад мёду сваіх ілюзій,
ад палу сваёй трывогі.
І прадчуванне — шчыт мой
ад злога болю знямогі.

## БІЯГРАФІЧНЫЯ ДАВЕДКІ

*Оярс Ваціецic* нарадзіўся 13.XI. 1933 г. у Валкскім р-не. Вучыўся ва універсітэце, працаваў у газетах, часопісах. Друкуецца з 1951 г. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола ЛССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1967), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1982). Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1972), народны паэт Латвіі (1977). Яго паэзія інтэлектуальная, публіцыстычная, баявая. Пісаў прозу і творы для дзяцей. Пераклаў вершы Р. Барадуліна, А. Бачылы, П. Броўкі, С. Дзяргая, П. Панчанкі. Памёр 29.XII.1983 г.

*Яніс Плотніекс* нарадзіўся 24.III.1932 г. у Мадонскім раёне. Скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт (1957). Працуе рэдактарам у часопісе «Зілітэ» («Сініца»). Друкуецца з 1951 г. Піша нарысы, апавяданні, аўтар твораў для дзяцей, кінасцэнарыяў, рамана. З беларускай пераклаў вершы М. Аўрамчыка, П. Глебкі, П. Макаля, Я. Пушчы, М. Танка. Склаў і пераклаў кнігу выбраных вершаў М. Танка «Берасцяная труба».

*Скайдрытэ Калдупэ (Кікута)* нарадзілася 24.II.1922 г. у Меллужы. Скончыла Латвійскі дзяржаўны універсітэт (1951). Была навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнага музея літаратуры і мастацтва імя Райніса, настаўнічала. Друкуецца з 1956 г. Аўтар рамана, піша літаратурныя казкі і апавяданні.

*Віктарс Лійгэмніекс* нарадзіўся 2.III.1936 г. у Рызе. Вывучаў літаратуру і журналістыку ў Латвійскім дзяржаўным

універсітэце імя П. Стучкі. Працаваў будаўнікам, сувязістам, журналістам, загадваў бібліятэкай. Друкуецца з 1951 г. Склаў і пераклаў кнігу выбраных вершаў Р. Барадуліна «Сенакос», пераклаў вершы А. Русецкага.

*Аўсма Пормалэ* нарадзілася 28.IV.1932 г. у горадзе Ліваны. Па заканчэнні Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве (1973) працавала сакратаром, машыністкай. Друкуецца з сярэдзіны пяцідзесятых гадоў. Памерла 17.XI.1979 г.

*Лія Брыдака* нарадзілася 3.IX.1932 г. у горадзе Алуксна. Скончыла Латвійскі дзяржаўны універсітэт (1956) і Вышэйшыя сцэнарныя курсы ў Маскве (1966). Працавала настаўніцай, рэдактарам, сакратаром праўлення СП Латвіі, у выдавецтве. Зараз працуе ў Рыжскай кінастудыі намеснікам галоўнага рэдактара. Друкуецца з 1953 г. Піша нарысы, апавяданні, кінасцэнарыі. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1976), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1977).

*Лайманіс Вацземніекс* нарадзіўся 5.IV.1929 г. у Рызе. Скончыў школу працоўных рэзерваў (1950). Працаваў у рэдакцыях часопісаў, зараз адказны сакратар часопіса «Зілітэ» («Сініца»). Друкуецца з 1953 г. Разам з былым партызанам А. Громам напісаў дакументальныя раманы «Карчакопы» (1975), «Землякі» (1980) аб сумеснай барацьбе латышскіх, рускіх і беларускіх партызан супраць гітлераўскіх захопнікаў.

*Дайна Аватыня* нарадзілася 4.XI.1926 г. у горадзе Валміера. Вучылася ў Латвійскім дзяржаўным універсітэце, працавала на розных пасадах у Латвійскім дзяржаўным выдавецтве і ў апараце СП Латвіі. Друкуецца з 1955 г. Працуе і як празаік. Многа перакладае з літоўскай мовы.

*Імантс Ласманіс* (14.03.1937 г.— 12.01.1977 г.). Скончыў універсітэт (1960). Пачаў друкавацца з 1955 г. У вершах імкнуўся выказацца проста, ясна, эмацыянальна, пісаў толькі ад сябе асабіста. Многа перакладаў для дарослых і дзяцей (у тым ліку творы Я. Сіпакова).

*Імантс Зіеданіс* нарадзіўся 3.V.1933 г. у Тукумскім раёне. Скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1959), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1964). Працаваў настаўнікам, бібліятэкарам, рэдактарам, сакратаром праўлення СП Латвіі. Друкуецца з 1956 г. Лаўрэат

Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1967) і прэміі Ленінскага камсамола Латвіі (1972), заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1972), народны паэт Латвіі (1977). Удастоены прэміі міжнароднай камісіі дзіцячай літаратуры імя Андэрсена (1973). Выступае і як літаратурны крытык, стварае філасофскія мініяцюры, прозу ў вершах, творы для дзяцей, піша сцэнарыі.

*Імантс Аўзіньш* нарадзіўся 13.XI.1937 г. у Стучскім раёне. Скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1961). Працаваў журналістам, рэдактарам у выдавецтве, сакратаром праўлення СП ЛССР, у часопісе «Даўгава». Друкуецца з 1956 г. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1980), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1977). Пераклаў вершы Р. Барадуліна, В. Віткі, А. Вялюгіна, П. Глебкі, М. Лужаніна, П. Броўкі, Р. Няхая.

*Арыя Элкснэ (Фішэрэ)* нарадзілася 7.II.1928 г. у горадзе Крустпілс. Скончыла медінстытут (1953), аспірантуру. Працавала ўрачом, выкладчыкам, літкансультантам у Саюзе пісьменнікаў Латвіі. Друкуецца з 1956 г. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1975), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі (1976). Пераклала вершы В. Віткі, А. Звонака, М. Лужаніна, П. Макаля, М. Машары, П. Прыходзькі.

*Эгілс Плаўдзіс* нарадзіўся 15.VI.1931 г. у Рызе. Скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1961). Друкуецца з 1958 г.

*Яніс Сірмбардзіс* нарадзіўся 13.I.1937 г. у Цэсіскім раёне. Па заканчэнні Латвійскага дзяржаўнага універсітэта імя П. Стучкі (1961) на рэдактарскай рабоце. Друкуецца з 1958 г. Аўтар некалькіх паэм. Перакладаў вершы паэтаў многіх народаў, у тым ліку беларускіх А. Бачылы, В. Вярбы, А. Вялюгіна, А. Куляшова.

*Олафс Гутманіс* нарадзіўся 10.I.1927 г. у горадзе Ліепая. Працаваў грузчыкам, паляўнічым у Краснаярскім краі, харыстам у драмтэатры, літсупрацоўнікам, старэйшым рэдактарам Дзяржаўнага камітэта ЛССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні і інш. Друкуецца з 1958 г. Аўтар кніг паэзіі і прозы.

*Мілда Лосберга* нарадзілася 17.VI.1923 г. у Рызе. Скончыла Латвійскі дзяржаўны універсітэт (1949), абараніла дысертацыю і працавала дацэнтам. Вершы пачала пісаць школьніцай, але сістэматычна займаецца творчасцю з 1950 г. Выступае і як літаратурны крытык.

*Вітаўтс Людэнс* нарадзіўся 28.I.1937 г. у горадзе Елгава. Завочна скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1965). Друкуецца з 1960 г. Акрамя лірычных вершаў піша паэмы, балады, санеты, сатыру, вершы для дзяцей.

*Марыс Чаклайс* нарадзіўся 16.VI.1940 г. у горадзе Салдус. Скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1964). Працаваў у рэдакцыях газет, у выдавецтве. Друкуецца з 1960 г. Перакладае, піша нарысы, эсэ, літаратурныя партрэты, творы для дзяцей.

*Яніс Пэтэрс* нарадзіўся 30.VI 1939 г. у горадзе Прыекуле. Працаваў рабочым сцэны, журналістам. Друкуецца з 1961 г. Многія яго вершы сталі песнямі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Латвіі. Піша нарысы, эсэ, публіцыстычныя артыкулы, кінасцэнарыі. Пераклаў вершы П. Панчанкі і інш.

*Айварс Нэйбартс* нарадзіўся 5.XII.1939 г. у Рызе. Друкуецца з 1962 г. Паэтычны стыль своеасаблівы: часта ў адным вершы сатыра спалучаецца з лірыкай, рэальнасць з неабмежаванай фантазіяй.

*Петэрыс Юрцыньш* нарадзіўся 17.XII.1932 г. у Лудзенскім раёне. Завочна скончыў Вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1963). Працаваў крымінальным следчым, у Міністэрстве ўнутраных спраў ЛССР. Загадвае рэдакцыяй у выдавецтве «Ліесма» («Полымя»). Друкуецца з 1962 г.

*Нора Кална* нарадзілася 1.XI.1939 г. у Ліепайскім раёне. Завочна скончыла Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1966). Больш як дзесяць гадоў працавала ў журналістыцы. Друкуецца з 1963 г.

*Вэлга Крылэ* нарадзілася 27.IX.1945 г. у Валкскім раёне. Вучылася ва універсітэце, загадвала клубам, працавала карэктарам у выдавецтве і інш. Друкуецца з 1963 г.

*Лайма Лівэна (Лаймдота)* нарадзілася 9.VI.1943 г. у Талсінскім раёне. Працавала заатэхнікам у саўгасе. Завочна скончыла Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Друкуецца з 1964 г.

*Улдзіс Берзіньш* нарадзіўся 17.V.1944 г. у Рызе. Скончыў усходні факультэт Ленінградскага універсітэта (1971). Дру-

куецца з 1965 г. Перакладае з азербайджанскай і турэцкай моў.

*Вэлта Калтыня* нарадзілася 28.VI.1931 г. у Екабпілскім раёне. Скончыла медінстытут (1955), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1975). Працуе ювелірам. Друкуецца з 1965 г.

*Пэтэрыс Зірніціс* нарадзіўся 28.XI.1944 г. у Рызе. Скончыў факультэт псіхалогіі Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта (1969). Друкуецца з 1966 г. Працаваў сакратаром праўлення СП Латвіі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Латвіі (1980).

*Ілзэ Біндэ* нарадзілася 7.VI.1941 г. у Цэсіскім раёне. Скончыла тэхнікум культуры і асветы (1961). Працуе на тэлебачанні. Друкуецца з 1966 г.

*Элза Судмалэ (Грынберга)* нарадзілася 21.I.1922 г. у Цэсіскім раёне. Скончыла Латвійскі дзяржаўны універсітэт (1949). Працавала ў выдавецтве «Ліесма» («Полымя»). Друкуецца з 1966 г. Шмат перакладае. Сааўтар «Слоўніка сінонімаў латышскай мовы».

*Леанс Брыедзіс* нарадзіўся 16.XII.1949 г. у Мадонскім раёне. Вучыўся ў Латвійскім і Кішынёўскім дзяржаўных універсітэтах. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1979). Друкуецца з 1967 г. Піша літаратурныя агляды, эсэ, перакладае рускіх, малдаўскіх, партугальскіх і румынскіх аўтараў.

*Армандс Мэлнаксніс* нарадзіўся 15.V.1943 г. у Талсінскім раёне. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1979). Друкуецца з 1967 г. Піша і для дзяцей.

*Яніс Рокпелніс* нарадзіўся 2.X.1945 г. у Рызе. Скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1981). Друкуецца з 1968 г. Загадвае аддзелам паэзіі штотыднёвіка «Літэратура ун максла» («Літаратура і мастацтва»).

*Аўгустс Штраўс* нарадзіўся 16.VIII.1934 г. у Ліепайскім раёне. Адукацыю атрымаў самастойна. Друкуецца з 1968 г. Выступае і як крытык, і празаік.

*Эйжэнс Вэверыс* нарадзіўся 9.VII.1899 г. у Рызе. У час першай сусветнай вайны добраахвотна ўступіў у латышскія стралкі. У гады буржуазнай Латвіі настаўнічаў, быў беспрацоўным. Як савецкі актывіст быў кінуты фашыстамі ў канцлагер. Раннія вершы не захаваліся. Лаўрэат Дзяржаўнай

прэміі ЛССР (1970), заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1974). Памёр 8.II.1976 г.

*Яніс Балтвілкс* нарадзіўся 24.VII.1944 г. Вучыўся ва універсітэце, скончыў Латвійскую сельскагаспадарчую акадэмію (1972). Працаваў у АН ЛССР, рэдактарам у выдавецтве «Ліесма» («Полымя»). Піша і для дзяцей.

*Мара Залітэ* нарадзілася 18.II.1952 г. у Краснаярску. Скончыла Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1975). Друкуецца з 1971 г. Працуе кансультантам паэзіі ў часопісе «Ліесма» («Полымя»). Аўтар дзвюх п'ес.

*Віктарс Аватыньш* нарадзіўся 12.XII.1947 г. у Лудзе. Скончыў Рыжскі інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі (1972). Працуе намеснікам рэдактара ў штотыднёвіку «Літэратура ун максла» («Літаратура і мастацтва»). Друкуецца з 1973 г. Выступае і як публіцыст.

*Мара Місіня* нарадзілася 31.VIII.1949 г. у Елгаўскім раёне. Скончыла Латвійскі дзяржаўны універсітэт імя П. Стучкі (1971). Друкуецца з 1972 г. Працавала кансультантам паэзіі ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў Латвіі, зараз другі сакратар Саюза. Пераклала вершы В. Зуёнка, Е. Лось.

ЗМЕСТ



**Латышская** савецкая паэзія: Анталогія.
Л 27 У 2-х т. Т. 2/[Уклад. М. Абала, С. Панізнік]; Рэд. Р. Барадулін.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 270 с.

У пер.: 1 р. 30 к.

Том склалі вершы паэтаў пасляваеннага прызыву. Народныя паэты Латвіі Ояpc Вацієціс і Імантс Зіеданіс і тыя, хто ідзе за імі, гучаць па-беларуску ўпэўнена і пранікнёна. Сённяшні дзень латышскай паэзіі, яе клопаты і здабыткі даволі выяўна адчуваюцца ў вершах паэтаў Латвіі.

$Л\ \frac{4702340200-165}{М302(05)-84} 147-84$ — ББК 84Лат7

С(Лат)2

**Латышская советская поэзия**

*Антология в двух томах*

**Том 2**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Н. І. Тулупава
Мастак А. В. Ружо
Мастацкія рэдактары
А. І. Труханава, А. І. Цароў
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар Я. А. Бебель

ІБ № 1370

Здадзена ў набор 25.06.84. Падп. да друку 05.11.84. Фармат 70×100[1]/[32]. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,96. Ум. фарб.-адб. 10,96. Ул.-выд. арк. 10,19. Тыраж 2000 экз. Зак. 516. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.